



# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

19 ЧЭРВЕНЯ 1998 Г. | № 25/3953 | КОШТ 4 000 РУБ.



## АСАБЛІВАСЦІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ АДУКАЦЫІ

***Яўген РАГІН: "Беларус у гэтым свеце не лепшы, але і не горшы. Няхай сабе і размаўляе пакуль у большай ступені на "трасянцы", і памыляецца пастаянна ў чымсьці. Але ці ёсць у свеце нацыя, якая ідзе да свайго шматмільённага "я" без перашкод і смяротных пакут..."***

**4, 14**

## БЕЛАРУСКІ ІНТЭЛЕКТУАЛІЗМ...

***Валянцін АКУДОВІЧ: "За камуністамі беларусам было дазволена пісаць апавяданні і раманы, маляваць карціны і ствараць скульптуры, ставіць спектаклі і спяваць песні, але нельга было мысліць... Беларусам было забаронена мысліць. Тут карціць дадаць — самастойна, але іншага мыслення, акрамя самастойнага, не бывае".***

**5, 12**

## ДЗЕ РАЗДАЮЦЬ ПУСТЫЯ КАНІСТРЫ...

***Людміла РУБЛЕЎСКАЯ: "Сяргей Патаранскі мае рацыю — літаратура не канчаецца. Яе будуць працягваць ствараць і ўжо ёсць каму гэта рабіць. І будуць творы, і будуць кнігі — іншыя, лепшыя. І аўтараў іх заўважаць і запомняць менавіта так — па іх творах, а не па гнеўных допісах".***

**6—7**

## ВЕРА, ПРАЎДА, АХВЯРНАСЦЬ І МЕЧ

***Вершы Максіма ЛУЖАНІНА***

**8**

## РАТУЙЦЕ ВАШЫ ДУШЫ

***Апавяданне Віктара СУПРУНЧУКА***

**9, 12**

## ЖЫЦЦЁ КАРОТКАЕ

***З "Дзённіка" Жуля РЭНАРА***

**16**




# Сама зямная прыгажосць

## Гаўрылу ВАШЧАНКУ — 70

Здаўна жыве ўва мне адчуванне таго, што сапраўдны талент прыходзіць да нас з будучыні і вяртаецца ў яе. Думаў аб гэтым і ў час сваіх гутарак з народным мастаком Беларусі, прафесарам, акадэмікам жывапісу Гаўрылам Харытонавічам Вашчанкам, які прыязджаў у Светлагорск з нагоды адкрыцця выставы яго акварэльных твораў у мясцовай карціннай галерэі.

Без перабольшвання можна сказаць, што імя гэтага мастака набыло сусветную вядомасць. Даводзілася чытаць афіцыйныя звесткі аб узнагародах і ганаровых адзнаках Г. Вашчанкі, сабраныя прарэктарам па навукова-творчай рабоце Беларускай акадэміі мастацтваў, дацэнтам Л. Дзягілевым. Дык вось, займаюць гэтыя звесткі пяць старонак шчыльна надрукаванага машынапіснага тэксту. Не буду пералічваць іх, нагадаю, што ў 28 буйнейшых мастацкіх музеях свету захоўваюцца яго творы. У Траццякоўскай галерэі — іх 12.

Напярэдадні 70-годдзя слыннага мастака зноў і зноў парагортваю блакнот з запісамі нашых гутарак і нібыта чую яго ціхі, удумлівы голас.

**— Гаўрыла Харытонавіч, калі не памыляюся, гэта была першая ваша чыста акварэльная выстава.**

— Так, першая. Акварэль дазваляе захаваць і хутчэй увасобіць першаснасць адчування. Я звяртаюся да яе на працягу ўсяго свайго творчага шляху. А вось паказаў такую экспазіцыю сапраўды ўпершыню ў Светлагорску.

**— Многія змаглі пераканацца, што кожны з гэтых вашых акварэльных твораў вызначаецца мяккасцю танальных пераходаў, яскравым адчуваннем прыгажосці, філасофскім абагульненнем убачанага і асэнсаванага... Вы не маглі не заўважыць святочны настрой тых, хто прыйшоў у галерэю. Не маглі не адчуць іх удзячнасці.**

— Мяне сапраўды ўсхвалявала шчырасць, што панавала ў галерэі. Прыемна ўразіла тое, з якой клапатлівай увагай ставяцца да галерэі кіраўнікі гарадскога і раённага выканаўчых камітэтаў. Усе яны прыйшлі на адкрыццё выставы. Я меў магчымасць пагутарыць з імі і пераканаўся, што яны не збіраюцца ўтойваць сацыяльныя хваробы горада, а імкнуцца лячыць іх духоўным узвышэннем светлагорцаў.

**— Упершыню вы прыехалі ў Светлагорск у 1972 годзе. Рабілі роспіс Палаца культуры хімікаў. Той самы, які зараз лічыцца хрэстаматыйным, рэпрадукцыі якога змешчаны ў самых аўтарытэтных выданнях, прысвечаных выяўленчаму мастацтву Беларусі. І вось зноў праз 25 гадоў вы ў гэтым горадзе. Якім памятаецца ён вам?**

— Тады такога горада не было. Памятаю толькі дамы першага мікрараёна і вёску Шацілкі. Разам з архітэктарам мы хадзілі каля Бярэзіны і гаварылі аб будучым горадзе. Многае з таго, што я тады чуў, стала рэальнасцю. Светлагорск мае сучаснае архітэктурнае аблічча.

**— Як працавалася вам тады?**

— З уздымам. І не толькі мне. Можа, таму і рабіў сваю справу з захапленнем. Меў вопыт такой працы, здабыты ў Кішынёве і Маскве. Гэтым роспісам мне хацелася не толькі спалучыць сённяшні і заўтрашні дзень, але і выклікаць адчуванне касмічнасці. Не, не ў сэнсе палётаў у космас. Не толькі гэта. Проста я думаў аб тым, што мы не адзінокія ў Сусвеце. Для мяне касмічнасць — гэта і патаемная прадвызначанасць... Вось паэты іншы раз скардзяцца, або наракаюць, што "не ідуць" вершы. У мастакоў працэс, або, даруйце за такое слова, "тэхналогія" больш складаная. І ўсё ж, здараецца, ноч не спіш. Усё да дробязей прадумаеш. Але раніцой прыйдзеш у майстэрню, зробіш першы мазок — і павяло... Хто павёў, як павяло — аднаму Богу вядома. Але ад задуманага і

*(Працяг на стар. 11)*

КОНКУРСЫ

# Ушануйма родную мову

Сёлета на пачатку лютага мінскі клуб "Спадчына" і Мінская рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выступілі ініцыятарамі правядзення конкурсу па стварэнні архітэктурна-кампазіцыйнага манумента "У гонар роднага слова". Мэта праекта — праз пластычнае вырашэнне паказаць фундаментальнасць і неўміручасць беларускай мовы як боскага дару, яе веліч і багацце, самаахвярнасць лепшых прадстаўнікоў нацыі, якія паслядоўна адстойвалі і адстойваюць гэтыя прынцыпы. Лейтматывам конкурсу павінны стаць словы Францішка Багушэвіча: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі".

З гэтай нагоды быў створаны аргкамітэт, у склад якога ўвайшлі вядомыя ў рэспубліцы дзеячы культуры, мастацтва, навукі. Сярод іх — І. Шамякін, Г. Бураўкін, В. Іпатава, У. Гніламёдаў, Г. Вашчанка, Ю. Градаў, Л. Гумілеўскі, Л. Шчамялёў, А. Белы і іншыя. Узначаліў яго старшыня рады Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзімір Някляеў.

Не так даўно адбылося першае пасяджэнне аргкамітэта. Былі разгледжаны першыя конкурсныя варыянты.

Сябры аргкамітэта звяртаюцца да грамадскасці краіны, Міністэрства культуры, творчай інтэлігенцыі з просьбай падключыцца да гэтай высакароднай справы, прыняць удзел у адкрытым конкурсе па пластычным увасабленні манумента "У гонар роднага слова". Пераможцы трох лепшых праектаў, як і пераможцы па падачы тэкставага матэрыялу, будуць аб'яднаны ў агульны творчы калектыў для далейшай працы па ўганараванні роднай мовы.

ІМПРЭЗЫ

# Класны канцэрт

Вызначэнне "класны" — не з лексікону акадэмічных музыкантаў. Яны назвалі б той канцэрт выбітным, цудоўным, адметным... І ўсё ж гэта быў класны канцэрт! Бо яго праграма паяднала студэнтаў ды асістэнтаў-стажораў класа прафесара Беларускай акадэміі музыкі заслужанага артыста рэспублікі Юрыя Гільдзюка, якія паказалі клас фартэпіяннага выканальніцтва. У той вечар, які прайшоў у Вялікай зале сталічнай філармоніі пад рубрыкай "Настаўнікі і вучні", яны гралі музыку Брамса і Рахманінава, Моцарта, Мендэльсона і Шапэна... А потым выйшлі ўсе разам на паклон да ўдзячнай публікі — пяцёра вучняў ды іхні настаўнік: лаўрэат міжнародных конкурсаў Андрэй Панachэўны, Таццяна Захарава, лаўрэат міжнароднага конкурсу Таццяна Вайновіч, Алена Лузан, лаўрэат міжнародных конкурсаў Андрэй Сікорскі ды заслужаны артыст Беларусі прафесар Юры Гільдзюк.



*Фота К. ДРОБАВА*

РЭЗАНАНС

# "Парушэнняў нязначная колькасць..."

У N 16 за 17 красавіка гэтага года ў публікацыі "Калі дрэвы паміраюць не стоячы..." ішла гаворка пра масавае знішчэнне ліп і таполяў у горадзе Мінску, якое ажыццяўлялася нібыта ў адпаведнасці з праграмай пад прэтэнцыёзнай назвай "Таполя". Група аўтараў звярталася з адкрытым лістом у Рэспубліканскую экалагічную камісію пры Прэзідыуме Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, асабіста да акадэміка І. Ліштвана з просьбай пахадайнічаць і прыняць неадкладныя меры, каб спыніць масавае знішчэнне зялёнага фонду горада.

Экалагічная камісія і Навуковы савет па праблемах біясферы Нацыянальнай акадэміі навук прапанавалі прыпыніць выкананне праграмы "Таполя" і стварыць са спецыялістаў і вядучых вучоных навукова-даследчых установ і ВНУ горада незалежную экспертную камісію з эколагаў, фітапатолагаў і дэндролагаў для кваліфікаванага вызначэння стану зялёных насаджэнняў горада і выбарачнага знішчэння хворых дрэў.

Вось які адказ атрымала рэдакцыя са Спецыялізаванага арэнднага прадпрыемства "Мінскзяленбуд" за подпісам яго генеральнага дырэктара В. Костусева:

"Па пытаннях, узнятых у артыкуле "Калі дрэвы паміраюць не стоячы..." ("ЛіМ", N 16 ад 17.04.98 г.), САП "Мінскзяленбуд" паведамляе наступнае. У пасляваенныя гады ў горадзе Мінску выкарыстоўвалі для азелянення ў асноўным таполю — хуткарастучую пароду. Прайшлі дзесяткі гадоў, дрэвы састарэлі і страцілі дэкаратыўны выгляд, некаторыя сталі аварыйнымі і небяспечнымі для жыцця гараджан. Гэта пацверджана вынікам урагану, які закрануў Мінскую вобласць і горад Мінск у чэрвені 1997 года.

Пры абмеркаванні ходу ліквідацыі наступстваў гэтага ўрагану на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь (пратакол ад 08.07.97 г. N 12 пункт 1.10) было даручана Мінаблвыканкаму, Мінскаму гарвыканкаму арганізаваць абследаванне зялёных насаджэнняў уздоўж вуліц, дарог і іншых камунікацый, прыняць неабходныя меры па прывядзенні гэтых насаджэнняў у парадак, у тым ліку і за кошт санітарных высечак.

Аналагічныя даручэнні Мінскаму гарвыканкаму былі дадзены Міністэрствам па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь (ліст N01/3624 ад 10.09.1997 г.).

Актуальнасць гэтай праблемы ў чэрвені 1997 г. відавочна была ўсім, калі паваленыя ўраганам старыя дрэвы перашкаджалі руху аўтатранспарту, абрывалі пры падзенні электралініі, стваралі пагрозу для жыцця людзей.

А якую пагрозу ўяўляюць дрэвы, самавольна высаджаныя на ўнутрыдваровых тэрыторыях жыхарамі горада без праектных рашэнняў па падземных камунікацыях, паблізу сцен жылых будынкаў, у парушэнне СНіП 2.07.01-89?

За ўрон, нанесены падземнем аварыйных дрэў, разбурэннем падземных і паветраных камунікацый каранёвай сістэмай, галінкамі, адказвае ўладальнік зялёных насаджэнняў.

Абследаванні стану зялёных насаджэнняў горада праводзіліся ацэначнымі камісіямі раённых адміністрацый. У склад камісій уваходзяць: галоўны раённы архітэктар, прадстаўнікі раённай зялёнай гаспадаркі, жыллёвага рамонтна-эксплуатацыйнага аб'яднання, таварыства аховы прыроды і ўладальнік абследуемых зялёных насаджэнняў.

На падставе актаў раённых ацэначных камісій і складзена праграма "Таполя". Ажыццяўленне гэтай праграмы разлічана на 5 гадоў.

Узамен знесеных дрэў з улікам дапушчальных адлегласцяў ад сцен будынкаў, сетак падземных камунікацый, збудаванняў, паветраных ліній электраперадач і г.д. прадугледжваецца пасадка высокадэкаратыўных і даўгавечных зялёных насаджэнняў. З улікам знесеных зялёных насаджэнняў у 1998 годзе структурнымі падраздзяленнямі САП "Мінскзяленбуд" павялічана колькасць высаджваемых дрэў у параўнанні з 1997 годам на 3,5 тыс. шт., кустарнікаў — на 4 тыс. шт.

Пытанні, якія ўзніклі ў ходзе выканання праграмы "Таполя", абмяркоўваліся на нарадзе ў красавіку ў Мінскім гарадскім камітэце прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Камісіяй у складзе прадстаўнікоў Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя АП "Мінскзяленбуд", ГП упраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі, Цэнтральнага батанічнага саду Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі былі праверны асобныя аб'екты, на якіх праводзіліся работы па праграме "Таполя". Камісія прыйшла да высновы, што істотных парушэнняў выяўлена нязначная колькасць.

Праграму "Таполя" неабходна выконваць паэтапна, вызначаючы ў залежнасці ад ступені аварыйнасці і стану зялёных насаджэнняў час і тэрмін іх зносу".

Вось так. "Істотных парушэнняў выяўлена нязначная колькасць:..". Адказ, годны для колішняга "вожыкаўскага" раздзела "Знарок не прыдумаеш"!

АБСЯГІ

*МАГІЛЁЎ...*

## На радзіме Бялыніцкага-Бірулі

У Бялыніцкім раённым мастацкім музеі прайшла выстава работ удзельнікаў мінулагодняга II Міжнароднага пленэру жывапісу, прысвечанага 125-годдзю з дня нараджэння народнага мастака БССР і РСФСР акадэміка Вітольда Бялыніцкага-Бірулі.

У экспазіцыі было прадстаўлена больш за 60 карцін, напісаных 25-ю аўтарамі з Беларусі, Расіі, Украіны і Польшчы. Усе работы створаны ў асноўным у наваколлі маёнтка Крынкі, дзе нарадзіўся знакаміты майстар, і на акадэмічнай дачы "Чайка" ў Цвярской вобласці, дзе на працягу многіх год жыў і ствараў свае бессмяротныя творы Бялыніцкі-Біруля.

## Карціны са... скуры

У выставачнай зале абласнога аддзялення Саюза мастакоў РБ упершыню паказала свае творы бабруйчанка Таццяна Карчажкіна. Гэта самабытныя графічныя работы акварэллю, гуашшу. Але больш незвычайна і экспрэсіўна выглядалі яе карціны, зробленыя з кавалачкаў спецыяльна апрацаванай і падфарбаванай скуры.

## Мастацкая рэтраспектыва

Музей этнаграфіі Магілёва наладзіў выставу графічных работ з прыватнай калекцыі вядомага ў Санкт-Пецярбургзе збіральніка і папулярызатара творчасці сучасных мастакоў Н. Благаратава. На ёй — некалькі дзесяткаў гравюр, акварэляў, літаграфій, малюнкаў вуглём, тушшу, створаных мастакамі з Пецярбурга, Масквы, Мінска і іншых гарадоў былога СССР з 60-ых па 80-ыя гады.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*БРЭСТ...*

## Сустрэча з нёманцамі

Насуперак матэрыяльным цяжкасцям сапраўдным агменем нацыянальнай культуры з'яўляецца абласная бібліятэка імя Максіма Горкага. Набыццё літаратуры, падпіска на перыёдыку, збор кніжнай інфармацыі, прэм'еры кніг, сустрэчы з аўтарамі — усё тут робіцца на добрым узроўні. Нядаўна бібліятэкары наладзілі для сваіх чытачоў чарговую літаратурную сустрэчу, на гэты раз — з супрацоўнікамі часопіса "Нёман" Анатолем Кудраўцом і Алесем Пашкевічам. Госці расказалі пра гісторыю станаўлення, сённяшні дзень і планы часопіса, прачыталі свае творы, адказалі на шматлікія пытанні. Разам з імі выступілі берасцейскія аўтары "Нёмана" Алена Ігнацюк, Алесь Каско, Мікалай Пракаповіч, іншыя, а таксама дырэктар бібліятэкі Тамара Муха.

## І зноў — Наталля Чорнагаловая

Творы гэтай берасцейскай мастачкі называюць экстравагантнымі. Як, зрэшты, і характар паводзін самой аўтаркі. То яна ўязджае ў выставачную залу на чорным кані, то чытае вершы і малюе на вуліцы, то размалёўвае на фоне карцін самую сябе... І няма, бадай, у Брэсце іншага жывапісца, хто б так апантана працаваў, так багата афармляў экспазіцыі сваіх твораў. Таму чарговая выстава Наталлі — пейзажы, партрэты — выклікала найвышэйшую цікавасць. На адкрыцці выставы выступілі калегі, журналісты, проста аматары мастацтва, якія зноў здзіўляліся разнаволенасці ліній, гульні фарбаў, фантазіям аўтаркі, а ў цэлым — надзвычайнай арыгінальнасці яе мастацкага почырку.

## Пакуль умеем смяяцца

Да кніжак, што выходзяць на перыферыі, стаўленні, як вядома, розныя. Але факт, што сярод такіх выданняў, у тым ліку "саматужных" трапляюцца і добрыя. Да апошніх, лічым, належыць зборнік гумарэсак "Смех на высадку" аўтара з Камянца Івана Жытко, які даволі шырока друкуецца ў перыёдыцы. Яго творы незласлівыя, прасякнутыя спагадліваю ўсмешкаю, густа перасыпаныя народнымі жартамі. Ён (дарэчы, былы супрацоўнік міліцыі) застаецца актывістам Таварыствам беларускай мовы. Разважаючы пра лёс роднага слова, Іван Андрэевіч аптымістычна сцвярджае: "Пакуль умеем смяяцца — датуль будзем жыць..."

**Сымон АКСЕНІН**

*ВІЦЕБСК...*

## Адкрывалі не для таго, каб разбураць...

Днямі на месцы лагера смерці, створаным гітлераўцамі ў час апошняй вайны каля вёскі Мар'янава ў Лёзненскім раёне, быў адкрыты помнік ахвярам фашызму. У траўні-чэрвені 44 года ў канцлагеры каля Мар'янава ўтрымлівалі 12 тысяч мірных жыхароў і ваеннапалонных.

На адкрыцці мемарыяла сабраліся былыя вязні лагера, прадстаўнікі мясцовай улады. А праз тыдзень, напярэдадні Сёмухі, нейкія вандалы імкнуліся адарваць камень ад падмурка манумента. У выніку ён раскалоўся. Гавораць, нібыта ноччу каля жалобнага месца працаваў трактар. Па факце вандалізму ўзбуджана крымінальная справа. Старшыня Лёзненскага райсавета дэпутатаў Віктар Рабчынскі запэўніў, што мемарыял будзе адноўлены.

## Археалагічныя раскопкі на месцы рэстаўрацыі

Аднаўленне гістарычнага будынка помніка архітэктуры XIX стагоддзя па вуліцы Талстога ў Віцебску пачалося з яго... разбурэння. Па словах навуковага кіраўніка праекта рэстаўрацыі дома Яўгена Калбовіча, праект гэты прайшоў узгадненне ў Міністэрстве культуры і інспекцыі па ахове помнікаў, дзе страта дома для яго — поўная нечаканасць. Адноўлены будынак, маркуецца, будзе мець дакладны гістарычны дэкор, натуральна ўпішацца ў геаметрыю вуліцы.

Зараз агаліўся культурны слой XII—XIV стагоддзяў, і археолагі пад кіраўніцтвам навуковага супрацоўніка Акадэміі навук Вольгі Ляўко праводзяць пошукавыя работы. Іх фінансаванне ўзяла на сябе вядомая фірма "Марко", якой цяпер і належыць гістарычны будынак.

**Святлана ГУК**

*ГОМЕЛЬ...*

## Ведаюць у Еўропе

Далёка за межамі Беларусі вядома Гомельская сярэдняя школа N 19 з архітэктурна-мастацкім ухілам. Работы навучэнцаў экспанаваліся ў Германіі, Італіі, Даніі, Нарвегіі, Аўстрыі. Выхаванцы школы становяцца высокапрафесійнымі мастакамі. У гэтыя дні яны арганізавалі ў родным горадзе буйную выставу, на якой прадставілі 200 работ. Гэта жывапіс, графіка, вышыўка, разьба па дрэве, аплікацыя.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## *Людзям без храма нельга...*



Гэты здымак зроблены ў Халопенічах Яўгенам Казюлем у той дзень, калі непадалёк адкрываўся помнік славутаму ўраджэнцу мястэчка Адаму Ягоравічу Багдановічу. У спалучэнні дзвюх падзей — адкрыццё помніка выдатнаму навукоўцу-этнографу і пачатак адбудовы царквы, глыбокі сэнс. Бо адраджэнне праўдзівай гісторыі Беларусі і адраджэнне веры ідуць побач. Побач з разбуранай цаглянай Свята-Успенскай царквою (пабудавана ў 1863 годзе, разбурана вядома калі...) будзе стаяць драўляная. Бо пакуль на адбудову цаглянай у дзяржавы грошай няма, а людзям без храма нельга.

## *Перавыбары ў драматургаў*

Секцыя драматургіі калісьці існавала пры Саюзе тэатральных дзеячаў. Фармальна, можа, яна там і зараз ёсць, але з цягам часу ўсе сталыя драматургі пакінулі як секцыю, так і сам саюз.

Нельга сказаць, што яны часта сустракаліся пры Саюзе пісьменнікаў, тым не менш — секцыя захавалася і нават дружна сабралася на перавыбары. Даўні яе старшыня Алесь Петрашкевіч папрасіўся на адпачынак. Трымаючы курс на амаладжэнне, пісьменнікі выбралі старшынёй Галіну Каржанеўскую, сакратаром — Андрэя Федарэнку, а таксама падзяліліся ўражаннямі ад новых спектакляў. Абмеркавана творчасць здольнага аўтара з Чэрвеня Генадзя Аўласенкі. Ён неаднаразова ўдзельнічаў у рэспубліканскіх конкурсах па драматургіі і браў прызы. Піша, акрамя таго, вершы для дзяцей, актыўна выступае ў друку.

## *Даследчыкі — вучні*

У Мінску адбыўся 2-гі рэспубліканскі конкурс на лепшую навукова-даследчую работу вучняў. Усяго брала ўдзел 217 школьнікаў, якія працавалі ў 14 секцыях.

У секцыі беларускай філалогіі было прачытана 19 дакладаў. Частка іх мела агульныя тэмы, як, напрыклад, "Станаўленне беларускай мовы", або "Адлюстраванне Чарнобыльскай трагедыі ў творах сучаснай беларускай літаратуры", частка прысвячалася пэўным асобам або канкрэтным праблемам. Разглядаліся, у прыватнасці, газета "Наша Ніва" (сучасная), дзейнасць Ф. Скарыны, лёс Б. Эпімах-Шыпілы, творчасць М. Гарэцкага, С. Некрашэвіча, Л. Зізанія, А. Лісіцкага, Ю. Голуба, А. Дзеружынскага. У трох дакладах разглядаліся асобныя пытанні тапанімікі.

Пераможцамі сталі Аксана Бязленкіна (СШ N 203, 11 кл., г. Мінск) — даклад на тэму "Стылістычныя асаблівасці мовы аповесці В. Казько "Да сустрэчы" і Аксана Марозава (СШ N 1, 9 кл., г. Паставы) — даклад "Класіфікацыя назваў паселішчаў Пастаўскага раёна".

А. АЛЯКСАНДРАЎ

# Асаблівасці нацыянальнай адукацыі

***Бацькі навучэнцаў Беларускага гуманітарнага ліцэя адстойваюць сваё канстытуцыйнае права на навучанне дзяцей на роднай мове. Летась "пікетавалі" за захаванне будынка па вуліцы Кірава, 21. Сёлета змагаюцца за саму ідэю беларускамоўнага ліцэйскага навучання.***

Мінчане шалеюць ад чэрвеньскай спякоты, а ў калідорах і аўдыторыях ліцэя на гэта ніхто, быццам, і ўвагі не звяртае. Апрача хіба што толькі мяне — госця пабочнага і амаль выпадковага... Іспыты! Тут не да перападаў атмасфернага ціску. І няхай сабе асфальт на вуліцах плавіцца. Самае галоўнае — добрая адзнака. Тут і прэстыж, і гонар, і творчае, калі жадаеце, самазадавальненне. Ліцэіст — гэта вам, крый Божа, не школяр які-небудзь! Асоба, творца, грамадзянін... Вось, напрыклад, як гэты. Чакае сабе экзамена па нямецкай, сноўдае перад кабінетам, і не зразумець, ці то хвалюецца, ці то дзяўчатам падміргвае... Андрэй Ісачанка... Паступіў сюды пасля заканчэння сёмага класа ў роднай вёсцы Пятрышкі (непадалёк ад Мінска), год адвучыўся, пераходзіць зараз праз чарговую ліцэйскую прыступку па звычайным школьным адліку — у дзевяты клас.

— Я нацыяналіст, — сцвярджае так, як быццам усё для сябе вырашыў і даўно расклаў па паліцах. — Люблю Беларусь, мову сваю, люблю народ... Хачу, каб быў ён не горшым за іншыя...

Ветэраны непахіснай савецкай педагогікі, маралісты, чыноўнікі ад адукацыі, высакародныя і нястомныя выкрывальнікі гнойных пухлін на здаровым целе нашага грамадства! Паберажыце сэрца, кіньце таблетку валідолу пад язык і паспрабуйце зразумець маленькага Андрэя. З якога боку ні прыглядайся, а хлопец, сапраўды, нацыяналіст. Бо любіць ён сваё, нацыянальнае, але адкройваць гэтае сваё ад сусветнага цэлага не збіраецца. Ён не палітык, ён чалавек, таму і разумее цудоўна, што беларускую літаратуру, скажам, нельга разглядаць у адрыве ад агульначалавечай культуры. Няма і не было мястэчковай літаратуры, гісторыі, а Байран, Пушкін і Міцкевіч — постаці роўнавялікія. І вывучаць іх творчасць можна толькі ў непарыўным агульнасусветным кантэксце. Так, прынамсі, прывучае думаць кожнага тутэйшага вучня ўся ліцэйская сістэма навучання. І Лявон Баршчэўскі, выкладаючы сусветную літаратуру на некалькіх еўрапейскіх мовах, не без поспеху прывучае хлопцаў і дзяўчат любіць і паважаць свет, неад'емнай часткай якога была, ёсць і будзе наша Беларусь. Нацыяналізм? Патрыятызм? Інтэрнацыяналізм? Ды якая розніца, які "...ізм"! Галоўнае, што ў вачах Андрэя — агеньчык самапавагі. Разумее ён, што беларус у гэтым свеце не лепшы, але і не горшы. Няхай сабе і размаўляе пакуль у большай ступені на "трасянцы", і памыляецца пастаянна ў чымсьці. Але ці ёсць у свеце нацыя, якая ідзе да свайго шматмільённага "я" без перашкод і смяротных пакут...

Дык, мабыць, хопіць ужо блытаніны, пустых спрэчак, палітычных боек з-за непаразумення ў думках, словах, тэрмінах? Ага, раз па-беларуску размаўляць спрабуюць, мінулае шукаюць, як тую "новую зямлю", — значыць нацыяналісты, рэакцыянеры буржуазныя, апазіцыя на падтрымцы ў Захаду! "Калёным железом скверну!" У рэзервацыі! І не да смеху тут, бо менавіта так пачалі называць нешматлікія ўжо беларускамоўныя класы ў нашых сярэдніх школках. "Бацькі не жадаюць, каб дзеці іх навучаліся па-беларуску!" — банальная ў сваім падступніцтве начальніцкая адгаворка. Ды не жадаюць у большасці сваёй толькі таму, што бачаць: мовай роднай грэбуюць у ВНУ, тэхнікумах і вучылішчах, куды дзеткі іхнія паступаць будуць, сённяшняя дзяржаўная палітыка ніяк не скіравана на ўмацаванне прэстыжу беларускасці. А аргументы накшталт таго, што народ на рэферэндуме прагаласаваў з імпэтам менавіта за такую моўную палітыку, няйначай чым абсурднымі проста не назавеш. Адпаведная рэферэндумаўская фармулёўка нагадвае пытанне піянерважатай з майго школьнага дзяцінства: "Каго больш любіш, радзіму ці маці? партыю ці бацьку?" І хоць трэсні, але ў гэтай мэтанакіраванай бязглуздасці — увесь сэнс ідэалагічных савецкіх завіханняў. Адсюль і падзел грамадства на пільных патрыётаў і дэфектыўных "политически неграмотных".

Наштампавала ідэалагічная машына за семдзесят год процьму інтэрнацыяналістаў — паўлікаў марозавых. Праехаліся тыя на танках па Празе, Будапешце і Грозным, асудзілі ўсіх на "светлую" будучыню, а на сваё кроўнае сталі забывацца. Нацыю звялі да меншасці, мову — да "трасянкі", гісторыю — да анекдота. Ярлыкоў панавешвалі, у этымалогію слоў асабліва не ўдаючыся: раз нацыяналіст, дык дакладна, што апазіцыянер. Ды, безумоўна, апазіцыянер, калі зневажаецца найперш гонар нацыі — мова, спадчына. І калі самай адметнай прыкметай нацыяналізму з'яўляецца павага да ўласных каранёў, моўнай культуры, дык паспрыяй ім, Божа, гэтым нацыяналістам, пазбаў ад дыскрымінацыі ў межах уласнае дзяржавы, дай сілы захаваць сваё, не патрабуючы чужога...

Дый не ў навіну дзяржаўная абыякавасць да нацыянальнага. Было ўжо ўсё гэта, паважаныя, было. Грузін Сталін у перапынках паміж асобакультаўскімі захадамі рухаў наперад рускую філалогію. Хрушчоў ва ўкраінскай вышыванцы пырскаў слінай з высокіх трыбун, заклікаючы нярускія меншасці хутчэй пераходзіць на рускую мову. Былы міністр замежных спраў Саюза Грамыка родам з Богам забытай беларускай вёсачкі Грамыкі ва ўсіх анкетах сараміліва даводзіў, што не бульбаш ён па нацыянальнасці, а рускі... Вось такая "інтэрнацыянальная" русіфікацыя. Патрыятызм, але з дакладнасцю да наадварот.

А ў хрушчоўскія часіны валюнтарызму як жа невыносна цяжка было пераходзіць нашым настаўнікам на рускую мову выкладання! Жыве непадалёк ад мяне пенсіянерка Ніна Іванаўна. Вяла ў тыя гады матэматыку ў Веткаўскай, безумоўна ж, беларускамоўнай школе. А тут на рускую пры выкладанні тэрмінова трэба пераходзіць. "Па запатрабаванні працоўных" дзеля высакароднага і імгненнага зліцця-братання са старэйшым і больш разумным сваяком — рускім народам. Плакала, прызнаецца, па начах, ніяк не магла рускамоўныя матэматычныя тэрміны засвоіць. Прыйшлося... Дзіўна гучыць? А калі дырэктары школак нашых, яшчэ ўчора цалкам нацыянальных, кінулі ў 60-х вокліч у адпаведнасці з высокім загадам, што ад вывучэння роднай мовы і літаратуры можна адмовіцца, падаўшы заяву, дык, думаеце, наш сарамлівы беларус доўга вагаўся? Не! Знайшлася частка бацькоў, якая дапамагла сваім дзеткам хуценька пазбавіцца ад "мужыцкасці і вясковасці". Мой першы школьны дырэктар Франц Паўлавіч Лешчанка (светлы быў чалавек!) адгаворваў такіх цішком: "Ды не спяшайцеся! Потым рэпетытара наймаць прыйдзецца!" Але ўсім розуму не ўставіш. Была б магчымасць фізіку з алгебрай абысці ў карысць лайдацтва дзіцячага, з гатоўнасцю плюнулі б і на іх. Такія мы, без цара ў галаве і з царамі за трыбунай...

Дзеля чаго я пра гэта ўсё? Ды занадта ўжо той ссівелы час нагадвае засмяглы сённяшні. Як хутка беларускае знішчылі, так хутка і адрадзіць маглі б. І спробы яшчэ колькі год таму былі канкрэтныя і адчувальныя. Хапала ў пачатку 90-ых і садкоў беларускамоўных, і такіх жа пачатковых класаў у кожнай сярэдняй школе вёскі і горада. І закончылі іх дзеткі з гонарам. А вось далей ім шлях добрыя дзядзі перакрылі. З вялікага, відаць, патрыятызму. "Не хапала яшчэ, каб нацыяналістамі выраслі!" І зноў жа — прайшло ўсё па "жаданні ўсяго працоўнага народа", зведаўшага смак рэферэндуму... Мабыць, у самых дрэнных сваіх праявах любіць матухна-гісторыя паўтарыцца ды здзекліва паназіраць над мітуснёй затурканага народа...

"Каго больш любіш, Андрэй, маці ці радзіму?" Ды якія тут жарты, маці ён любіць, дзядоў сваіх, мову, а значыць і радзіму. Асоба, творца, грамадзянін...

На ліцэйскай калідорнай сцяне — выстава малюнкаў, вершаў, сачыненняў. Аўтары — не толькі тутэйшыя навучэнцы, а і дзеці з іншых мінскіх школ. Вось урывак з верша Валодзі Васількова (не ўстрымаўся, занатаваў):

***...Я патрыёт, і ты, сын века,***
***Карысным быць сябе прымусь,***
***Такім, як быў наш Леў Сапега,***
***Францыск, і Янка, і Кастусь.***
***Я патрыёт, і я ніколі, —***
***Мне сведка Бог і людзі ўсе, —***
***Ад родных мовы, сцяга, волі***
***Не адступлюся у бядзе...***

Ну, не веру, каб словы гэтыя пісаліся не ад чыстага сэрца. Сэрца асобы, творцы, грамадзяніна. І не знішчыць беларускае ніякімі рэформамі і бяздумнымі загадамі. Хоць і спрабуюць, не вельмі ўнікаючы ў сутнасць ліцэйскіх спраў.

Дык што адбываецца вакол Беларускага гуманітарнага ліцэя? Няўжо пагалоска аб яго рэфармаванні-ліквідацыі — не пустая выдумка?

— Запрасілі мяне ў Міністэрства адукацыі, — цярпліва тлумачыць ( і не мне першаму) дырэктар ліцэя Уладзімір Колас, — і паведамілі аб перспектывах зліцця нашай установы з ліцэем БДУ. Заробкі ў настаўнікаў будуць вышэйшымі, у вучняў — ільготы пры паступленні ў БДУ. Але, шчыра кажучы, так і не зразумеў я глыбінных мэт такога зліцця... У нас высокапрафесійны калектыў выкладчыкаў, штогод цудоўныя вынікі пры паступленні выпускнікоў у ВНУ... Не, зліццё азначае знішчэнне нашых аўтарскіх праграм выкладання, разлічаных на чатыры гады навучання (у ліцэі пры БДУ яны двухгадовыя), скасаванне унікальнага эксперыменту ў справе беларускамоўнай адукацыі... Чаму? З якой нагоды? Мы ж не займаемся палітыкай, мы даём толькі веды... Дамовіліся на міністэрскім узроўні, што любыя рэарганізацыі ліцэя весці трэба толькі з улікам нашай пазіцыі. Дэлегацыя занепакоеных бацькоў была ў віцэ-прэм'ера Замяталіна. Той таксама паабяцаў, што гуманітарны ліцэй захавае незалежнасць і статус юрыдычнай асобы... Але адчуваю, што вакол ліцэя ідзе нагнятанне нейкіх незразумелых страсцей... І зноў не разумею, чаму. Няўжо нас можна абвінаваціць у нацыяналізме? Так, мы супраць рэгрэсу нацыі. Паглядзіце, што робіцца на Украіне. Яшчэ гады са тры Кіеў размаўляў па-руску. Быў там першага мая — сітуацыя змянілася непазнавальна, горад загаварыў на роднай мове. Будзе гэта і ў нас. Ды толькі вось калі?.

Уваходзячы ў курс ліцэйскіх спраў (ды і толькі ліцэйскіх!), даведаўся я, што за апошні месяц прайшлі тут чатыры бацькоўскія сходы. Кожная маці, кожны бацька дзвюх соцень навучэнцаў сур'ёзна занепакоены будучым лёсам сваіх дзяцей. Вось меркаванне Сяргея Альфера:

— Адбываецца тое, што, відаць, даўно запланавана. У адпаведнасці з праектам Саўміна аб стварэнні Рэспубліканскага ліцэя БДУ наш гуманітарны ліцэй пры Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтры згубіць самае каштоўнае — выкладчыкаў, бо праект прадугледжвае "фарміраванне педкалектыву на конкурснай аснове". А гэта, на мой погляд, азначае толькі адно — скасаванне беларускамоўнага ліцэя... Сын шэсць год адвучыўся ў беларускамоўных класах 12-ай школы. І вымушаны ісці ў сёмы, дзе навучанне будзе весціся толькі па-руску. А дачка, дзякуй Богу, у нашым ліцэі, дзесяцікласніца. Мовай беларускай валодае лепш за мяне! Ліцэй для яе — неад'емная частка жыцця. Як можна яго псаваць!

А вось пазіцыя Валянціны Арловай:

— Мы занепакоены не толькі лёсам уласных дзяцей. Мітусня вакол ліцэя ўспрымаецца як знявага ўласнай годнасці. Вучні ж усё разумеюць. Яны гатовыя адстойваць свой родны калектыў, сваіх выкладчыкаў. І гэта свядомае стаўленне. Леташнія пікеты пацвердзілі, што кожны ліцэіст за гады навучання ў гэтых сценах пазбавіўся ад юнацкіх комплексаў, разняволіўся, навучыўся паважаць сябе, стаў творчай асобай, якой ужо нельга маніпуляваць на карысць нейкіх палітычных амбіцый. А ўлада, атрымліваецца, свядома правакуе дзіцячае абурэнне... Тройчы на пачатку мая былі ў міністра адукацыі Стражава, мелі гутарку з яго намеснікам Дылянам. Успаміналі законы аб мове, адукацыі. Даводзілі аб нашым бацькоўскім праве выбіраць установу і мову выкладання дысцыплін. Чаму наш выбар, наша права перакрэсліваюцца?!

*(Працяг на стар. 14)*

ШЛЯХІ

# Беларускі інтэлектуалізм. Гады буры і націску

Валянцін АКУДОВІЧ

***Мне ўжо даводзілася мімаходзь казаць, што найбольш значная падзея ў беларускай літаратуры апошняга дзесяцігоддзя вынікае не з яе ўласных здабыткаў (проза, паэзія, крытыка) і не са з'яўлення незалежных ад дзяржавы літсуполак ("Тутэйшыя", "ТВЛ", "Бум-Бам-Літ"), і нават не са стварэння плоймы недзяржаўных часопісаў, газет, кніжных праектаў і выдавецтваў, а з таго, што я пакуль схільны пазначаць досыць авантурным словазлучэннем — беларускі інтэлектуалізм.***

***Што я маю на ўвазе, калі кажу "беларускі інтэлектуалізм" і чаму залічваю яго да канцэптуальных здабыткаў беларускай літаратуры найноўшай пары?***

***Па парадку...***

1.

Не станем сягаць у даўнія стагоддзі, калі мысленне на прасторы, цяпер пазначанай дзяржаўнымі межамі Рэспублікі Беларусь, разгортвалася адпаведна з агульнаеўрапейскімі тэндэнцыямі. Ужо хаця б таму, што метадалагічна яго, бадай, заўсёды будзе досыць няпроста залічваць да ўласна беларускага: ці то з прычыны яго іншамоўнасці, ці то з прычыны яго адслоненасці ад Беларусі, як яшчэ не выяўленага суб'екта еўрапейскай гісторыі... Безумоўна, фармуючы традыцыю беларускага мыслення, мы ўжо напэўна не пакінем тыя здабыткі па-за нашай увагай. Але рэальна пачатак беларускага мыслення нам даводзіцца звязваць з нашаніўскім перыядам беларускай гісторыі, з тагачаснай літаратурай, публіцыстыкай, гістарыяграфіяй, светапогляднымі рэфлексіямі. Найвялікім дасягненнем айчыннага мыслярства той пары мы небеспадстаўна лічым эсэ Абдзіраловіча (Канчэўскага) "Адвечным шляхам" і эсэ Сулімы (Самойлы) "Гэткім выстаім".

Ёсць досыць распаўсюджанае меркаванне, што чалавеку можна забараніць усё, нават дыхаць, але нельга забараніць мысліць.

Магчыма, аднаму асобнаму чалавеку і нельга забараніць мысліць сам-насам, але грамадству — можна. Цяпер мы гэта добра ведаем. За камуністамі беларусам было дазволена пісаць апавяданні і раманы, маляваць карціны і ствараць скульптуры, ставіць спектаклі і спяваць песні, але нельга было мысліць...

Беларусам было забаронена мысліць. Тут карціць дадаць — самастойна, але інакшага мыслення, акрамя самастойнага, не бывае.

Не станем тут шмат казаць пра дыялектычны матэрыялізм — адзіную дазволеную нам форму мыслення, бо рэч не ў тым, добрая ці благая была гэтая форма, а ў тым, што мысленне ў нейкай адной форме ўжо не ёсць ім. І адсюль яго кардынальная адрознасць ад мастацтва і літаратуры, якія могуць быць заціснутыя звонку — ці самі сябе заціснуць, — у катух аднаго метаду (класіцызм, рамантызм, рэалізм, сацрэалізм...) і пры гэтым заставацца творнымі, бо эстэтычнаму, каб выявіцца, усё роўна патрэбны нейкі канон, не той дык іншы.

Нам не дазволена было выбіраць формы і спосабы мыслення, а значыць нам было забаронена мысліць... з другой паловы дваццатых аж да "перабудовы", калі ўсе забароны неўпрыкмет спарахнелі, а дазволу, каб нават па звычцы закарцела, не было ў каго запытацца.

У гэтым бязладдзі і распачалося сучаснае беларускае мысленне — натуральна, бязладна, але інтэнсіўна. Невыразныя спробы неяк яго згарманізаваць, намацаць яму грунт пад пачатак стаяння і адтуль накрэсліць вектар руху наперад ніякага плёну не мелі. Адноўленыя для ўжытку тэксты Абдзіраловіча, Сулімы, Цвікевіча і г. д. пацешылі сэрцы адраджэнцаў, але па сутнасці засталіся незапатрабаванымі інтэлектуальным рухам...

Тут нам давядзецца зрабіць невялічкае адступленне, і вось з якой нагоды. Калі мы кажам, што традыцыя беларускага мыслення была перапыненая бальшавікамі, што бальшавікі на дзесяцігоддзі і дзесяцігоддзі забаранілі беларусам мысліць і гэтая забарона трымалася аж да другой паловы васьмідзесятых, то трэба не забывацца і на выключэнні, на тых, хто спрабаваў хоць на крокдругі перарушыць мяжу забароны. Да такіх выключэнняў мы ўжо напэўна можам залічыць патрыярхаў беларускай філасофіі Уладзіміра Конана і Мікалая Крукоўскага... Дык вось, якраз яны, Уладзімір Конан і Мікалай Крукоўскі, былі тымі, хто сваёй творчасцю рэальна звязваў між сабой беларускае мысленне першай і апошняй чвэрцяў XX стагоддзя. Але ці гэты звяз быў не вельмі трывалым, ці надта ўжо розніліся інтэлектуальныя сітуацыі пачатку і канца стагоддзя, толькі новае беларускае мысленне ў сваіх спробах намацаць самое сябе абапіралася не на "штрыхавую" традыцыю Абдзіраловіч — Суліма — Конан — Крукоўскі, а на ўсё што заўгодна іншае: дзэн-будызм і тэасофію Блаватцкай ды Рэрыха, Барта і Данілеўскага, Фрэйда і Дэрыда, Ніцшэ і Бярдзяева, Хайдэгера і Бахціна, Дэкарта і...

Аднак досыць хутка ў гэтай мяшанцыбоўтанцы пачалі вырозніваца прыярытэты. Першым сцёк з сыроваткай расійскі месіянізм — адзіная аўтэнтычная і жывая філасафема расійскага мыслення. З прычыны яго абсалютнай непрыдатнасці рацыянальнай беларускай ментальнасці, разам з месіянізмам апынулася ў незапатрабаванасці і ўся астатняя расійская філасофія. Не змаглі замацавацца на Беларусі (натуральна, я маю на ўвазе нацыянальны дыскурс) і шматлікія філасафемы Усходу, хаця іх уплыў выявіўся нават больш выразна, чым уплыў расійскай гістарыяграфіі і расійскага містыцызму. Падобна, што асабліва не завабіў беларускіх інтэлектуалаў паўночнаамерыканскі прагматызм і брытанскі (астраўны) пазітывізм (праўда, уплыў апошняга выявіўся ў метадалагічных спрэчках нашых "новых" гісторыкаў)...

Зрэшты, няма нічога дзіўнага, што ў значэнні прыярытэтнай для новага беларускага мыслення засталася еўрапейская кантынентальная філасофія, бо і пасторава і ментальна мы ўлучаныя ў еўрапейскую інтэлектуальную імперыю. Але паколькі гэтая імперыя (неверагодна магутная) надзвычай разнастайная і практычна неабсяжная, то нашы першыя інтэлектуальныя ініцыятывы, разбэрсаныя гэтай разнастайнасцю па неабсяжнасці, верагодна, на доўгі час згубіліся б не толькі ад іншых, але і ад нас саміх. Згубіліся б, каб... Каб у нас не было Беларусі як праблемы, ад асэнсавання якой не змаглі ўхіліцца ні "метафізікі", ні "экзістэнцыялісты", ні "антраполагі", ні "структуралісты", ні "германеўтыкі", ні "лінгвісты", ні... Незалежна ад сваіх прыхільнасцяў да тых ці іншых канцэптаў еўрапейскага мыслення, усе беларускія інтэлектуалы былі заангажаваны праблемай асэнсавання Беларусі як суб'екта гісторыі, геапалітыкі, культуры. І гэта зразумела, бо, не акрэсліўшы поле сваёй прысутнасці ў быцці, немагчыма выходзіць на асэнсаванне самога быцця.

Беларусь, як інтэлектуальная праблема, не толькі аб'яднала ўсіх, хто меў схільнасць да адцягненага рэфлексавання ў яго сучасных параметрах, яна яшчэ і ўзяла на сябе ролю лабараторыі, эксперыментальнага цэха, палігона, дзе беларускае мысленне, у значэнні ўжо ўласна беларускага напрацоўвала прыдатныя для сваіх патрэб тэрміналагічныя сістэмы, выпрабоўвала лагічныя канструкцыі, намацвала актуальныя для сябе ідэі, — адным словам, асэнсоўваючы Беларусь у якасці суб'екта еўрапейскай гісторыі, беларускае мысленне гадавала і нарошчвала свае інтэлектуальныя цяглiцы.

Дык вось, якраз той факт, што ўсе формы і спосабы мыслення шукалі і знаходзілі сябе найперш у працэсе абмеркавання феномену Беларусі, дазваляе нам без асаблівай перасцярогі карыстацца адносна наноў выяўленага мыслення прыметнікам "беларускае". І хаця гэта пакуль больш фармальная прыкмета, але, як казалася трохі вышэй, падчас рэфлексавання над праблемай Беларусі пачалі выяўляцца і некаторыя сутнасныя адметнасці ўжо ўласна беларускага мыслення, — аднак яны яшчэ настолькі неакрэсленыя, што сістэматызаваць іх пакуль не ўяўляецца магчымым. Адсюль вынікае, што, маючы прыметнік "беларускае" (адносна мыслення), мы не маем на што яго "пачапіць", бо ні сваёй філасофіі (ці хаця б сваёй "філасофскай школы" альбо нейкага пэўнага накірунку) у нас няма, не аформілася ў нас у нешта цэласнае і культуралогія. Усё гэта і вымагае падшукваць для таго, што адбываецца ў нашым мысленні, нейкага шырокага па меры ахопу, але ні да чаго канкрэтна не прывязанага азначэння. Таму я і прыхіліўся да слова "інтэлектуалізм", якое ў спалучэнні са словам "беларускі", не акцэнтуючы сутнасць з'явы, дае ўяўленне (прынамсі, мне так падаецца) пра яе агульны кшталт і абрыс.

2.

Ні да чаго канкрэтна не прытарнаванае азначэнне "беларускі інтэлектуалізм" бачыцца мне напэўна прыдатным для ўжытку яшчэ і таму, што сучаснае мысленне пачало актыўна выяўляць сябе на Беларусі амаль ва ўсіх гуманітарных сферах: не толькі ў філасофіі і культуралогіі, але і ў гісторыі, мастацтвазнаўстве, лінгвістыцы, сацыялогіі, паліталогіі, публіцыстыцы і г. д. Аднак паколькі ва ўсім пералічаным (і не пералічаным) яно выяўляе сябе не татальна, не ўсім корпусам той ці іншай дысцыпліны, а толькі ў значэнні індывідуальных прарываў, то якраз гэтыя асобныя выпадкі інтэлектуальных ініцыятыў мы і можам ахапіць азначэннем "сучасны беларускі інтэлектуалізм".

Але далей я хацеў бы паразважаць пра гэтую з'яву не ўвогуле, а, так бы мовіць, у дачыненні да аднаго яе фрагмента. Праўда, фрагмент гэты дамінантны, бо па сваёй прыродзе філасофія і культуралогія (якраз іх я і збіраюся мець на ўвазе) як мала што яшчэ звязаныя непасрэдна з мысленнем, дакладней, яны цалкам пагружаныя ў мысленне.

Першыя спробы сучаснай філасофіі і культуралогіі на Беларусі запачаткаваныя (як, бадай, амаль усё сёння ўласнабеларускае) нашым апошнім адраджэннем. Верагодна, іх патрэба была сфармулявана ў розных нефармальных гуртках (асобных "нефармальных галовах") яшчэ "даперабудовачнай" пары, але асабіста мне, на жаль, мала што вядома пра гэта. Я магу казаць тут адно пра тое, што выявілася ў рэальных праектах, тэкстах, "культурных героях" прыкладна за апошнія дзесяць гадоў.

Адным з першых сярод маштабных праектаў, у рамках якога паміж шмат чаго іншага павінны былі знайсці сябе культуралогія і філасофія, стаўся Скарынаўскі цэнтр. Наколькі я разумею, Скарынаўскі цэнтр і ствараўся, каб на фармальным грунце разгарнуць патэнцыял нефармальнага беларускага мыслення ва ўсіх яго магчымых формах і спосабах. З гэтага, на пачатку дзейнасці, вакол Скарынаўскага цэнтра згуртавалася ладная частка беларускіх інтэлектуалаў розных пакаленняў, але, напэўна, той час не быў часам цэнтралізацыі, і неўзабаве большасць з іх разышлася ў розныя бакі. Можа, яшчэ і таму разышлася, што тая бурапенная пара прадстаўляла магчымасць кожнай ініцыятыўнай і амбітнай асобе распачынаць самыя розныя праекты на ўласны густ і ўласную хэнць.

Але як бы там ні было потым, менавіта ў прасторы Скарынаўскага цэнтра акрэсліўся "базавы корпус" персаналіяў (Алесь Анціпенка, Ігар Бабкоў, Алег Бембель, Мікола Матрунчык, Уладзімір Конан, Віталь Зайка, Захар Шыбека, Вячаслаў Рагойша, Алесь Жлутка), з якімі я схільны звязваць тое, што можна было б назваць першай хваляй беларускага інтэлектуалізму, якая выявілася ў формах філасофіі і культуралогіі.

Натуральна, вызваленае ад забароны быць, мысленне шукала сабе падставы вызначыцца ўсюды, дзе для гэтага ўяўлялася хоць якая магчымасць. Паколькі ў гэтых сваіх зацемах я не маю намеру імкнуцца да навуковай дакладнасці і ўсеахопнасці, то далей паспрабую пазначыць адно некаторыя падзеі, якія **асабіста мне** падаюцца найперш вартымі ўвагі... Паперадзе ўсяго згадваецца газета "Наша Ніва". Яна не выяўляла асаблівай цікавасці да ўласна філасофіі, але культуралагічна была цалкам скіраваная ў сучаснае еўрапейскае мысленне, і роля "Нашай Нівы" ў яго разгортванні на беларускіх абсягах — выключная. Істотным і адметным для той пары мне падаецца праект, які ладзіўся на старонках "ЛіМа" і меў назву "Ідэальная Беларусь". Шэраг артыкулаў і гутарак, якія арганізоўваў і ствараў Юрась Залоска, шмат чаго дадаў да асэнсавання Беларусі як культуралагічнай і філасофскай праблемы. Культуралагічна значным бачыцца мне і ёмісты цыкл артыкулаў Яўгена Шунейкі, якія ён друкаваў у часопісе "Мастацтва" цягам тых гадоў. Адметнай падзеяй сталася з'яўленне суполкі "Крыўе" і выпуск "крывамі" некалькіх альманахаў "Веды", "Крыўе"). Галоўным завадатарам у "Крыўі" быў Сяргей Санька, філосаф са строгім і дакладным ладам мыслення, што адбілася і на падборы тэкстаў для альманахаў і выбары тэмаў і ўдзельнікаў канферэнцыяў, якія ладзіліся гэтай суполкай.

Лічу, што мы маем усе падставы ўключыць у гэты кантэкст і часопіс "Унія" (ініцыятыва Ірыны Дубянецкай): рэлігійны па змесце, эстэтычна і інтэлектуальна гэты часопіс зграбна і таленавіта выяўляў сучаснае светабачанне беларусаў.

Мне досыць складана ацэньваць у акрэсленай тут рэтраспектыве ролю газеты "Культура" з яе пастаяннымі рубрыкамі "Эліта" і "Суплёт ідэй", дзе сістэматычна друкаваліся замежныя і айчынныя мысляры, як і пазней узніклы ў якасці дадатка да газеты літаратурна-філасофскі сшытак "ЗНО", бо я сам быў непасрэдным чынам заангажаваны ў гэты праект, але думаю, што ўнёсак тагачаснай "Культуры" ў цэлым і "ЗНО" ў прыватнасці быў досыць істотным. Акрамя ўсяго іншага, "ЗНО" было першым перыядычным выданнем на Беларусі, якое дэкларавала сябе як філасофскае.

Ператварэнне часопіса "Крыніца" ў "літаратурна-культуралагічнае" выданне засведчыла, што першапачатковы этап назапашвання культуралагічных ініцыятыў збольшага завяршыўся і нашае мысленне ўжо абапіраецца на сякі-такі культуралагічны грунт.

Але, бадай, найбольш буйной падзеяй гэтай пары, якая кардынальна перамяніла культуралагічны ландшафт Беларусі, было выданне кніг серыі "Адкрытае грамадства", якая разгортвалася ў рамках дзейнасці Беларускага фонду Сораса. Каардынатар гэтага праекта Алесь Анціпенка змог за вельмі кароткі час наладзіць эфектыўную перакладчыцкую і выдавецкую дзейнасць, у выніку чаго мы досыць хутка атрымалі некалькі дзесяткаў капітальных выданняў па філасофіі, культуралогіі, гісторыі, паліталогіі, сацыялогіі, псіхалогіі.

Ну і, бадай, пра апошні праект у гэтым залішне сціплым — як да значнасці ўсёй падзеі ў цэлым, — пераліку, а менавіта пра часопіс "Фрагменты" (галоўны рэдактар Ігар Бабкоў), які выдае Цэнтр еўрапейскага супрацоўніцтва "Эўрафорум". "Фрагменты" — гэта ўжо амаль цалкам (за асобнымі выняткамі) філасофска-культуралагічнае выданне. Часопіс прадстаўляе сабой вяршыню той філасофска-культуралагічнай хай яшчэ не піраміды, а толькі "пірамідкі", якая спакваля складвалася цягам апошніх дзесяці гадоў, і ўрэшце склалася — чаму "Фрагменты" і сведчаннем, — у нешта першапачаткова завершанае, як бы цэлае.

Пакуль досыць цяжка казаць, што ўяўляе сабой гэтае цэлае, бо не было нават спробы хаця б акрэсліць — не тое што прааналізаваць, — гэтую падзею (дык ці не паспяшаўся я са сцвярджэннем, быццам яна ўжо ёсць як нешта цэлае, паколькі любая з'ява фіксуецца ў значэнні "ёсць" адно са з'яўленнем уласнай аналітычнай крытыкі?). Таму і застаецца па-за асэнсаваннем і ацэнкай філасофская ці культуралагічная творчасць Мікалая Крукоўскага, Уладзіміра Конана, Ігара Бабкова, Сяргея Дубаўца, Сяргея Санько, Алеся Анціпенкі, Юрася Барысевіча, Алеся Аркуша, Алега Дзярновіча, Алега Бембеля, Міколы Матрунчыка, Стаха Дзедзіча, Рыгора Грудніцкага, Сакрата Яновіча (калі заўгодна, то пры жаданні Сакрата Яновіча можна аб'явіць "предтечей" сучаснага беларускага інтэлектуалізму) і шмат каго яшчэ...

А на падыходзе — на вачах выспяваюць — ужо новыя "героі" культуралагічнай прасторы: Валерка Булгакаў, Андрэй Дынько, Міхась Баярын, Севярын Квяткоўскі, Алесь Туровіч, Павел Баркоўскі, Сяргей Шыдлоўскі... (Між іншым, з'яўленне наступнага пакалення беларускіх інтэлектуалаў лепей чым што іншае сведчыць за жыццядайнасць беларускага інтэлектуалізму).

Зрэшты, адсутнасць аналітычнай крытыкі ў дыскурсе айчыннай філасофіі і культуралогіі няцяжка зразумець. Яшчэ ўсё не зроблена, і таму кожны, хто пакліканы на гэтую працу, мае свой кавалак аўтэнтыкі, і яго не стае, каб яшчэ і рэфлексаваць над наробкам іншага.

*(Працяг на стар. 12)*

## Людзі і мова — яго любоў



**У Віталя Канстанцінавіча Навака за плячыма ўсяго шэсць класаў вясковай школы і надзвычай багатая працоўная біяграфія. Шчыраваў з адбойным малатком у забоі ў шахце, плаваў матросам на марскім грузавозе. Доўгія гады ростані не патушылі ў душы пачуццё любові да роднай мовы і культуры. Калі была магчымасць, выпісваў беларускія часопісы і газеты, знаёміўся з навінкамі твораў аўтараў-землякоў.**

**Малая радзіма ўсё ж звабіла з працяглых вандровак да сябе. Родам жа Віталь Канстанцінавіч са старажытнай вёскі Снядзін на Прыпяці, якая, як сведчаць археалагічныя знаходкі апошніх гадоў, была калісьці невялікім горадам. Там жыве шмат цікавых людзей. Яму хацелася расказаць пра іх усім землякам, таму, мабыць, і стаў адным з самых актыўных аўтараў Петрыкаўскай "раёнкі".**

**Віталю Канстанцінавічу ўжо за семдзесят, але штомесяц дасылае не менш трох-чатырох допісаў. У яго добры мастацкі густ, сакавітае народнае слова. Нарысы і апавяданні друкаваліся ў калектыўных зборніках "Жыві, мая крыніца", "Рачныя напевы" і "Галасы Палесся", выдадзены мясцовымі аўтарамі.**

**А. ЛІСІЦКІ**

## Выдалі бібліяграфічны паказальнік

**Намаганнямі метадыста ЦРБ Л. Шульгі ў Мазырскай узбуйненай друкарні накладам у 200 асобнікаў выйшаў рэкамендацыйны бібліяграфічны паказальнік "Лельчыцы літаратурныя". У ім абагулены звесткі аб надрукаваных у 70—90-я гады ў былым саюзным, рэспубліканскім, абласным і мясцовым друку твораў тых, чый лёс звязаны з гэтым краем. Складаецца ён з трох раздзелаў — проза, паэзія і літаратуразнаўства.**

**Першы адкрываецца даведкай пра Міколу Капыловіча, які нарадзіўся ў Астражанцы. Член Саюза пісьменнікаў, жыве ў Маладзечне. Досыць шырокая бібліяграфічная даведка пра Івана Коласа з вёскі Картынічы. Ён — Герой Расіі, празаік, за літаратурную дзейнасць узнагароджаны медалямі імя А. Фадзеева і К. Сіманава. Жыве ў Маскве.**

**У другім раздзеле пададзена грунтоўная публікацыя пра творчасць паэта Алеся Лісіцкага з Мілашэвіч. Ён — аўтар кнігі паэзіі "Сны ля Убарці", шматлікіх публікацый у рэспубліканскім друку. Выступае і як празаік, крытык і публіцыст.**

**Дзмітрый Сечка нарадзіўся ў райцэнтры, працуе ветурачом. Быў адным з аўтараў калектыўнага зборніка "Добрымі вачыма" ("Мастацкая літаратура", 1983).**

**Ёсць у паказальніку звесткі пра іншых аўтараў — празаіка Дзмітрыя Шкробата, паэтаў Аляксандра Сцёпіна і Уладзіміра Масюкова.**

**Дарэчы будзе зазначыць, што падобнае выданне — адзінае, якое пабачыла свет у палескай глыбінцы.**

**А. ЛАРЫЁНАЎ**

*ЛІСТ З КАМЕНТАРЫЕМ*

Сяргей ПАТАРАНСКІ

# Чаму нас не заўважаюць?

Я — як малады паэт — рэдка звяртаюся да аналізатарскага жанру журналістыкі, але адкласці на час **узнёслае пяро паэта** і ўзяцца за трывалую асадку публіцыста мяне прымусіў не толькі лімаўскі артыкул "Ад "Тутэйшых" — да тутэйшых" за 23 красавіка гэтага года і развагі, выкліканыя ім, а ўвогуле ўсё тое, што я назіраю на працягу маёй невялікай, але насычанай кар'еры ў літаратуры.

Пры сённяшнім уплёску андэграўнда, з'яўленні новага, ні на каго не падобнага пакалення маладых літаратараў склалася сітуацыя амаль поўнай невядомасці яго для шырокага кола чытачоў і грамадства цалкам.

Прашу зразумець мяне правільна: гэта не амбіцыі юнака. Проста пасля прачытання артыкула, узгаданага мной вышэй, складваецца ўражанне, што тая плынь літаратараў, якая на самай справе даўно выйшла з узросту творчага юнацтва і, як слушна заўважыў сп. Акудовіч, стала міфам, на сённяшні дзень з зялёнага ўзросту не выйшла. Чаму ж да такой падзеі, як з'езд Саюза пісьменнікаў, не надрукаваць было артыкул пра маладых, тых, каго заўтра прыйдзецца прымаць у той самы СП, і не даць магчымасць мэтрам пазнаёміцца з імі? Няўжо ж праблема, якая ў 1987 годзе турбавала Адама Глобуса, так і засталася нявырашанай? Бо калі назіраеш за перыядычным друкам, можа падацца, што пасля "тутэйшых" у нас ізноў прабел і нікога няма, і што зноў літаратура "НІБЫТА" скончыла сваё існаванне.

Безумоўна, сённяшняя сітуацыя з папулярызацыяй літаратуры і яе падтрымкай катастрафічная. Але гэта не значыць, што сама літаратура спынілася. Назіраючы за літаратурным працэсам, што называецца, жыўцом, бачу вялікую (я не абмыліўся) колькасць людзей, якія пішуць па-новаму і выдатна. І само сабой узнікае пытанне: чаму ім не нададзена ўвага ў той ступені, як гэта належыць, чаму яны пазбаўлены падтрымкі тых самых высокашаноўных літвыданняў, чаму малады паэт не можа спакойна займацца творчасцю і мецць з гэтага ўсе належныя даброты і прывілеі? Няўжо для атрымання прызнання хацяб у Саюзе пісьменнікаў трэба паводзіць сябе экстравагантна і эпатажна, як Сыс, ці мецць славутых сваякоў, як той жа Глобус? Атрымліваецца абсурдная сітуацыя: твой талент проста нікога не цікавіць! І гэта я магу давесці на прыкладзе майго ж пакалення — маладых людзей, якім ужо за 20, але няма яшчэ 30-ці, так званага пакалення дзевяностых, моладзі канца стагоддзя і тысячагоддзя. Хацця мы таксама розныя, нават у эстэтычных падыходах да працы. Тыя, хто адкрыўся ў пачатку 90-х, пераважна прытрымліваліся традыцыі так званай вышэйшталцонай паэзіі. Сярод іх найбольш яскрава вылучыліся Наталля Русецкая, Лана Медзіч, Вольга Акуліч, Юрась Пацюпа, Анатоль Брусевіч; потым з'явіўся Бум-бам-літ, які прапагандуе агрэсіўны авангард і жорсткі пост-мадэрн (усе яны досыць бяскрыўдныя, і, думаю, у будучым большасць стане выдатнымі сатырычнымі пісьменнікамі). Асабіста мяне найбольш уразілі Алесь Туровіч, Ілля Сін і Віктар Жыбуль. І дзесьці ў 95-м пра сябе заявілі Мікола Віч, Алесь Дуброўскі, Віктар Слінко і Усевалад Гарачка — паэты шматгранныя настолькі, што іх немагчыма далучыць да якога стылю ў літаратуры. Усе аўтары безумоўна прайшлі праз школу "Першацвета".

Але чамусьці пра Лану Медзіч і Вольгу Акуліч зараз зусім не ўзгадваюць. Ах, прабачце, яны былі перакрыты славай нашых геніяльных "тутэйшых", але ж менавіта яны прынеслі з сабою ў літаратуру такую лірычную тонкасць і пранікнёнасць радка, якіх яшчэ не было нідзе, і думаецца мне, што пішуць лепей, чым некаторыя сучасныя паэты (гэта я адносна вечнай спрэчкі — ці павінна ўвогуле існаваць "жаночая паэзія").

Усе падборкі Бум-бам-літа ў друку праходзяць з цяжкасцю і боязню рэдактараў: ах, каб я толькі не паляцеў з месца, бо яшчэ невядома, як да гэтага "мадзерна" паставіцца "галоўны". Пасля такога падыходу да справы ў рэдактарскім асяродку я ўвогуле пастаівіў пад сумнеў існаванне гэтай пасады, таму што рэдактар мусіць дапамагаць маладому "шчыглу" падняцца ў паветра, а не абломваць яму крылы на самым пачатку. І яшчэ мяне бянтэжыць адна рэч у сучаснай практыцы рэдакцый: гэта поўная зацыкленасць на сваім суб'ектывізме і нежаданне зразумець творчы свет аўтара, які, дарэчы, прыйшоў, каб ты яго надрукаваў. А потым мы здзіўляемся, чаму ж гэта так не любіць наш народ сваю літаратуру і

# Дзе раздаюць пустыя каністры,
## або Адказ "зялёнаму шчыглу"

Прызнацца, калі рэдакцыя атрымала допіс "маладога таленавітага літаратара", як ён сам сябе прэзентуе, Сяргея Патаранскага, мы нейкі час вагаліся: ці варта друкаваць гэтую сумесь наіўнасці і амбіцыйнасці? Але кактэйль гэты — выбухованебяспечны як для грамадства, так і для асобнага яго "носьбіта". Да таго ж, як ні мкнецца наш паважаны аўтар падкрэсліць эксклюзіўнасць свае асобы і сваіх памкненняў да справядлівасці, якраз-такі нічога новага тут няма. Падобныя лісты з падобнымі ж тэзамі пісаліся і адсылаліся ва ўсе часы, і будуць пісацца і адсылацца датуль, пакуль існуе змена пакаленняў у чалавечай цывілізацыі.

З пункту гледжання эталогіі, адваёўваць месца ў іерархіі статка маладую істоту прымушае інстынкт. Каб заняць пэўнае месца ў соцыуме, маладая істота павінна дамагчыся, каб яе заўважылі, запомнілі, чым яна адметная, чым вылучаецца. Праўда, як правіла, найвышэйшага статусу дамагаецца не самы моцны (і не самы разумны!), а самы нахабны і зацяты, той, хто даўжэй можа пагражаць, дабіваецца свайго. Але бываюць і іншыя выпадкі.

Амерыканскія вучоныя-этолагі назіралі за статкам шымпанзэ ў вальеры. Адзін з маладых самцоў не меў ніякага аўтарытэту ў равеснікаў, нічым не мог вылучыцца. Ім пагарджалі. Тады людзі-назіральнікі далі небараку пустую каністру. Шымпанзэ прыняў нечаканы падарунак і навучыўся гучна барабаніць па ім. У выніку ён хутка зрабіўся суперзоркай у сваёй узроставай групе і звярнуў на сябе паблажлівую ўвагу старэйшых. Аналагічны выпадак атрымаўся з цыркавой мартышкай, якую пасадзілі ў звычайны заапаркавы малпоўнік. Малпачку-артыстку крыўдзілі датуль, пакуль не пабачылі, як яна есць лыжкай. І за тое, што малпачка ўмела есці лыжкай, яе прынялі "без чаргі" ў старэйшую ў статкавай іерархіі групу...

Ці не праўда, усё ў прыродзе адбываецца аналагічна. Маладыя рухае інстынкт, які прымушае іх "вылучацца", "грукаць у каністру"; старэйшымі таксама рухае інстынкт, калі яны раздражняюцца гэтым груканнем і імкнуцца паставіць маладзёнаў на месца. Нішто не можа змяніць ці запыніць рух лёсу. Усе мы праходзім узроставыя прыступкі, адну за адной. Справа ж чалавека, носьбіта боскага пачатку, — сублімаваць гэты інстынктыўны, закладзены ў нас генетычна канфлікт праз цывілізаваныя сродкі.

Аднойчы Герман Гесэ, які атрымліваў процьму лістоў ад пачаткоўцаў-літаратараў, вырашыў адказаць ім усім адразу, у тым ліку і гіпатэтычным адрасатам. Раз, так бы мовіць, і назаўсёды. Допіс называўся: "Маладому паэту. Ліст, адрасаваны многім". Не магу ўтрымацца, каб не прывесці з яго ладны кавалак:

"Ці зробіцеся Вы праз пяць-дзесяць гадоў выдатным паэтам, прадказаць я не ў стане. Але калі Вы ім і зробіцеся, то залежыць гэта будзе, безумоўна, не ад вершаў, якія Вы пішаце сёння.

І нарэшце, ці трэба ўвогуле рабіцца паэтам? Быць паэтам — ідэал многіх здольных маладых людзей, што разумеюць пад паэтам чалавека, які захаваў сваю арыгінальнасць, чысціню сэрца, успрымальнасць, тонкасць пачуцця і яркую эмацыйнасць. Але гэтымі вартасцямі можа валодаць хто заўгодна, не робячыся паэтам, і лепш валодаць імі, чым замест іх — усяго толькі сумнеўнай літаратурнай адоранасцю. Але хто толькі таму зацікаўлены ў паэтычным узыходжанні, што яно вядзе да славы, няхай ідзе ў акцёры.

...Але няхай маладыя пішуць, пакуль у іх ёсць пачуццё, што паэтычныя вопыты іх развіваюць, дапамагаюць разабрацца ў сабе і ў навакольным свеце, узмацніць інтэнсіўнасць сваіх перажыванняў, абвастрыць сваё сумленне. Не мае значэння, паэты яны ці не, але з іх атрымаюцца вартыя, дзейныя, пранікліывыя людзі. І калі, спадзяюся, гэта і ёсць Ваша мэта, і калі ў сваім чытанні і стварэнні паэтычнай літаратуры Вы ўгледзіце хацяб найменшую хібу, найменшую спакусу ступіць на абходныя шляхі, пакліканне да пыхі і загасанне прастадушнага светаўспрыняцця, дык адкіньце літаратуру прэч, і сваю і нашу!"

Вось такія сентэнцыі, якія — напэўна ж! — выклічуць у сучаснага маладога таленту толькі скептычную ўсмешку. Бо калі пачатковец у лісце да Гесэ прасіў ацаніць яго творы, дык — вернемся да ліста, атрыманага нашай газетай. Сяргей Патаранскі не прадугледжвае ацэнку — быць ці не быць яму ў літаратуры. Ён ужо вырашыў, што ён — **ёсць**, і справа за невялікім — каб яго заўважылі. Займеннік "нас" у дадзеным выпадку — не болей чым даніна ветлівасці. Бо — каго ў якасці "незаўважаных талентаў", сяброў па няшчасці, можа прывесці Сяргей Патаранскі? Новую эпоху ў лірыцы ў асобах Ланы Медзіч ды Вольгі Акуліч? Зацьмілі небарак славай падступныя "Тутэйшыя"... Але чамусьці не зацьмілі яны ні Галіну Дубянецкую, ні Аксану Данільчык, ні Анжаліну Дабравольскую, якіх якраз-такі — заўважылі, ацанілі, запомнілі. Нешта я не памятаю, каб Лана Медзіч ды Вольга Акуліч бамбардзіравалі сваімі геніяльнымі творамі рэдакцыі, а ім вярталі іх назад. Не чуваць паэтычных галасоў згаданых творцаў проста таму, што яны іх і не падаюць. А "на нет — и суда нет". Затое выявілі сябе як бардэсы — і ў гэтай якасці заўважаныя. Усе вартыя таго — заўважаныя і будуць заўважацца. Паліндромная паэма Віктара Жыбуля, інтэлектуалізаванае літхуліганства Алеся Туровіча, Сяржука Мінскевіча і Зміцера Вішнёва, яркая вобразнасць паэзіі Алеся Дуброўскага, Міколы Віча, Усевалада Гарачкі, Віктара Слінко, вытанчаная постмадэрновая крытыка Ірыны Шаўляковай і Юраса Барысевіча... Баюся каго пакрыўдзіць, не згадаўшы, але — чаго баяцца? Чалавек, які сапраўды хоча выявіць сябе ў творчасці, не будзе пераймацца з-за таго, што яго імя няма ў пераліках... Але чамусьці менавіта згаданыя асобы не крычаць: "Заўважце мяне!" У чалавека, чыя асоба самадастатковая, хто імкнецца найперш дасягнуць творчых вяршынь, праблемы "заўважаюць —не заўважаюць" няма. У мастацтва жорсткія законы. Тут існуе "гамбургскі рахунак", які ацэньвае толькі вартасці твора. Ні паэтычная знешнасць, ні скандальныя паводзіны, ні нават выдадзеная ў шыкоўным афармленні кніга не зробяць з чалавека прызнанага паэта. Інакшай такім быў бы не Сыс, а той кудлаты Валера ў доўгім чорным паліто, які шукае па ўсіх рэдакцыях пустыя пляшкі.

Відавочна, аўтар ліста адчувае сябе пакрыўджаным, абдзеленым. Яму здаецца, што недзе нехта атрымлівае на зайздрасць яму велізарныя ганарары, што друкуюць толькі "па блату", што славу гэтаксама раздаюць у нейкіх "спецзаказах"... Не прыходзіць чалавеку нават у галаву, што ганарары ў

сапраўды лічыць (гэта ўжо не міф), што беларускі паэт піша выключна пра лапці і бедную долю. А можа, спадары шаноўныя, сапраўды трэба даваць выхад у свет некаму, акрамя сябе і сваіх сяброў, бо (прабачце, скажу адкрыта) справа не толькі ў грашах (крый Божа заплаціць зялёнаму "шчыглу" прыстойны ганарар), а ўпершарадзь у гонары літаратуры і культуры цалкам.

У мяне ўзнікае пытанне: чаму наша шаноўная крытыка так няўважліва азнаёмілася з паэтычнымі кнігамі Алеся Дуброўскага і Віктара Слінко, які, дарэчы, з'яўляецца вучнем славутага Алеся Разанава?

Чаму па сённяшні дзень не выдадуць кнігу Наталлі Кучмель? (А яна, дарэчы, высокапаважаныя "тутэйшыя", вашага веку.) Гэта выдатная паэтэса, але вельмі сціплы чалавек, які не мае нахабства "лезці" ў літаратуру. Можна сказаць, што Кучмель — адзіны духоўны настаўнік для паэтаў майго пакалення, практычна кожны звяртаўся да яе па параду, перш чым несці вершы ў рэдакцыю.

Я не кажу ўжо пра пераклады... Каб прабіць падборку Гарацыя, мне прыйшлося развітацца з паловай здароўя. А на пераклады з сучаснай замежнай паэзіі накладаюць проста вета: аднекваюцца тым, што гэта, маўляў, яшчэ не класіка, і мы ўвогуле такога не ведаем.

Чаму я пішу ўсё гэта? Таму што аднойчы "тутэйшы" паэт Сяргей Верацiла сказаў мне, што паэт як асоба мусіць адбыцца да дваццаці пяці год. І ў нечым ён меў рацыю. Чаму ж наш друк адмаўляецца ад гэтага бясцэннага скарбу свежых эмоцый, яшчэ пазбытых налёту абыякавасці і спакою, напоўненых энергетыкай адкрыцця і ўспрымання навізны свету?

Галоўная праблема для майго пакалення, як мне здаецца, гэта не адсутнасць натхнення і жыццёвай пазіцыі, густу і мастацкага ўзроўню — гэтыя рэчы якраз прысутнічаюць, а адсутнасць мастацкай прасторы. І ўжо сёння праблема гэтая абвостраная, бо кожны з нас развіваецца і вырастае з тых рамак, што прапануе ўсімі паважаны "Першацвет", які сапраўды дае магчымасць для атрымання асноў прафесіі ў літаратуры, і Бум-бам-літ, які дае глебу для развіцця фантазіі.

Згуртаванне, якое б магло вырашыць праблему сферы мастацкай дзейнасці, мастацкай прасторы, патрэбна не "тутэйшым", якія даўно ідуць па сваіх шляхах, а патрэбна нам. У пэўнай ступені гэтую праблему спрабуе вырашыць "Маладосць", якая зараз вельмі пільна сочыць за падборам матэрыялу, але гэтага мала. Малады аўтар, які ўжо стаў асобай і выпрацаваў свой стыль і манеру працы, абавязаны, каб заставацца ў творчай форме, друкавацца ва ўсіх літаратурна-мастацкіх выданнях без выключэння — і чым часцей, тым лепей, бо як не можа акцёр не іграць на сцэне перад гледачом, гэтаксама не можа літаратар не выносіць свае творы на суд чытача — таму што гэта натуральная творчая патрэба, мэта творчасці, калі хочаце.

Калі зараз не падтрымаць маё пакаленне, то яно проста прападзе ў бязглуздым патоку безгустоўшчыны і малапрафесіяналізму, бо сёння, самі ведаеце, хто мае грошы, той і выдаецца, а ў большасці сваёй падобныя выданні маюць толькі адно прызначэнне — прабачце, у прыбіральні.

Зараз самае галоўнае — не ўпусціць час, іначай атрымаецца, як у сумна-іранічным маналогу вялікага Аркадзя Райкіна: "Калі ён у сорак — малады спецыяліст, калі ён у шэсцьдзесят — набіраецца вопыту, а ў дзевяноста ў яго ўсё наперадзе, дык — светлая памяць такому чалавеку!"

Таму задаю рытарычнае пытанне, якое вымагае дзейснага адказу і якое вынес на пачатку артыкула: чаму нас не заўважаюць?

дзяржаўных выданнях выплачваюцца па дзяржаўных расцэнках, а расцэнкі гэтыя для ўсіх — адны і тыя ж, мізэрныя на сённяшні дзень да смешнага... Сяргей Патаранскі ў вялікай крыўдзе і на тое, што не выдаюць яго кніжкі. Так і хочацца яму параіць разгледзець уважлівей, каго ж выдаюць. Ды нікога! Адзінак! У асноўным тых, хто мае спонсараў — ну дык шукай іх сам, ніхто нікому ў гэтым не дапамагае. Проста большасць пісьменнікаў лічыць, што "не царская гэта справа". Пісьменнікі,якія паспелі выдаць адну-дзве кніжкі ў "Мастацкай літаратуры", наступных сваіх кніжак чакаюць ужо па сем-дзевяць гадоў (і я ў тым ліку). Менавіта ў такім становішчы апынулася пакаленне "Тутэйшых". А першыя кніжкі паэтаў і празаікаў якраз-такі выходзяць — бо на іх існуе асобная дзяржаўная датацыя. Прынамсі, першую кніжку выдаць куды прасцей, чым другую ці трэцюю. Мінулі незваротна тыя часы, калі кожны сябра Саюза пісьменнікаў мог выдавацца раз у два-тры гады. Безумоўна, ёсць асобы, што працягваюць гэтую традыцыю, чым выклікаюць негатыўныя эмоцыі не толькі ў маладых. Ну дык у прыстасаванні да часу ніхто нікому не памочнік.

Аднойчы ў Булата Акуджавы папытаўся адзін лаўрэат Ленінскай прэміі: "Ты не стаміўся ад славы?" На што Булат Шалвавіч адказаў: "Слава — гэта толькі пасмяротна... Калі маеш на ўвазе папулярнасць, то — не, не стаміўся". А мэтр задумліва сказаў: "А я стаміўся..."

Я не ведаю такога выдання (з прафесійных беларускамоўных выданняў, што друкуюць мастацкія творы), якое б адмаўлялася друкаваць маладых аўтараў. Але не ведаю і такога, якое б прымала да друку ўсё без адбору.

Асабліва наіўным — аж да замілавання — выглядае ўпэўненасць аўтара ліста ў тым, што ён і тыя, каго ён залічвае ў свае паплечнікі, пішуць так, што за апублікаванне "такога" рэдактар можа "паляцець з працы". Даражэнькі, каб такое напісаць, трэба быць хіба што палітычным экстрэмістам. А калі гаворка пра мастацкія эксперыменты, дык за іх даўно не толькі не звальняюць, але ніхто і пальцам не кіўне. Галоўнае, каб эксперыменты прызналіся **мастацкімі**. Вось менавіта для таго, каб вызначаць узровень мастацкасці матэрыялаў, і існуе пасада рэдактара. Канешне, рэдактар — усяго толькі чалавек, і яму ўласціва памыляцца. Але на тое ён і працуе не сам па сабе, і кожны матэрыял, які трапляе ў друк, прачытваецца не ім адным. Затое як цяжка бывае растлумачыць аўтару, чаму яго матэрыял не пойдзе ў друк. Прычына адна, але для аўтара надта ж крыўдная... А творчыя людзі — датклівыя... Вось і ўзнікае над адвергнутымі творамі арэол пакутніцтва. Але, трэба прызнаць, ёсць і іншая праўда, і лёгка зразумець крыўду маладога аўтара, які бачыць, што старонкі заняты творамі старэйшага калегі, якія — на думку маладога — на сённяшні дзень не дацягваюць нават да сярэдняга ўзроўню мастацкасці. "А на гэтым месцы маглі быць мае геніяльныя творы", — з горыччу думае малады паэт.

Чаму ж не, можа быць, і будуць. І выключыць — можа быць! — гэткую ж рэакцыю ў некага...

Той самы Герман Гесэ, разважаючы пра маладых аўтараў, якія, не атрымаўшы ад мэтра пахвалаў, бэсцяць згаданага мэтра ў мясцовым друку, заўважыў, што ні ён сам, ні яго вартыя ўвагі калегі ніколі не апускаліся да такога дробнага шантажу.

За дзеяннем заўважання аўтаматычна пачынаецца працэс ацэньвання. "Заўважце" — гэта на ўзроўні інстынкту, першаснай інфарматыўнасці. Ну, заўважылі... А далей пачынаецца — ці зацікавяцца, ці запомняць? І ўжо на гэтым узроўні аднаго жадання спадабацца мала. Як мала і ўсёй сумы "выбрыкаў", на якія ты здольны. Горка, але рана ці позна кожнаму даводзіцца ўсведамляць: у мастацтве сацыялізму быць не можа. Ніякай роўнасці — толькі знак прыблізнасці між раскіданых у свеце і часе вялікіх талентаў, якіх вельмі, вельмі мала. Сярод плеяды творцаў заўважаюць не ўсіх, і не заўсёды пры жыцці, а запамінаюць — яшчэ менш. Каму прад'яўляць рахунак?

Мне давялося неяк бачыць аўтара допіса на сцэне Купалаўскага тэатра. Ён іграў там у масоўцы дзіцячага спектакля — ствараў фон для ігры выканаўцаў роляў. Ён вельмі стараўся, і, напэўна, яму хацелася, каб яго і там заўважылі, і ўся глядзельная зала дружна выбухнула: вунь той юнак, у другім радзе злева, ён жа таленавіты! Яму трэба даручыць галоўную ролю!

Але зала чамусьці глядзела толькі на "салістаў".

Сяргей Патаранскі мае рацыю — літаратура не канчаецца. Яе будуць працягваць ствараць — і ўжо ёсць каму гэта рабіць. І будуць творы, і будуць кнігі — іншыя, лепшыя. І аўтараў іх заўважаць і запомняць менавіта так — па іх творах, а не па гнеўных допісах.

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

**P.S.** Ніколькі не сумняюся, што гэтая публікацыя выкліча чытацкі рэзананс. Запрашаем усіх выказаць сваё меркаванне.

**Л. Р.**

ВІНШУЕМ!

# Служыць і літаратуры...

## Анатолю БУТЭВІЧУ — 50

Анатоль Іванавіч, бадай, больш вядомы па сваёй асноўнай рабоце, якая звязана з працай у розных установах, на дзяржаўнай службе. Цяпер — на дыпламатычнай: спадар Бутэвіч — Паўнамоцны і Надзвычайны пасол Рэспублікі Беларусь у Румыніі. Але ж ці не найперш ён — пісьменнік, сярод літаратурных псеўданімаў якога найбольш вядомы — Максім Валошка.



Родам Анатоль Бутэвіч з вёскі Баяры Нясвіжскага раёна. У 1966 годзе скончыў Сноўскую сярэднюю школу і паступіў на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ. А паколькі яшчэ ў час вучнёўства актыўна супрацоўнічаў з Нясвіжскай раённай газетай (некаторы час яна была міжраённай, "абслугоўвала", акрамя Нясвіжскага, Капыльскі і Клецкі раёны), часта выступаў на яе старонках з допісамі і карэспандэнцыямі, не парываў сувязяў з журналістыкай. Гэта і вызначыла далейшы лёс яго. У 1971 годзе, атрымаўшы вышэйшую адукацыю, А. Бутэвіч стаў працаваць рэдактарам БЕЛТА. Пасля быў інструктарам ЦК ЛКСМБ, намеснікам галоўнага рэдактара газеты "Чырвоная змена". Давялося Анатолю Іванавічу працаваць і ў ЦК КПБ — інструктарам сектара мастацкай літаратуры, загадчыкам гэтага сектара, намеснікам загадчыка ідэалагічнага аддзела. А ў прамежку паміж апошнімі дзвюма пасадамі ў 1986—1987 гадах быў дырэктарам выдавецтва "Мастацкая літаратура".

Увесь гэты час А. Бутэвіч выступаў у перыядычным друку. І не толькі як журналіст, але і як крытык, перакладчык. Першая яго рэцэнзія ("Аб зернях хараства") была на кнігу У. Конана "Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі" (часопіс "Беларусь", 1969, N11). А першая падборка перакладаў з польскай мовы была змешчана ў калектыўным зборніку гумару і сатыры "Вясёлы калейдаскоп", выпушчаным выдавецтвам "Мастацкая літаратура" ў 1979 годзе. Анатоль Іванавіч перакладае з рускай, украінскай моў, а таксама творы беларускіх пісьменнікаў на рускую мову. У яго перакладах выйшлі аповесць У. Ліпскага "Крутыя вёрсты" (Масква, 1981; Кемерава, 1982, 1989), "Салёная раса" А. Капусціна (Казань, 1994), кнігі С. Лема "Прыгоды Піркса" (1992) і "Салярыс" (1994). Шэраг спектакляў у беларускіх тэатрах былі пастаўлены па п'есах, пераствораных ім па-беларуску.

А перш чым перайсці на дыпламатычную службу А. Бутэвіч у 1990—1992 гадах працаваў старшынёй Дзяржаўнага камітэта па друку, з 1992-га па 1994 год быў міністрам інфармацыі, з 1994-га — міністрам культуры і друку Рэспублікі Беларусь.

Віншуем Анатоля Іванавіча з поўднем веку! Зычым яму поспехаў у дыпламатычнай і творчай дзейнасці, доўгіх год жыцця!

# Усходы каліва радасці

Хто ж ён, гэты карунчык? Як быццам і звычайны лісцік са звычайнага клёна, якіх нямала расце паўсюдна — і ў лесе, і на вясковых сядзібах. Прынамсі, гэты гадаваўся "ў агародзе, каля Надзейчынай хаты". Клёнік звычайны быў, а вось лісцік... У тым якраз і адметнасць казкі, якая дала назву кнізе — "Прыгоды лісціка-карунчыка", што выйшла летась у "Юнацтве". Аказаўся гэты лісцік вельмі ж непадобны на сваіх брацікаў. І гэтая адметнасць яго дала знаць асабліва, калі наступіла восень. Усе лісцікі, як заўсёды вялося, "адрываліся ад дрэўца і, як гарэзлівая малеча, доўга гушкаліся на хвалях паветра", каб пасля апусціцца на зямлю. А лісцік-карунчык — упарціўся: усё трымаўся за дрэўца, цяжка было адарвацца ад роднай галінкі. "І ён з сумам назіраў, як ягоныя брацікі ў вясёлым карагодзе кружацца вакол клённіка".

Лісцік паўстае жывой істотай. Але гэтага, каб твор атрымаўся адметным, цікавым дзятве, вядома ж, мала. Важна знайсці такі сюжэтны паварот, каб ён не быў пазбаўлены і нечаканасці, але ў той жа час і не атрымаўся залішне ўскладнёным, інакш казка будзе цяжкай для ўспрымання (кніжка адрасавана дзецям дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту).

І М. Валошка паспяхова перадолеў падобную небяспеку. Лісцік "трапіў у капюшон Надзейчынай курткі", дзе яму стала цёпла і ўтульна. А назаўтра дзяўчынка паспяшалася аднесці карунчыка да яго брацікаў. І нечакана заўважыла, што "на яго чырванаватым тварыку ірдзелі дзве маленькія кропелькі — ці то ён сам заплакаў ад жалю, ці то скаціліся самотныя расінкі-слязінкі з яго роднай галінкі". Надзейцы стала шкада лісціка, паспрабавала яго суцешыць: "Перазімуеш у нас, у хаце. А вясной я пакажу табе на клёніку зялёныя лісточкі — тваіх новых брацікаў".

Казка "Прыгоды лісціка-карунчыка" невыпадкова стаіць у кніжцы першай. Яна не толькі лепшая ў зборніку. Шмат каму з аўтараў, якія даўно пішуць для дзяцей, ёсць чаму павучыцца ў М. Валошкі. І ў гэтым творы ненавязліва (па сутнасці, непрыкметна і лёгка вырашаецца адразу некалькі выхаваўчых момантаў. Першы з іх — любоў да прыроды. Аўтар нешматслоўны, а давер дасягаецца самой інтанацыяй пісьма — шчырай, засяроджанай. Выхоўвае казка і чуласць, спагаду, душэўную цеплыню. А яшчэ адзін выхаваўчы момант — у самым канцы твора. Надзейка і падумаць не можа, што лісцік-карунчык ужо не жывы, таму і збіраецца наступнай вясной паказаць яму на клёніку зялёных брацікаў. А гэта спагада да ўсяго, што наўкола.

У казцы ж "Дуб-заступнік" па-свойму падаецца думка аб тым, што мацнейшы заўсёды павінен заступацца за слабейшага. І нават тады, калі сутыкаецца з небяспекай для сябе. А менавіта так і зрабіў дуб, абароны ў якога папрасілі шпачаняткі Жаўтароцік і Чарнушка. Калі пачалася навальніца, ён "стараўся прыкрыць сабой домік", дзе дрыжалі спалоханыя Жаўтароцік і Чарнушка. Маланка ўдарыла ў дуб і распалавініла яго, але птушаняты засталіся жывымі.

Маланка, як знішчальная сіла, прысутнічае і ў казцы "Ганарлíўка". Але цяпер яна пакарала асіну, якая ў лесе да ўсіх дрэў ставілася пагардліва і ніколі не слухалася, бо лічыла сябе лепшай за іншых. І гэтая непаслухмянасць каштавала ёй жыцця: "маланка так распаласавала фанабэрыстую асіну, што ад яе засталіся толькі кавалкі драўніны...". Яны з цягам часу спарахнелі, зімой зайцы з'елі ацалелыя парасткі, "толькі стары шчарбаты корч доўга яшчэ вінавата пазіраў на свет..."

Цікавымі атрымаліся і казкі "Надзейка і маладзічок", "Зайчыкаў лес". У іх, як і ў іншых творах, М. Валошка чытача адчувае душой, а таму ў іх шчырасць інтанацыі і ўменне на невялікай "літаратурнай плошчы" правесці важную думку. Чаго, аднак, не скажаш пра казку "Мышыны цар". Яна, на жаль, атрымалася ўскладнёнай. І не столькі па сюжэце, колькі па аснове, якая месцамі нагадвае хутчэй мову... навуковага трактата. Для прыкладу: "...усё жыццё — матэрыяльнае і духоўнае — было падуладна ім", "найбольш дасведчаныя гісторыкі актыўна адстойвалі неабходнасць замены састарэлых назваў", "распачалася ўнутрыродавая барацьба за верхавенства"... І гэта — сярод Мышэй, якія вырашылі пакарыць сабе краіну Абашар!

Ды, зрэшты, гэта выдатна. Іх — мала. Удач у М. Валошкі — куды болей. А калі выказаць уражанне аб яго зборніку "Прыгоды лісціка-карунчыка" ў некалькіх словах, дык гэта — тое каліва радасці, якое дае дружныя ўсходы. У душах дзяцей і ў іх сэрцах.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## Сакавіцкая "Маладосць"

Паэзія прадстаўлена вершамі А. Кірыленкі, Я. Дзяркач, В. Куртаніч, П. Пранузы, В. Макарэвіча. Змешчаны апавяданні В. Лапціка, трэцяя частка аповесці Я. Кантылёва "Распячатка чорнай скрынкі" (першая і другая друкаваліся ў N 12 за 1995 год і N 10 за 1996 год), быль Р. Стаховіча-Ларчанкі "Вяртанне ў ночы", заканчэнне аповесці У. Дамашэвіча "Лішняе дзіця, або Амплітуда жаданняў", працяг гістарычнага даследавання М. Ермаловіча "Старажытная Беларусь". У "Палескіх вандроўках" Г. Пашкоў (першая частка матэрыялу надрукавана ў NN 10-11 за 1993-ці, другая — у NN 1-2 за 1996 год) знаёміць з убачаным падчас падарожжа па найпрыгажэйшым кутку нашай зямлі. Я. Конеў разважае на тым, "Ці ёсць для Беларусі месца ў аб'яднанай Еўропе?", У. Міхно выступае з "Педагагічнымі навеламі", А. Наркевіч рэцэнзуе "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы".

## Прэмія Баяна — беларусу

Галоўны рэдактар і заснавальнік літаратурна-гістарычнага і грамадска-палітычнага часопіса "Палессе" Рыгор Андрэявец стаў лаўрэатам прэміі Баяна — легендарнага паэта-дружынніка, ураджэнца бранскай зямлі (Расія), памяць аб якім свята ўшаноўваюць у тамашніх мясцінах. Прынамсі, нядаўна ў горадзе Трубчэўску Бранскай вобласці другі раз прайшло традыцыйнае свята "На зямлі Баяна", удзел у якім прынялі і госці з Бранска, Гомеля і Чарнігава. Аргкамітэт гэтага свята і ўзнагародзіў Рыгора Мікалаевіча, як гаворыцца ў спецыяльным дыпломе, "за творчы ўклад і ўмацаванне дружбы славянскіх народаў".

## "Нёман", N 5

Змешчаны апавяданні В. Карамазава, В. Супрунчука, "На востраве ўспамінаў" В. Тараса, вершы Л. Драньо-Майсюка, У. Карызны, А. Аўруціна, палемічныя нататкі Ф. Яфімава "Пракруст супраць Пратагора", артыкул В. Губіна і А. Макарэвіча "Ландшафты Беларусі". Пад рубрыкай "Гісторыя. Культура. Нацыя" апублікаваны матэрыялы юбілейных чытанняў "Алесь Адамовіч: жыццё і творчасць". Друкуюцца выступленні В. Каваленкі "Гуманізм — паветра культуры", Д. Шпрынгман "Пісаць аб галоўным", М. Тычыны "Алесь Адамовіч: жыццё як творчасць", Т. Тарасавай "Вяршыня", М. Мушынскага "Дык стварайце ж звышлітаратуру!". На другой і трэцяй старонках вокладкі — рэпрадукцыі твораў мастака У. Рынкевіча. Слова пра яго гаворыць Я. Шунейка.

## Коласаўцы ў Брэсце

Адметная падзея адбылася ў жыцці коласаўскага калектыву. 72-гі тэатральны сезон закончыўся гастролямі ў Брэсце. Ні разу за сваю доўгую творчую гісторыю калектыў не быў у гэтым памежным горадзе. І вось нарэшце дамовіліся пра абменныя гастролі. Беларускі акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа з Віцебска прадстаўлены ў гастрольнай афішы разнастайнымі пастаноўкамі. Сярод іх — "Час быка" Казіса Саі — камедыя-прыпавесць у пастаноўцы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Валерыя Маслюка. На сённяшні дзень — візітная картка знакамітага калектыву. Гэтым спектаклем распачалі гастролі ў памяшканні Брэсцкага тэатра драмы і музыкі. Глядач вельмі гасцінна сустрэў расповед пра неўміручасць душы, адраджэнне чалавечай годнасці. У гастрольным рэпертуары — пастаноўкі класічных твораў — камедыі сусветна вядомага англійскага драматурга Вільяма Шэкспіра "Утаймаванне наравістай" (рэжысёр Юрый Пахомаў) і рускага класіка Мікалая Васільевіча Гогаля "Жаніцьба" (рэжысёр Валерый Маслюк). Сучасныя праблемы вырашаюцца ў спектаклях "Тайбелэ і яе дэман" І. Б. Зінгера, І. Фрыдмана (рэжысёр Юрый Лізянгевіч) і "...Таму што люблю..." паводле трагікамедыі Алены Паповай "Дзень карабля" (рэжысёр Віталь Баркоўскі).

Дзеці пазнаёміліся са спектаклем-доўгажыхаром — музычнай казкай Валерыя Зіміна "Жыла-была Сыраежка" (пастаноўка Барыса Насоўскага, 1973 год, аднаўленне Баляслава Саўко, 1997 год). На спектакль прыехаў з Санкт-Пецярбурга аўтар Валерый Зімін, які шчыра падзякаваў коласаўцам за беражлівыя адносіны да драматургічнага матэрыялу, зрабіў запіс спектакля на відэастужку.

Знаёмства з берасцейцамі адбылося. Будзем спадзявацца, што творчыя сувязі будуць доўжыцца.

С. ДАШКЕВІЧ

ПАЭЗІЯ

Максім ЛУЖАНІН



# Вера, Праўда, Ахвярнасць і меч

## Братаў шынель

*Быў весялун ён, быў рагатун, —*
*Спакуса жанок і дзяўчат.*
*Аб'ездзіць каня і пракос з вярсту*
*Мог скласці за мах пляча.*

*Не шмат праплыўшы дзён па рацэ,*
*Далёка ад слуцкіх ніў,*
*Брат старэйшы мой, афіцэр,*
*Сам сэрца сваё спыніў.*

*З фронту прывезлі пару пагон,*
*Шынель і адэкалон,*
*Сказалі хлопцы, сябры яго:*
*Не быў баязліўцам ён.*

*Чаму ж у сябе адабраў жыццё,*
*Трапіўшы ў віру віроў?*
*Мусіць агоркла куляў жыццё*
*І кроў...*
*У калена кроў.**

*Зарыпаў дзвярыма стары наш дом*
*І доўга слёз не гасіў,*
*Пакуль падаганы хатнім краўцом*
*Я братаў шынель насіў.*

*А ў новым — сам зваяваў вайну,*
*Памог той стары — сваяк!*
*Як лёс падкіне яшчэ адну,*
*Зноў вернецца ў стан ваяк.*

## Гадзіны бяссонныя

І

*Сэрца ставіць старчма*
*Несусветная пляга:*
*За кашмарам кашмар,*
*А даўжэзны ж! З працягам.*

*Каб спакойна заснуць,*
*Паўтару забабон:*
*"Грукні тройчы ў сцяну —*
*Куды ноч, туды й сон".*

2

*Чадны касцёр прыгадак*
*Памяць ізноў раздзьмула:*
*Дні і дажджы пад Тулай,*
*Ночы пад Сталінградам.*

*Мой кулямёт нібыта*
*Мерыцца агрызнуцца...*
*Няўжо гэта не пазбыта,*
*Можа ізноў вярнуцца!*

*Сустрэчы з агнём не гульні:*
*Мёртвых ніхто не верне —*
*Стукае свету ў дзверы*
*Калека і беспрытульны.*

●

*Кінь у закут смутку лахманы,*
*Як і сам, сівыя і старыя,*
*І не спадзявайся ад вясны,*
*Што шырока далечы адкрые.*

*Да таго, што вабна для вачэй,*
*Выбірай кружнейшую дарогу,*
*Каб палюбавацца падаўжэй —*
*Крок ступіў — і гэта дзякуй богу.*

●

*Калі ж яно распагодзіцца,*
*Каб стала відаць усім*
*Назбіранае стагоддзямі*
*І сэрцам адным тваім.*

*Манoccur непадвярэджаны,*
*Адкінуўшы страхі прэч,*
*Зло абгародзіць межамі*
*Часу нязвонкі меч.*

*Шмат яшчэ чалавецтва*
*На плечы прыме лазы,*
*Пакуль такі ўразумеецца,*
*Што меч мае два лязы.*

*Тваё*
*і горшага ворага*
*Роду ўсяго твайго,*
*Хто пад апонай мораку*
*Нішчыць нас з году ў год.*

*Чым бы ні прыварожвалі,*
*Пернікам ці віном,*
*Лязо сваё, найдарожшае,*
*Пазнай і вастры адно.*

●

*І зноў, і зноў*
*Дом повен сноў,*
*Хоць іх жані праз вокны.*
*Ні восень, ні зіма...*
*Чаго-чаго няма*
*У свеце мокрым.*

*Крывёй набракшы ён або*
*Слязьмі заліты —*
*Шуміць горача прыбой,*
*Вось і жывы ты!*

*Як ні баліць тваёй душы,*
*Ніводным рухам*
*Супроць тых хваль не саграшы,*
*Закона слухай.*

*Цягні ярмо, як вол рабы,*
*А здагадайся:*
*Ты чалавек і мусіш быць*
*Заканадаўцам.*

●

*З непрыкметнаю дрымотай*
*Ноч пралежваеш да скаб,*
*Ды ўсё пошапкам, употай*
*Паўтараеш:*
*каб ды каб.*

*Каб жа так, абы не гэтак,*
*Каб жа гэтак, а не так,*
*Каб жылося, як за светам,*
*Дзе і піць, і есці ўсмак.*

*Дзень — і тая ж гаварыльня*
*Пра наедкі, пра напой,*
*Хоць хвіліну падары мне*
*Іншай мовы, часе мой.*

*Гарладзёры, тарбахваты.*
*Строй катэджаў ад прамоў.*
*А ў краіны з рук распятых*
*Кроплі точацца далоў.*

*Кап ды кап...*
*Гучыць няспынна,*
*А душы не падманеш,*
*Што вясной так быць павінна —*
*Растае на даху снег.*

*Каб жа ўвесь растаў нарэшце!*
*Дайце веры мне, усё ж*
*Грымне гром і шлях правешыць*
*Веснавы вясёлы дождж.*

●

*Чаго чакаць?*
*Колькі тысяч год*
*Пытанне віруе ў свеце,*
*Узлёты сэрца і думкі ход*
*Ператварае ў смецце.*

*Чаго чакаць?*
*Без патрэбы час*
*Глуміць на бясспрэчнасць спрэчак*
*Наўкол таго, што тут і адказ,*
*Як і пытанне — вечны.*

*Хоць распаламся:*
*рабі, ляці*
*За ўдачай, а тым не меней,*
*Усё дарма, калі адсвяціў*
*Табе вугалёк натхнення.*

## Перад страшным судом

І

*Як яны так назбіраюцца*
*Дзянькі, а пасля гадкі?*
*Ні з іх палону вырвацца,*
*Ні падзяліцца з кім.*

*А каб сапраўды пашэнціла*
*Скінуць з плячэй хоць трэць,*
*У печы майго Асвенціма*
*Можа неператлець.*

*Добрае — адшкадуецца,*
*Дрэннае — не гарыць.*
*Рушу па зорнай вуліцы*
*Да тога, што ўсё стварыў.*

*Перад вачыма дбалымі*
*Стану такі, як ёсць:*
*Вось што зрабіў у сталасці,*
*Вось — мая маладосць.*

*Грэшны.*
*З якой бязодніцы*
*Чэрці смалы ўзліюць —*
*Што мне?*
*Якая розніца!*
*Раю, відаць, не знойдзецца*
*Горшага за зямлю.*

2

*Пажары. Паводкі. Забойствы.*
*Людзі заўжды жахаліся*
*Няшчасцяў, што праз апостала*
*Запісаны ў апакаліпсісе*
*І ажывуць, каб ведалі,*
*Што судны дзень напярэдадні.*

*Няўжо чутны тыя прызывы,*
*Што гэтак мы зажагналіся?*
*Вечар пры тэлевізары —*
*Вось табе й апакаліпсіс.*

## Трохгалоссе

*Бляск грымотаў, натоўп сугалоссяў*
*Абарваліся не ў пару.*
*Палыновыя, горкія лёсы —*
*Багдановіч,*
*Гарэцкі,*
*Гарун.*

*Падрыхтуйся, наступнік,*
*да стрэчы:*
*Кожны з іх — вышынёю з Эльбрус.*
*Прынялі столькі гвалту на плечы*
*Багдановіч,*
*Гарэцкі,*
*Гарун.*

*Калі хмара дарогу абляжа,*
*Каб нягода не рынула ўгрунь,*
*Ваша рада, як быць нам, падкажа,*
*Багдановіч, Гарэцкі,*
*Гарун.*

*Клікне так, каб аж рэха ўзнялося,*
*Вешчы голас з курганоў і трун.*
*Мы адной з вамі нівы калоссе,*
*Багдановіч,*
*Гарэцкі,*
*Гарун.*

*Дай нам, божа, дастойнае слова,*
*Каб служыла, як звон, як пярун,*
*Каб злівалася з вашаю мовай,*
*Багдановіч,*
*Гарэцкі,*
*Гарун.*

*Каб маглі мы ў навальнай часіне*
*Небяспекам шляхі перасеч,*
*Даравалі вы роднай краіне*
*Веру,*
*Праўду,*
*Ахвярнасць*
*і Меч.*

ПРОЗА

# РАТУЙЦЕ ВАШЫ ДУШЫ

АПАВЯДАННЕ

Віктар СУПРУНЧУК



ІХНІ ЦЯГНІК запыніўся на паўстанку ў Польшчы — давялося прапускаць эшалоны з танкамі, самаходкамі.

— Стаяць! Смірна! — камандзір узвода сяржант Іваноў бегаў перад навабранцамі, надрываўся крыкам. Было відаць, што яму моцна падабалася камандаваць. Ён ажно падскокваў ад задавальнення. Навабранцы былі для яго не вельмі прыемныя: заходнікі з Беларусі. З-пад акупацыі. А зусім нядаўна, перад вайной, жылі пад палякамі. І самі, мусіць, паны. Як можна іх любіць? Ва ўсіх твары панурыя, глядзяць спадылба. Што ў іхніх галовах? Уперамешку пажылыя дзядзькі і маладыя хлопцы. На іх напісана, што ніколі стрэльбы не трымалі ў руках. Але, як правільна казаў капітан Казакоў, вайна ўсіх навучыць жыць. А хто не хоча, таго прымусіць.

Ля Франца Антусевіча ў страі — маладзенькі Кастусь Жабрак з-пад Пружанаў. Невялічкі, ружавашчокі і шчупленькі, бы падпасак. Яму б яшчэ гуляць у лапту, а не трымаць у руках большую за сябе стрэльбу. Але ж — хто яго пытаў, апранаючы ў вайсковую вопратку? Год падышоў і — будзь ласкавы на службу. Хоць мо і трэба было б устрымацца. Невядома, каму тут служыць. Унь ён быў у польскім войску, у трыццаць дзявятым прыйшлі бальшавікі, потым — немцы, зараз — ізноў бальшавікі. Ці не апынуцца якія амерыканцы? Ой, божа, хто ведае, хто ведае...

— Вольна! Разыдзісь! — камандуе сяржант. Куды ісці? Ад цягніка надта не адыдзешся. Раптам збірацца? Ён скураю разумее, што такое быць салдатам. Сам сабе не гаспадар, прыгнечаны чалавек. Як яму ўсё гэта не ведаць. Для Кастуся дзівосны, а для яго не вельмі далёкае мінулае. На тое і салдат, каб муштраваць.

— Дзядзьку, а што ён гэтак крычыць? — пытаецца Кастусь.

— Каб ты не драмаў, — усміхаецца Франц. Ён сталы чалавек. Служыў пры Пілсудскім. Не забыў, як гармату цягалі на вучэннях пад Гдыняю. Салдат — ён усюды салдат.

У іх камандзірам батарэі быў падпаручнік Кранц. З сілезскіх немцаў. Акуратны, прыгожы, бы лялька. Голас ніколі не ўзвышаў. Але ж на вучэннях паказаў, што і ён добры сабака. Як батарэя выбралася на шашу, дык яны і ўбачылі, што абапал, нібы лес, чарэшня. Ягады былі ўжо спелыя, налітыя сокам. Салдат на дарэмшчыну ласы. Кінулі свае гарматы і — да дрэў: смаката! Падпаручнік Кранц трохі прыпазніўся, з нейкай паненкай ці пані меў размову. Падскочыў на сваім жарэбчыку і — бізуном па плячах, па плячах. Крычаў: “Халера, быдла!..” За што лупцаваў, патлумачыў пазней. “Ешце на здароўе чарэшню, але навошта ламаць галлё? Нішчыць тое, што людзі выгадавалі?”. І праўда ж, быдла. Хоць і крыўдна такое пра сябе чуць. Ніхто ж за беларуса і не лічыў. Мужык і паляшук. Быццам бязродны. Ні табе нацыянальнасці, ні табе радзімы. І тое ж — зноў. З-пад акупацыі, заходнік... А ён — чалавек. У яго жонка, дзеці і Бог, якіх любіць. Яны зоркамі свецяць у нябёсах, надаюць сілы для жыцця. Больш яму нічога не трэба. У іх ягонае шчасце.

— Смірна! — гукае сяржант. Што будзе, калі ён атрымае зорачкі на пагоны? Не дай бог. Нічога горшага няма, калі з хама — пан. Але ж пярэпалах — з-за капітана Казакова, які, мабыць, у добрым гуморы. Выкараскаўся з-пад суседняга вагона. Вочы блішчаць і нос пачырванелы. Нейкую мелодыю насвіствае.

— Вольна! — махнуў паблажліва рукою. — Слухай сюды... Хутка перамога. Для яе патрэбны грошы. Вярхоўны галоўнакамандуючы таварыш Сталін аб’явіў чарговы займ. Мы павінны пазычыць грошай на перамогу. Наш патрыятычны доўг падпісацца. Хто што хоча сказаць?

У Франца ў вёсцы засталіся з жонкаю чацвёра дзяцей. Жылі яны ў хлеўчуку — хата згарэла, калі наступала Чырвоная Армія. Выпадкова ці як, але “кацюшы” тады спалілі паўвёскі. І ён дзень і ноч думаў, як сям’я. Па салдацкім атэстаце выходзілі нейкія капейкі. Франц адразу папрасіў, каб іх адсылалі жонцы. Не грошы, а слёзы, а цяпер і іх хочуць забраць? У душы ўсё ўзбурылася ад пратэсту.

Франц выйшаў наперад. І хоць страшнавата было, сказаў:

— Я — супраць. У мяне дома дзяцей няма чым карміць...

Капітан пасміхнуўся:

— Хто яшчэ так думае?

Іхняя рота была ўкамплектавана напалову сібіракамі. Хлопцы здаровыя, сытыя. Трымаліся асобна. Сярод іх вызначаўся гаварлівы яфрэйтар Жукаў. Словамі сыпаў, бы гарохам. Як тут магло абысціся без Жукава?

— Мудрае рашэнне таварыша Сталіна. Пазычым грошай нашай дзяржаве. Навошта іх трымаць у панчосе!

І ўсе сібіракі загулі: верна, верна! Беларусы маўчалі, хоць кожны быў за Франца. Боязна выказацца. Хто ведае, што гэта за цаца — савецкая ўлада. Перад вайной за год з хвосцікам бальшавікі вывезлі ў Сібір усіх асаднікаў і больш-менш удалых гаспадароў. Франц сам ледзь не трапіў у гэты абоз. Выратаваў стрыечны брат, які нечакана ўзнік з Расіі, прапаўшы ў бежанстве пад Самараю ў першую нямецкую вайну. Дый чуткі яшчэ пры паляках хадзілі ад Брэста да Беластока, што кэпэзэбоўцы, якія ўцяклі праз Негарэлае ў Савецкі Саюз, сталі там шпіёнамі і параць косці ў зямлі.

— Правільна, таварыш яфрэйтар! А ты, х... сабачы, цёмны, як зямля, — капітан закурыў папяросу, паківаў пальцам. — Ідзі сюды...

Збоку з пабялелым тварам шаптаў Кастусь Жабрак:

— Ой, дзядзечка, нашто вы казалі.

— Нічога, хлопча, бог мяне падтрымае, — Франц спакойна паправіў скатку і рэчмяшок за плячыма, выйшаў з шарэнгі. Трымценне было, але не спалохаўся. Мо і дарэмна высунуў язык. Толькі назад словы не вернеш. Успомніў навуку падпаручніка Кранца, які штодзень ганяў батарэю па пляцы. Затупаўшы чаравікамі за крокаў пяць ад капітана, узмахнуў далонь да шапкі. — Баец Антусевіч...

— Досыць! — капітан пасунуўся ўшчыльную да Франца. Узяў рукою за скатку. Дыхнуў вінным перагарам з пахам цыбулі. — Ты што мне людзей збіваеш з панталыку? У штрафнікі захацеў?! Дык яны праз вагон. Стрэльбу не ўзяў?

— Мне вера не дазваляе, — глуха сказаў Франц.

— Вера? Пойдзеш пад кулямёт і забудзеш пра сваю веру. У нас адна вера — таварыш Сталін. Ідзі!

Франц, у думках падзякаваўшы Бога за падтрымку, бо толькі па ягонай міласці з ім нічога не здарылася, вярнуўся ў строй. Крочыў упэўнена, выпраставўшы плечы. Тое, чаму навучылі ў польскім войску, не забылася. Да скону застанецца ў крыві. Што маладыя пазналі за тыдзень перад фронтам? Анічога. Божа мой, хто з іх застанецца жывы? Кастусь трымае стрэльбу, бы цэп на таку перад малацьбой...

Яны стаялі яшчэ гадзіну-другую. Вялізная шэра-зялёная маса людзей варушылася вакол цягніка, шумела, рыхтавалася рушыць далей на захад. Пад вечар на небе пачалі ўзнікаць чырвона-чорныя плямы. Зрэдзь быў чуцен гром. Усе занепакоена прыслухваліся да яго. Тлумачыць, што гэта, — нікому не трэба. Наперадзе была вайна. Грукалі гарматы, гінулі людзі. Які ўжо год была гэта бура...

Перад захадам сонца прагучала каманда абедаць. Кожнаму налілі па два чарпакі нейкага празрыстага булёну, у якім, як кажуць, крупіна за крупінай ганялася з дубінай. Апетыт толькі распаліўся. Той-сёй даставаў свае прыпасы. У Франца быў бохан хлеба. Ён адрэзаў акрайчык і ўбачыў галодныя вочы Кастуся. Аддаў хлеб яму. Сам вырашыў пацярпець. Калі будуць карміць па поўнай норме? Запас не пашкодзіць. Нехта паляпаў па плячы. Франц падняў галаву: яфрэйтар Жукаў.

— Што, братка-беларус, засумаваў? Хутка фронт. Там накормяць ад пуза.

— Можа быць...

— Не можа быць, а точна. Я не першы раз еду. Я табе скажу: і дурны ж ты, як пень! Відаць, цябе пакуль не навучыла савецкая ўлада. Мы падтрымалі рашэнне таварыша Сталіна пазычыць грошай і з нас нічога не ўзялі. А ты быў супраць. З вас, беларусаў, возьмуць на ўсю катушку. Галоўнае, не рабіць, а падтрымліваць. Зразумеў, братка-беларус? Гэта табе не за панам... Тут савецкая ўлада. Нічога, навучаць...

Жартаўліва скінуў шапку з Кастуся. Пазяхнуўшы, азірнуўся і падаўся да землякоў, дзе ўжо заспявалі. Высокі, прыгожы, сіла ў руках іграе. Дзяўчаты за такім бегаюць. Абы застаўся жывы.

— Дзядзечка, хачу вас спытаць, — кажа Кастусь. Ён і не адыходзіць ад Франца. Бы шчанюк, заглядвае ў вочы. Пэўна ж, пасля бацькоўскай хаты сумна і адзінока. Дый страшна. Франц уявіў свайго старэйшага Міколу. Гэта ж у іх розніца ў тры гады. Кастусь мала вышэйшы за сына.

— Спытай. Я ж табе не войт і не солтыс.

— Чаму вы адмаўляецеся браць стрэльбу ў рукі?

— Мне, Кастусь, вера не дазваляе. Я баптыст, ці, як у нас кажуць, штунда. Вера ў Хрыста дае мне сілы. Колькі разоў яна мяне ратавала. Аберагала маю сям’ю. Год назад зімою нас немцы выгналі з вілкамі на чыгунку. Ты ведаеш, вілкі вядзеш па рэйцы і калі натрапіш на партызанскую міну, павінен альбо падарвацца на ёй, альбо паказаць яе немцу. І вось раптам за мной узарвалася міна. Яшчэ і цягніка не было. Мабыць, партызаны кепска падклалі. Яна вырвала метра паўтара рэйкі. Бог быў літасцівы да мяне. Немец, які ішоў збоч ад чыгункі, толькі мацюкнуўся. Не заявіў свайму начальству. Інакш мяне з сям’ёй паставілі б у роў. Немец немцу розніца... І ад веры я не адступлю.

— А калі бой? — спалохана міргае Кастусь.

— Што ж, пайду. Але без стрэльбы.. — гаворыць Франц, паціху молячыся за сыноў Міколу і Янку, дачок Тамару і Веру, за жонку. Божа, хай будзе вялікай твая міласць да родных.

У цемры размясціліся па вагонах, і цягнік зататахкаў, набіраючы хуткасць. Стомленыя салдаты, хто дзе прыткнуўшыся, засыналі. Было ціха. Ля Францавага пляча па-дзіцячы сапеў і шмыгаў носам Кастусь. Праз паўадчыненыя дзверы цяплушкі чарнела сырая нямецкая ноч. Чуў Франц, як гаманілі салдаты між сабой, што немцы пакідалі дамы паўнюткія дабра. Заходзь у хату — багацця за раз не забраць. Што хочаш, на любы густ. Але ж гэта рабаўніцтва. Немцы ж — яны таксама людзі. І нажывалі дабро сваім мазалём. Як гэта зайсці да чалавека ў хату і забраць, што спадабалася? Колькі немцы стаялі ў іхняй вёсцы, надта не рабавалі. Хутчэй свае, паліцаі, лазілі па хатах. Ды партызаны. Удзень — паліцаі, уначы — партызаны. Усё дай і дай. Хоць з сябе апошнюю скуру здымі, а яму аддай. Не, ён у чужую хату не пойдзе. Лепш быць галодным і босым, чым забіраць у чалавека. Вялікі грэх і Бог не даруе яго.

Толькі пад ранак задрамаў. Па сваёй сялянскай звычцы спаў нядоўга. Дый правая нага адзеравянела, курч улез. Кастусь ужо спаў на падлозе і соладка храпеў. Усміхаўся ў сне. Няйнакш яму снілася родная вёска. Можа, дзяўчына. Яму цяпер добра. Ён — як дома. Вайна недзе на іншым свеце. Як і салдаты, гэты вагон, стрэльба. Ён з бацькам косіць сена ці пасвіць кароў на пастаўніку. “Хай гэтае хлапчаня ацалее”, — думае Франц. Ён падыходзіць да дзвярэй. Паміж дрэў чырванеюць муры пад чарапіцаю. Разбураных амаль не відаць. Ён разумее, што яны ў Германіі. Ззаду застаюцца невялічкія з гэткіх самых дамкоў ці то вёсачкі, ці то мястэчкі. На пераездзе з роварамі ў руках узіраліся ў цягнік мужчына ў капелюшы і ў кароткіх штанах і жанчына ў зялёным паліто. Што яны спрабавалі ўбачыць? Сваю будучыню? Што чакаць ад эшалонаў з рускімі? Вайна нікому не цукар. У ёй людзі пакутуюць з абодвух бакоў.

У вагоне папрачыналіся. Дзверы расчынілі насцеж. Цікава ж, якая гэта Германія? Скуль узяла такую сілу, што захапіла амаль усю Еўропу? Дзе тая культура, да якой хацелі іх прывучыць немцы? Усё было незнаёмае і чужое. Зусім няма саламяных стрэх, толькі чырвоная, бы ў панскім фальварку, чарапіца.

На вуліцы імжэў дробны дождж. Паветра сырое, але не халоднае. Цягнік сцішваў хаду, уцягваючыся ў нейкі горад. Мільгнула вялікая шыльда. Франц скончыў чатыры класы пры цары. Неаднойчы быў у Варшаве. Чытаць умеў і па-нямецку. Паспеў схапіць вачыма назву: Айвенхютэнштат.

Зарыпелі тармазы, і цягнік спыніўся. Не чакаючы каманды, салдаты высыпалі з вагонаў. І адразу шум, крыкі, лаянка. Забегалі камандзіры, спрабуючы ўтрымаць салдат ля цягніка. Але людзям было ўжо цесна на невялікай станцыйнай плошчы. Імгненна абляцела ўсіх чутка, што эшалон затрымаецца тут да вечара: наперадзе ўзарваны рэйкі. І салдаты па адным, а то і групамі пачалі разбрыдацца па наваколлі.

Франц прысеў пад вагонам. Нікуды не хацеў ісці. З ім быў і Кастусь. З цікавасцю азіраўся. Штосьці ўсё намагаўся сказаць, уздыхаў. Не вытрымаў урэшце:

— Дзядзьку, а мо і мы пройдзем трохі? Глянем, што гэта за Нямеччына.

— Пачакай, не спяшайся...

Ён заўважыў, як адыходзілі сібіракі з яфрэйтарам Жукавым. Вярнуліся вясёлыя і штосьці хавалі ў вагоне. Грукалі ў дзверы, патрабуючы ад аховы адчыніць, штрафнікі. “А чаму і не паглядзець, як жывуць немцы”, — падумаў Франц.

— Ладна, Кастусь, пайшлі.

Перад станцыяй патрулі спрабавалі ўтрымаць людзей. Гэта была марная справа. І Франц з Кастусём цішком абмінулі іх. Апынуліся на вуліцы Вагнерштрасэ. Немцаў — ні душы. Адны зялёныя салдацкія постаці. Крокаў за трыста ўверх па вуліцы гудзеў натоўп. Не дайшоўшы да яго, Франц адчуў нейкі пах. Зірнуў пад ногі. Ад натоўпу цёк ручай:

— Дзядзьку, гэта ж віно!

— Бачу!

Насустрач ім два маладзенькія сібіракі з суседняга вагона, хістаючыся, неслі па вядру віна. Узбуджаныя ад выпітага, яны гучна размаўлялі. Зачэрпвалі далонню з вядра і, смеючыся, пырскаліся.

А ручай ператварыўся ўжо ў раку. І каля дома Франц зразумеў, што тут вінныя падвалы. З яўрэем Гіршам у трыццаць шостым вазіў сушаныя белыя грыбы ў Варшаву пану Мікульскаму. Дык той хваліўся, што ягоныя вінныя падвалы лепшыя ў Польшчы.

Дзверы ў падвалы былі выбіты. Салдаты неслі віно хто ў чым: у вёдрах, у біклагах. Найбольш пілі на месцы. Некаторыя ляжалі на зямлі, уткнуўшыся галовамі ў вінны ручай. Гвалт, п’яны рогат і мацюкі ўскалыхнулі гэту чысцюткую, прыбраную вуліцу.

З падвала выскачыў яфрэйтар Жукаў. З галавы да ног мокры. Няўцямна пахістаў галавою. Нахіліўся назад і абрынуўся долу. Франц, не разважаючы, — за ім. Апынуўся па жывот у віне. Тое, што ўбачыў, яго ўразіла. Падвал быў агромністы і паўнюткі вялізных драўляных бочак. Амаль з усіх цякло віно. Дзесяткі салдат плавалі ў гэтым басейне. Божа, божа, злітуйся над грэшнымі.

— Дзядзьку, памажыце! — з апошніх сіл трымаў Кастусь Жукава за каўнер. — Памажыце.

(Працяг на стар. 12)

## Творчасць педагога

**Час ад часу ў фае Слуцкай дзіцячай мастацкай школы выстаўляюцца работы былых выпускнікоў, для якіх ДМШ стала першым крокам прафесійнай адукацыі, а таксама творы мясцовых мастакоў.**

**"Гармонія выпадку" — так назвала сваю выставу акварэлі, што была ў маі, выкладчыца ДМШ Г. Мацюшэнкава. Для Гунефы Фёдараўны акварэль — сродак перадачы эмацыянальнага стану, спроба адлюстраваць унутраны свет чалавека. Зафіксаваныя па волі мастачкі быццам "выпадковыя" спалучэнні ліній і плямаў вільготнай паперы маюць уласцівасць "выпадкова" ператварацца ў новыя формы. Захапляецца мастачка таксама батыкам, міні-габеленам і іншымі відамі і тэхнікамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Творчы настрой выкладчыцы перадаецца і навучэнцам.**

**Г. Мацюшэнкава — выпускніца мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педінстытута. У школе вядзе прадмет "кампазіцыя". Работа з дзецьмі — яе прызванне. І вынікі работы гавораць самі за сябе. Творы яе вучняў неаднойчы адзначаліся прызамі на разнастайных конкурсах дзіцячай творчасці. Вялікі поспех — першае месца на абласным конкурсе, прысвечаным 60-годдзю Мінскай вобласці. Ёсць калектыўныя і асабістыя ўзнагароды за ўдзел у Міжнародным дзіцячым фестывалі "Падводныя фантазіі", які штогод ладзіцца ў Данецку. Тры гады запар, у тым ліку і сёлета, навучэнцы ДМШ становяцца ўдзельнікамі Міжнароднага дзіцячага пленэру ў Македонскім горадзе Бітола, дзе іх работы таксама адзначаюцца сярод лепшых ("Гран-пры" за калекцыю 1996 г., дыпломы "Залатая палітра" — асобным удзельнікам 96, 97 і 98 гг.). Трэцяе месца і бронзавую ўзнагароду атрымала калекцыя работ і на міжнародным конкурсе, што ў канцы мінулага года праводзіўся ў Славеніі.**

**Каб дасягнуць поспехаў у рабоце з дзецьмі, трэба, акрамя ўласнай творчасці, умець перадаць свае веды іншым. Метадычная распрацоўка Г. Мацюшэнкавай, прадстаўленая разам з творчымі работамі на сёлетні абласны і рэспубліканскі агляды-конкурсы метадычнай і творчай работы выкладчыкаў навучальных устаноў культуры і мастацтва, адзначана дыпломамі абласнога ўпраўлення культуры і Міністэрства культуры Беларусі.**

**І. ЦІТКОЎСКІ**
*г. Слуцк*

## Малады і таленавіты



**Маляваннем Сяргей Радзейка захапіўся яшчэ ў час вучобы ў СШ N 1 г. Петрыкава. За перыяд службы ў арміі шмат чаму навучыўся ад больш вопытных саслужыўцаў. Працаваў слесарам на заводзе, рабочым леспрамгаса. Марыў пра творчы занятак. Уладкаваўся ў брыгаду рэзчыкаў райаграпрамэнерга, у вольную часіну браў у рукі пэндзаль.**

**Малады самадзейны мастак — адзін з самых таленавітых у раёне. Прымаў удзел у раённай, абласной і міжрэспубліканскай выставах народных умельцаў. Пра яго творчасць расказвала абласное тэлебачанне.**

**Другі год Сяргей працуе фотакарэспандэнтам у райгазеце. Часта змяшчае на яе старонках эцюды аб прыродзе, малюнкі, карыкатуры. Займаецца і разьбой па дрэве.**

**А. ЛАРЫЁНАЎ**

*На здымку: Сяргей Радзейка (злева) побач з сябрам, мастаком Юрыем Нікешыным на выставе іх работ.*

ТЭАТР

# Любоў, нянавісць, зайздрасць, спачуванне...

***"Времена не выбирают, — В них живут и умирают", — гэта радкі Генадзя Шпалікава. Паэта, які трагічна загінуў у часы глыбокага застою. Радкі можна было б узяць эпіграфам не толькі да п'есы "Развітанне з Радзімай", але і да ўсёй драматургіі Алены Паповай. Героі, персанажы яе п'ес на сцэне напраўду жывуць, а часам і паміраюць. Як на прэм'еры новай п'есы Паповай у Тэатры беларускай драматургіі. П'еса "Развітанне з Радзімай" прызнана лепшай п'есай года на сёлетнім конкурсе п'ес. Гэта ўражанні аб пэўным спектаклі 18-га сакавіка, але і аб п'есе адначасова. Апынуўшыся ў глядзельнай зале, адразу трапляеш у дзіўны дом — няма бар'ера, ямы, узвышэння і заслоны, што аддзяляюць акцёраў ад гледачоў. Разумею, наколькі цяжэй ім іграць ва ўмовах, калі глядач амаль на сцэне. Яшчэ не запалілася святло на сцэне, а цені гасцей праходзяць у кватэру, якая на ёй выяўляецца, парамі і па адным...***

Па кампазіцыі п'еса "Развітанне з Радзімай" нагадвае "Дні Турбіных" Міхаіла Булгакава — утульны пакойчык, гасцінная гаспадыня, людзі, што прыходзяць, прыязджаюць, жывуць тут і паміраюць, толькі за сценамі не зіма, мароз, рэвалюцыя, змена ўрадаў, а несупынны асенні дожджды абрыдлая наша пост-перабудовачная рэчаіснасць. Насельнікі кватэры хаваюцца ад яе не за крэмавымі шторамі, а за паўпразрыстымі перагародкамі-шырмамі, што надае ўтульнаму, трываламу на першы погляд жытлу ды й самому існаванню за імі нейкую эфемернасць, нетрываласць, нестабільнасць.

Рэжысёр Вячаслаў Осіпаў ненавязліва выбудаваў сцэнічную дзею ў складаным пераплецянні ўзаемадзеяння музыкі, святла, інтанацый і пластыкі акцёраў, ствараючы з усіх кампанентаў адзінае цэлае спектакля, сыгранага на нюансах, у якіх гучыць пакутлівы боль "за бесцельно прожитые годы".

Па ўзросце героі п'есы А. Паповай амаль удвая старэй за персанажаў знакамітай Булгакаўскай п'есы; у пастаноўцы В. Осіпава гучыць песня "Белой акации гроздья душистые" з тэлепастаноўкі "Дні Турбіных"... На сцэне — пакаленне дзяцей, якія не сталі дарослымі. Гэта дзеці пераможцаў Айчыннай вайны; калі за іх бацькамі стаяла вялікая гістарычная справа, то за імі такога няма. Не маюць рацыі тыя, хто адносіць персанажаў п'есы да шасцідзесятнікаў — да іх па праву належаць тыя, каго ў дзяцінстве, няхай нават у маленстве пазначыла вайна, гэта хрышчэнне агнём так або інакш не прайшло бясследна: шасцідзесятнікам пашанцавала, нейкая частка іх усё ж такі здолела стаць дзейнымі асобамі ў лёсе краіны. Тыя, хто на сцэне — не паспелі.

Калі жыццё згортваецца, а не разгортваецца, калі цэнтр цяжару жыцця ад грамадскага перамяшчаецца да прыватнага і асабістага, а кватэра (не толькі кухня) робіцца галоўным месцам сходаў і размоў па светапоглядных пытаннях, роля жанчыны ў грамадстве вырастае невымерна. Не-не, яна і заўсёды была высокая, але ў кватэры, на кухні яна, жанчына, больш прыкметная, адукавальная. Так цэнтральнае, восевае напружанне ў п'есе ствараюць дзве жанчыны — гасцінная гаспадыня кватэры Ала Баннікава (Таццяна Жахоўская) і даўняя сяброўка Дзіна, якая прыехала да яе і ў канцы ад'язджае туды ж, адкуль прыехала (А. Гудкова). Дзве гэтыя выканаўцы і трымаюць спектакль.

Роля Алы падобная да ролі Алены Турбінай, яна выйгрышная ўжо тым, што ўвесь час "пры справе": сустракае-праводзіць гасцей, прыносіць каву (часам без цукру, таму што ён скончыўся, і грошы таксама), корміць чым Бог паслаў, сцеліе ложак тым, хто застаецца начаваць. Актрыса з самага пачатку ку бярэ правільны тон, супадаючы па рытме з музычным фонам спектакля, яна прываблівая, нешматслоўная, немітуслівая і патрапляе выглядаць элегантна на працягу амаль усёй п'есы ў адной-адзінай сукенцы. Яе гераіня — сапраўдная жанчына, жонка свайго мужа, якая не дэманструе, што дом трымаецца на ёй, і не лічыць сябе ахвярай. Па сутнасці, ёй удаецца адзіны варыянт ідэальнага шлюбу, і шлюб гэты не пахіснецца, хоць прыезд на няпэўны час прыгажуні-сяброўкі — гэта спакуса для ўсіх. Але сям'я, ёю створаная, праходзіць выпрабаванне на трываласць. Відаць адразу: яна не ў разладзе сама з сабой, а гармонію ўнутраную і знешнюю яна аднаўляе пры дапамозе няхітрага аўтатрэнінгу: "я бачу мора"...

Як утульна яна сядзіць на канапе з кубачкам кавы ў чаканні вучня, паколькі яе адзіная работа (спосаб заробку) — гэта хатнія ўрокі. У размове з мужам — дарэчы, таксама сібарытам, што і робіць непахісным іх шлюб — яна самакрытычна прызнаецца, што ўсё жыццё нечаму вучыць, а сама нічога не ведае (трэба думаць, акрамя замежнай мовы)!

І вось у час дажджу ў цёплы плюшавы свет урываецца, як прынцэса на гарошыне, Дзіна і ўносіць адразу: рух, сумятню, шум, успаміны. Некалі ўсе персанажы п'есы працавалі ў адным аддзеле нейкага НДІ і прадаўжаюць перыядычна сустракацца, акрамя з'ехаўшых некуды Дзіны і Карасёва, раней сціплага бухгалтара аддзела, цяпер банкіра. Уласна ўвесь "баль" у першым акце ладзіцца Алай дзеля сустрэчы Дзіны з Карасёвым — Ала разумее адразу, што сяброўка цяпер "на паляўнічай сцяжыне". Карасёў па тэлефоне адразу пагаджаецца на сустрэчу, ён не забыў...

Трэба сказаць, што мужчынскія ролі ў п'есе, у адрозненне ад жаночых, хутчэй пазначаны пунктырна, асабліва гэта датычыць двух з трох прыхільнікаў Дзіны: Карасёва і Гваздзецкага, адпаведна, перад акцёрамі, якія гэтыя ролі выконваюць, стаіць досыць складаная задача — не раскрыць, але дакладна вызначыць сваіх персанажаў. В. Кашчэеў, які іграе Карасёва, на мой погляд, крыху аморфны, але скарыстаў у поўнай меры ўвесь тэкст ролі: ён як быццам адразу ведае, што пампэ ў першай жа сцэне, сэрца на вытрымае нагрузкі (вось цана кар'еры банкіра!), калі Дзіна паспрабуе спакусіць яго, а ў яго дома жонка, сын... Нечаканая смерць занадта адчувальнага Карасёва ўспрымаецца амаль як у Агаты Крысці — без эмоцый. Дзіна на хвіліну сцішылася — не захацела ці то не здолела пачуць папераджальны гук? Магчыма, яго пачулі іншыя госці Алы і адхіснуліся ад парушальніцы спакою...

А далей пачынаецца шалёны раман Дзіны з Паручнікам, таксама былым прыхільнікам, і Ала перыядычна ідзе з дому, пакідаючы іх сам-насам. Ёй шчыра хочацца, каб сяброўка знайшла сабе трывалую пару і стала "як усе", вызваліла яе ад турбот. Але не гэтым заклапочана сама Дзіна: даведаўшыся, што дарослы вучань Алы Гваздзецкі ад'язджае ў Канаду, яна накіроўвае на яго свой драпежны погляд.

Сцэна "спакушэнне з парасонам" — адна з лепшых у спектаклі. Чакаючы прыходу Гваздзецкага, Дзіна пераўвасабляецца і ва ўсім бляску сваёй прыгажосці і элегантнасці (для Паручніка добра і ў халаце!) сустракае ў асобе Гваздзецкага (А. Кот) годнага партнёра: таксама прыгожага, маладога, які ловіць мяч, кінуты ёю, на ляту. Адразу зразумела: гэты яе перайграе...

Што і адбываецца ў канцы — Дзіна ўжо падрыхтавалася да адлёту, развіталася — не, не з Радзімай, — з Алай, падараваўшы ёй ці не ўвесь набор спакуслівых туалетаў, але тут з-пад вечнага дажджу прыбягае Лялька з прамоклымі нагамі і зларадна паведамляе, што Гваздзецкі ўжо паляцеў напярэдадні. Хто сказаў, што напружанне ў гэтай п'есе, яе інтрыгу трымаюць дзве жанчыны? Вядома ж, іх тры, не трэба недаацэньваць Ляльку — мітуслівую, невыносную, якая недарэчна напілася ўжо ў першай жа сцэне, апранутую з безгустоўнай прэтэнзіяй — ад беднасці. Яна нарадзілася ў сям'і высокага ваеннага чына і памятае лепшыя часы, а цяпер падрабляе прыбіральшчыцай; пасля рэвалюцыі існавала такое паняцце — "з былых". Так, на працягу жыцця трох пакаленняў — Дзіна ўспамінае, што яе дзед валодаў дамамі, а сама яна, у адрозненне ад Лялькі, расла ў камуналцы — наша гісторыя мяняла знакі — хто быў нічым, рабіўся ўсім — і наадварот. Вось Лялька — з былых, але не бяскрыўдных: менавіта яна вельмі садзейнічала таму, каб прынцэса на гарошыне засталася "на бабах", ды яшчэ і спрабуе пасварыць Алу з Дзінай.

А перад гэтым была кульмінацыя рамана Дзіны з Паручнікам: "Не ад'язджай!" — "Не магу!", з рыданнямі, пацалункамі і праклёнамі — Дзіна адкінула яго, яна ўжо ў канне не верыць. І здарылася тое, чаго ўжо баяліся раней — Паручнік разбіў машыну і сам ледзь не загінуў. На сцэне — Ала і Дзіна, апошні маналог якой прымушае ўспомніць Скарлет О'Хара, якая на нейкі час заваявала амаль увесь свет: "Я вярнуся, я даб'юся, я не здамся". Гэтая амерыканка палюбілася мільёнам чытачоў-кінагледачоў за стойкасць і жыццялюбства, а яна ж таксама здзяйсняла непрыгожыя ўчынкі, на ўсю скарыстоўвала мужчын. Хто без граху, няхай кіне камень.

Так, Дзіна драпежніца, але відавочна, што за ёю не стаяла спачатку забяспечаных бацькоў, якімі можна было карыстацца як рэнтай усё далейшае жыццё. Толькі Дзіне і Карасёву давялося ўступіць у сутычку за месца пад сонцам.

Таму што тост за рэвалюцыю ў другім дзеянні, які з выклікам абвяшчае Поснік (яго віртуозна, пазнавальна іграе Л. Бойка) — гэты тост і ёсць сапраўднае "развітанне з Радзімай", а таксама стральба з цацачнага пісталета, які прафануе залп Аўроры. Гэта тост людзей "збоку", якія не ўдзельнічаюць, — яны ўспамінаюць, што бацькі былі ў партыі, але нават калі хтосьці з іх быў у партыі сам, то, па сутнасці, і там заставаўся збоку. У часы сваёй маладосці яны "ігралі" ў "белых афіцэраў" у сваёй кампаніі (адсюль прозвішча Паручнік), так выказвалі свой пратэст супраць рэчаіснасці. І тост Посніка за рэвалюцыю — якая іронія! — міжволі "рыфмуецца" з тостам "за цара" ў п'есе Булгакава: "кому пролог, а кому эпилог".

Калі для жанчыны зусім дастойна можна "проста жыць", то для мужчыны (ён сам так адчувае!) — гэтага мала. Адзін Іван Баннікаў, муж Алы (І. Сігоў) пакідае ўражанне чалавека навукі, якому верыш, таму што на тварах чытаюцца сляды роздуму, скептыцызму, незадавальнення перш за ўсё самім сабой. Ягоная вартасць пакалечана незапатрабаванасцю, але не зломлена, не зусім скажона, магчыма, таму што Ала побач.

Чаго нельга сказаць пра Паручніка (Ю. Жыгамонт), які іграе чалавека багемы, не навукі, не доктара навук, прафесара. І калі з'явілася Дзіна, ён кідае жанчыну, якая кахае яго, кідае свой НДІ дзеля работы ў сумнеўным прадпрыемстве "Флора", якое таксама збіраецца кінуць у канцы, каб вярнуцца назад. Фармальна Дзіна падштурхнула яго да гэтага, але мы можам зразумець яе, калі з рыданнямі яна адмаўляецца застацца з ім — ён прапаноўвае ёй фактычна падставіць сваё плячо, стаць апорай, вярнуць страчаную веру ў сябе. Мітуслівы герой саміздесятых а-ля "Палёты ў сне і наяве" цяпер, калі жыццё стала такім жорсткім, выклікае мала спачування, хіба толькі настальгію па страчаным часе...

А гераіні дзве — Дзіна і Ала, якая яе суцяшае. Заўсёды ў чарговы раз страціўшы ўсё, newaз'яўленая Скарлет ад'язджае — не, вяртаецца ў тую дзірку, з якой вырвалася ў пачатку п'есы, і калі гучаць апошнія яе словы: "Я яшчэ вярнуся, я прывязу Ляльцы боты", — нельга ўстрымацца ад слёз. Першапраходцам заўсёды даводзіцца быць жорсткімі, і гэтыя два процілеглыя спосабы жыцця — Алы і Дзіны — ураўнаважваюць нешта, надаючы яму хоць нейкай трываласці, а праўда заўсёды не ў аднаго кагосьці, а ў сукупнасці ўяўленняў усіх, хто жыве адначасова.

Вось такі погляд на рэчы памог драматургу вырашыць для самой сябе, а заадно і нам, грэшным, што такое цяперашні наш сучаснік. Дар драматурга — гэта перш за ўсё, паводле Гогаля: "жадный интерес к душе человеческой". З кожнай наступнай п'есай Алена Папова набірае абароты ў майстэрстве выяўлення плыні жыцця, якое цячэ скрозь усіх нас, з яго любоўю, нянавісцю, зайздрасцю, спачуваннем...

**Любоў ТУРБІНА**

МУЗЫКА

# Сюрпрыз нязгаснай зоркі

***Гэта быў надзвычай хвалюючы юбілейны вечар, арганізаваны ў канцэртнай зале "Мінск" з нагоды 80-годдзя Ірыны Аляксандраўны Палянскай, сапраўднай зоркі беларускай песеннай эстрады пяцідзесятых-шасцідзесятых. Яго наладзіў аргкамітэт міжнароднага музычнага фестывалю "Залаты шлягер-98" пры спонсарскай падтрымцы віцебскага ПА "Віцязь". А перад гэтым у Доме дружбы адбылася сустрэча журналістаў з артысткай-юбілярам, якая расказала пра сваё творчае жыццё, цалкам аддадзенае эстраднаму мастацтву.***



Ірына Палянская стала спявачкай яшчэ да вайны, паспрабаваўшы свае здольнасці спачатку ў мастацкай самадзейнасці Ленінграда. Там яе аднойчы заўважыў вядомы эстрадны маэстра Барыс Карамышаў і запрасіў на працу да сябе ў аркестр, дзе яна ў якасці пачынаючай салісткі прайшла добрую выканальніцкую школу.

У гады Вялікай Айчыннай вайны І. Палянская ў складзе канцэртных брыгад дарыла сваё мастацтва абаронцам Радзімы, выступаючы з калегамі па творчай працы ў падраздзяленнях дзеючай арміі, паблізу прыфрантавой паласы. Часта выязджала разам з джаз-аркестрам пад кіраўніцтвам выдатнага музыканта Якава Скамароўскага і ў далёкае Запаляр'е, у размешчаныя там вайсковыя падраздзяленні. Адна з нямногіх жанчын-артыстак, яна была ўзнагароджана медалём "За абарону Савецкага Запаляр'я".

Пасля перамогі над фашызмам Ірына Аляксандраўна нейкі час працавала ў эстрадных калектывах Украіны, Грузіі, а са студзеня 1956 года назаўсёды звязала свой жыццёвы і творчы лёс з Беларуссю, яе культурай і мастацтвам. Будучы ўжо салісткай эстрады нашай рэспубліканскай філармоніі, яна з вялікім поспехам гастралявала па ўсім былым Саюзе, выконваючы ў канцэртах разам з іншымі вакальнымі творамі і песні беларускіх кампазітараў. І таму яе з поўным правам трэба лічыць адной з першых папулярызатараў беларускіх эстрадных песень. Менавіта ў інтэрпрэтацыі гэтай цудоўнай спявачкі ўпершыню прагучаў вядомы вакальны цыкл Я. Глебава "Помню".

Творчасці І. Палянскай былі ўласцівыя мяккая даверлівая манера спеву, разнастайнасць галасавых адценняў, дар непаўторнай выразнасці выканання. А ў рэпертуары пераважалі "песні настрою", альбо, як яшчэ кажуць, "інтымныя песні", у якіх адлюстроўваецца свет элегіі і жарту, успамінаў і надзей, а ўвогуле — свет глыбокіх чалавечых пачуццяў і перажыванняў. Нездарма Ірыну Палянскую ў гады росквіту яе творчых сіл называлі "беларускай Шульжэнкай". Хаця насамрэч яна ніколі не пераймала мастацкую манеру і інтанацыі знакамітай артысткі, заўсёды захоўваючы сваю творчую індывідуальнасць — нават тады, калі выконвала песні шульжэнкаўскага рэпертуару. Абедзвюх эстрадных выканаўцаў аб'ядноўвала толькі адно — самаадданае служэнне мастацтву.

— А ці былі вы асабіста знаёмыя з Шульжэнкай? — пацікавіўся нехта з журналістаў у Ірыны Аляксандраўны падчас сустрэчы ў Доме дружбы.

**— Маё знаёмства з Клаўдзіяй Іванаўнай адбылося зусім выпадкова, калі я аднойчы была на гастролях у Адэсе, — адказала І. Палянская. — У гэтым горадзе якраз давала сольныя канцэрты і Шульжэнка. Жылі мы ў адной гасцініцы, нават пакоі нашы аказаліся побач. Памятаю, на канцэрце Шульжэнка з нейкім душэўным болем і няўцешным смуткам спявала адну з любімых маіх песень "Не трэба..." Уладзімірава. (Як стала потым вядома, спявачка ў той час моцна перажывала асабістую сямейную драму). Мая ж інтэрпрэтацыя гэтай песні мела іншы, больш стрыманы і ўраўнаважаны характар. Клаўдзія Іванаўна, праслухаўшы яе, згадзілася і з такой трактоўкай вакальнага твора, што было для мяне асабліва каштоўна.**

Як шкада, што Беларускае радыё не паклапацілася ў свой час запісаць на магнітафонную стужку эстрадныя песні ў выкананні Ірыны Палянскай! І толькі сёлета, відаць, у сувязі з ейным юбілеем, такі музычны запіс, нарэшце, быў зроблены. Лепш, кажуць, позна, чым ніколі...

Пакінуўшы ў пачатку 70-ых сцэну і спыніўшы свою канцэртную дзейнасць, Ірына Аляксандраўна не пайшла на заслужаны адпачынак. На працягу многіх гадоў яна плённа працавала педагогам-рэпетытарам сталічнай філармоніі, перадаючы багаты сцэнічны вопыт новаму пакаленню беларускіх эстрадных выканаўцаў. Сярод яе таленавітых выхаванцаў — заслужаныя артысты Беларусі Нэлі Багуслаўская і Алег Ціввуноў, лаўрэаты ўсесаюзных і міжнародных конкурсаў Надзея Мікуліч, Святлана Кульпа, Таццяна Арлоўская, Галіна Галенда, зорка расійскай эстрады Алёна Свірыдава. Амаль усе яны выступілі на юбілейным вечары Ірыны Палянскай з музычнымі віншаваннямі ў гонар дарагой настаўніцы. Яна прысутнічала тут жа на сцэне і шчыра радавалася за іх цікавыя выступленні і дасягнутыя поспехі ў эстрадным жанры.

А ў самым канцы гэтага незабыўнага вечара слухачоў чакаў сапраўдны сюрпрыз. Да раяля раптам падышла Ірына Аляксандраўна і, нягледзячы на досыць сталы ўзрост і гады доўгага пеўчага маўчання, раптам зноў заспявала. І яшчэ як заспявала: яе пяшчотнае лірычнае сапрана гучала па-ранейшаму крышталёва чыста, надзвычай выразна і пранікнёна! Публіка, асабліва мінскія старажылы, доўга не адпускалі са сцэны свайго куміра, сваю нязгасную эстрадную зорку мінулых гадоў.

**Георгій ЗАГАРОДНІ**

*Фота Віт. АМІНАВА*

# Асаблівы поспех — у "Князя Вітаўта"

***Тэатральны сезон, на жаль, вось-вось скончыцца. Нацыянальная акадэмічная сцэна прапанавала колькі прэм'ер, чый глядацкі поспех пагадзілася пракаменціраваць намеснік дырэктара Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Аліна ГАЛУЗА:***

— Так, гэты сезон прайшоў вельмі ўдала. У параўнанні з мінулым сярэдні адсотак запаўняльнасці глядзельнай залы ўзрос з 70 да 84 працэнтаў. Колькасць спектакляў, што прайшлі толькі ў сёлетнім годзе, уражвае: 67 спектакляў на вялікай сцэне, 21 — на ранішніх паказах, 10 — на малой сцэне (лічба за першы квартал 1998 г.).

Як заўсёды сезон быў адзначаны шэрагам прэм'ер: "Князь Вітаўт" і "Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча" на вялікай сцэне, "Лэдзі Кронкі і мышы", "Парфён і Аляксандра", "Дагарэла свечачка" на малой сцэне.

Асаблівым поспехам у гледачоў карыстаўся "Князь Вітаўт". На працягу ўсяго сезона білеты на спектакль немагчыма было купіць амаль за месяц (у чым карэспандэнты пераканаліся на ўласным вопыце. — **С.С., М. І.**). Спектакль таксама быў добра прыняты і ў Расіі: "Князь Вітаўт" наведаў III Міжнародны тэатральны фестываль імя А. Чэхава, які праходзіў у Маскве з 29 сакавіка па 9 чэрвеня.

З кожным годам Купалаўскі тэатр карыстаецца ўсё большым поспехам у гледачоў. Гэтаму садзейнічаюць высокі ўзровень тэхнікі сцэны і выдатнае музычнае афармленне спектакляў, вынаходніцтвы мастакоў і рэжысёраў, яркі адметны ўзровень акцёрскага выканання. Таму на заканчэнне маленькі анонс: рыхтуюцца да прэм'еры спектаклі "Вечны Фама" паводле Ф. Дастаеўскага і "Не было ні граша, і раптам — алтын" па п'есе А. Астроўскага.

**Святлана СІТНІК, Ірына МЕЛЬНІК**

# Сама зямная прыгажосць

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

прадуманага амаль нічога не застаецца. Хаця здараецца і наадварот. Тады ці не цалкам увасабляеш тое, што прымроілася, задумалася.

**— Якія былі гэтыя гады для вас пасля роспісу Палаца культуры хімікаў у Светлагорску?**

— Гэта былі гады мастакоўскай сталасці. Я рабіў вітражы ў Доме кіно. Цяпер там зноў касцёл Сымона і Алены. Мае эскізы не зусім стасаваліся з існаваўшым ужо агульным праектам. Я прапанаваў свой праект. Яго прымалі загадчык ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ Кузьмін, намеснік Старшыні Саўміна Сняжкова і міністр культуры Міхневіч. Мабыць, у Кузьміна ўзніклі пэўныя асацыяцыі, бо ён нечакана зазначыў: "У маім сталe — шмат заяў вернікаў. Яны просяць вярнуць ім касцёл. Вашы вітражы маглі б адпавядаць і касцёлу. "Аляксандр Трафімавіч, а хіба гэта дрэнна! Майстэрства заўжды ўзвышаецца над надзённасцю", — адказаў тады яму я.

Вітражы былі зроблены. І настаў дзень, калі ў канферэнц-зале Дома кіно абмяркоўвалі перспектывы забудовы Мінска. Памятаю, было сонечнае надвор'е. Промні як дадуць па вітражах — уся зала зіхаціць. Машэраў маўчаў, азіраючыся, а потым выдыхнуў: "Божа мой, а мы хацелі знесці такую прыгажосць!"

Потым я займаўся роспісам "Асветнікі" ў Доме настаўніка.

**— Дзесьці я чытаў, Гаўрыла Харытонавіч, што да гэтай працы вы рыхтаваліся шэсць гадоў?**

— Справа нават не ў тым, што сама жывапісная кампазіцыя займае звыш 50 квадратных метраў. Яна ўвасабляе і Францыска Скарыну, і Сымона Буднага, і Васіля Цяпінскага, і Сімяона Полацкага, і Кастуся Каліноўскага, Алаізу Пашкевіч, Яўхіма Карскага, Багдановіча, Коласа, Купалу.

**— Зараз асабліва відавочна, што гэта быў пачатак адраджэння Беларушчыны.**

— Без залішняй сціпласці скажу, што твор па праву лічыцца хрэстаматыйным. Па ім студэнты пішуць курсавыя і дыпломныя работы... Неяк скульптар Анатоль Анікейчык, звяртаючыся да некаторых "адраджэнцаў", сказаў: "Вы кідаецеся на амбразуру, абараняючы Беларушчыну, ведаючы, што кулямёты адтуль даўно вынесены. Вашчанка ж рабіў гэта тады, калі былі сапраўдныя доты". Але я нікуды не кідаўся, а проста рабіў сваю справу. Мне хацелася хоць крыху адкрыць тую частку нашай гісторыі, якая ўтойвалася.

**— На працягу апошніх 25 гадоў вы займаліся не толькі манументальным роспісам, але і пісалі шмат карцін, якія былі паказаны ў Мінску, у Маскве. Сталі народным мастаком, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі, атрымалі міжнароднае прызнанне...**

— Прызнанне дае толькі адну перавагу: яно забараняе працаваць горш, чым можаш. І наадварот: вымушае працаваць лепш, чым можаш.

**— Ведаю, што вы спачатку займаліся ў Кіеўскім мастацкім вучылішчы, потым — у Львоўскім інстытуце. Працаваць пачыналі ў Кішынёве. Выкладалі і выстаўляліся ў Малдове. Там і ў Саюз мастакоў уступілі. Жыццё магло распарадзіцца так, што і наогул жылі б за межамі Беларусі. Напэўна, і тады б Вашчанка стаў Вашчанкам. Але ці стаў бы ў поўным сэнсе беларускім народным мастаком?**

— Я ўжо гаварыў аб касмічным уплыве на лёс кожнай сапраўднай карціны мастака. Напэўна, ёсць такі ўплыў і на ўсё, што адбываецца з самім мастаком. У маім лёсе атрымалася тое, што павінна было атрымацца. Я перакананы, што мастак не можа не быць нацыянальна свядомым чалавекам. Ён барометр свайго часу. Між іншым, можна быць барометрам для сям'і, для сяброў, для свайго горада, для краіны або для Сусвету. Але перш за ўсё мастак належыць свайму народу. Усёй мастакоўскай сутнасцю. Скажам, Леанарда да Вінчы — сусветны мастак. Але па пластыцы, па мысленні ён італьянскі мастак. Гэта ж можна сказаць пра знакамітага нямецкага жывапісца і гравёра Альберта Дзюрэра. А хіба Шэкспір не брытанскі пісьменнік?

**— І тут, мабыць, самы час вярнуць вас да размовы не толькі аб вялікай, але і аб малой радзіме. Нарадзіліся вы ў вёсцы Чыкалавічы Брагінскага раёна. Ці паўплывала на вашу творчасць гэтая акалічнасць?**

— А хіба можа быць інакш! Гады дзяцінства і юнацтва даюць запас уражанняў на ўсё жыццё. Брагіншчына — сама зямная прыгажосць. А Чарнобыль зрабіў яе небяспечнай для жыцця. У ранні перыяд сваёй творчасці я часта звяртаўся да родных мясцін, да блізкіх людзей, якія нарадзіліся і жывуць там або, на вялікі жаль, ужо з жыцця пайшлі. Памятаеце карціны "Маё Палессе", "Нафтавікі Палесся", шэраг партрэтаў?..

**— Не хацелася б гаварыць, Гаўрыла Харытонавіч, але, пагадзіцеся, што далёка не заўсёды "малая радзіма" шануе сваіх слынных мастакоў. Успомнім імёны народнага мастака СССР Яўсея Яўсеевіча Майсеенкі, народнага мастака РСФСР Георгія Рыгоравіча Ніскага, якія нарадзіліся на Гомельшчыне. Абодва, на вялікі жаль, памерлі і ўжо нічога не могуць самі выправіць... У гэтым сэнсе цудоўны прыклад паказвае Магілёў. Там ёсць музей Бялыніцкага-Бірулі, галерэя Масленікава. А ў нас, на Гомельшчыне?**

— Згодзен з тым, што і Майсеенка, і Ніскі абавязкова павінны быць ушанаваны на радзіме. Тое, што абставінамі лёсу яны жылі за межамі Беларусі, нічога не мяняе. Ды і радзіма тады ў нас была адна. А Магілёў сапраўды — цудоўны прыклад. Знайшлі старажытны будынак, адрэстаўравалі — і які музей, якую галерэю зрабілі! Зараз там не проста асяродак — цэнтр культуры. Міжнародныя пленэры ладзяць.

А хіба ў Гомелі няма старажытнага будынка? Той жа палац, пабудаваны фельдмаршалам Румянцавым, які потым належаў графу Паскевічу. Вось дзе б стварыць музей выяўленчага мастацтва з творамі слынных мастакоў Гомельшчыны.

**— Гаўрыла Харытонавіч, 20 чэрвеня вы будзеце адзначаць сваё 70-годдзе. Будзем адзначаць яго і мы. Ведаю, што вам прапанавалі зрабіць выставу ў адной з залаў палаца Паскевіча.**

— Такая падзея, як юбілей, сапраўды мае адбыцца. На кастрычнік наступнага года запланавана мая персанальная выстава ў Мінску, а ў чэрвені збіраюся паказаць свае творы ў Гомелі ў палацы.

**— Дзякую, Гаўрыла Харытонавіч, спадзяюся, што неўзабаве ў палацы Паскевіча размесціцца назаўжды галерэя народнага мастака Беларусі Гаўрылы Харытонавіча Вашчанкі. І тады мы атрымаем яшчэ адно пацвярджэнне таго, што сапраўдны мастак прыходзіць з будучыні і вяртаецца ў яе.**

**Гутарыў Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

***Упершыню словаспалучэнне "другія саветы" я пачуў сорак гадоў таму назад, калі па размеркаванні, пасля сканчэння Ціміразеўскай акадэміі, трапіў у Заходнюю Беларусь. Было гэта ў 1958-ым годзе, калі заходнебеларускія вяскоўцы яшчэ добра памяталі галоўную — пасля вызвалення ад немцаў — падзею: калектывізацыю.***

***Час "першых саветаў" доўжыўся на Заходняй Беларусі менш за два гады: з сярэдзіны верасня 1939 года па чэрвень 1941-га. Тэрмін — невялікі, таму праявіць сябе як след тыя саветы не паспелі. Адно пачалі вылоўліваць і высылаць паноў, асаднікаў, ксяндзоў і прадстаўнікоў польскай улады...***

***Заходняя Беларусь — штучнае тэрытарыяльнае ўтварэнне, якое ўзнікла ў выніку здрадніцкай дамовы 21 года паміж Савецкай Расіяй і Польшчай, згодна з якой якраз па сярэдзіне беларускіх земляў, праз сэрца этнічнай Беларусі была праведзена дзяржаўная мяжа з Польшчай. Дарэчы, гэтая мяжа амаль супадала з усходняй мяжой другога падзелу Польшчы ў канцы XVII стагоддзя пры Екацярыне Другой. Палова тэрыторыі Беларусі і палова яе насельніцтва — а гэтае каля пяці мільёнаў чалавек — аказаліся аддзеленымі, падпарадкаванымі Польшчы. І ў гэткім падзеленым стане беларусы існавалі дваццаць гадоў. Абедзве часткі Беларусі былі аб'яднаны згодна з рашэннямі Ялцінскай канферэнцыі 1945 года. Новая мяжа паміж Беларуссю і Польшчай прайшла па так званай лініі Керзана.***

***Дык вось, у выніку гэтага падзелу і ўзніклі "заходнікі", ці "пшэкі" — так звалі мы, савецкія беларусы, жыхароў Заходняй Беларусі.***

***Асабіста ў мяне "заходнікі" спачатку выклікалі толькі спачувальны інтарэс, таму, дарэчы, я і на працу размеркаваўся ў Заходнюю Беларусь, хаця быў выбар. Яны падаваліся мне больш каларытнымі, сціплымі і даверлівымі, чым "усходнікі". Як-ніяк, бальшавіцкай улады яны не ведалі цягам дваццаці гадоў — тэрмін не малы, цалкам вырасла новае пакаленне. Іншая рэч, што ў Заходняй Беларусі адчуваўся пэўны ўплыў "пальшчызны". І далей у сваім журналісцкім лёсе я аддаваў перавагу звычайна заходнім раёнам рэспублікі, мне там было цікавей, а неўзабаве я іх ужо і лепш ведаў.***

***Фармальна "другія саветы" доўжыліся ў Заходняй Беларусі да скасавання СССР — да 91-га года. Але найперш гэты тэрмін адносіцца да перыяду з 1947 па 1952 год — паталоўнай і апошняй у былым СССР калектывізацыі. Тады, як вядома, адбылося канчатковае вынішчэнне аднаасобнага сялянскага існавання на сваёй зямлі. Чынілася страшэннае: адлучэнне селяніна ад зямлі, ад сумленнай працы на сваёй зямлі і на сябе. Фактычна гэта быў тэрор супраць свайго насельніцтва. Праводзілася калектывізацыя гвалтоўна, людзей запалохвалі, пагражаючы і ажыццяўляючы ўсялякія кары над тымі, хто не хацеў уступаць у калгас, ці хаця б марудзіў з гэтым. Іх абкладалі невыноснымі падаткамі, штрафавалі і высылалі ў Сібір, судзілі.***

***Але — было і супраціўленне гэтаму гвалту, таемнае і адкрытае. Даходзіла да таго, што сёй-той, не чакаючы расправы, ішоў да "зялёных братоў", так званых бандытаў. У некаторых раёнах барацьба прымала такія памеры, што на барацьбу з бандамі накіроўвалі войскі.***

***Фактычна ішла скрытая грамадзянская вайна, аб якой у тыя часы нідзе афіцыйна не гаварылася. Але ж — ёсць памяць. "Заходнікі", асабліва людзі старэйшага ўзросту, не забылі час калектывізацыі, час "другіх саветаў". Яны памятаюць і гвалтаўнікоў, і іхніх ахвяр. Паспрабаваў занатаваць іх успаміны. Так нарадзілася мая чарговая дакументальная кніга, старонкі з якой прапаную ўвазе чытачоў "ЛіМа".***

**АЎТАР**

Леанід ПРАКОПЧЫК

# "Другія саветы"

•

Самі бачылі — вёскі ў нас вялікія, адна пераходзіць у другую і цягнуцца на кіламетры. Хаця пры паляках людзі тут жылі небагата, але калгасаў усё ж баяліся, уступаць у іх, асабліва першым, ніхто не хацеў.

А мы, так званыя савецкія работнікі і актывісты, не столькі пераконвалі людзей уступаць у калгасы, колькі пужалі ды каралі. Гэткай была палітыка, агульная ўстаноўка. Чым "бралі" ўпартых аднаасобнікаў? Перш за ўсё падаткамі на зямлю, на скаціну, на ўраджаі, павялічваць якія маглі бязмежна. Маглі прычапіцца і аштрафаваць чалавека за любую дробязь, а ўрэшце выслаць як кулака, а то і як ворага народа.

Фармальна, каб уступіць у калгас, патрабавалася ад гаспадара зусім нямногае — падаць заяву. А мы павінны былі сабраць так званы агульны сход калгаснікаў, прапанаваць і выбраць старшыню, даць калгасу імя. Калгасы стваралі амаль у кожнай вёсцы, паміж сельсаветамі ішло нават спаборніцтва — хто хутчэй і больш арганізуе калгасаў.

Усе тры гады акупацыі я быў у партызанах за Нёманам, у Налібоцкай пушчы. Як толькі прагналі немца, мяне, як камуніста і партызана, адразу выбралі старшынёю сельскага савета, спачатку Любчанскага, потым, амаль два дзесяцігоддзі, выбіралі старшынёй сельсавета ў Вераскаве — гэта ўжо на радзіме. Карацей, трапіў у начальства ў самую гарачую пару арганізацыі калгасаў.

Адной з першых цяжкасцей было сабраць людзей на сход. Не ішлі, байкатавалі і ўсё! Акрамя таго, у мяне былі яшчэ і свае асабістыя цяжкасці — я ж мясцовы хлапец, усе мяне ведаюць. З адным сябраваў з дзяцінства, з другім разам былі ў партызанах, трэці проста сусед. Чым і як я мог іх запалохаць? Адно — як мог угаворваў.

Дык рознае здаралася — і горкае, і смешнае.

Памятаю, дамовіўся з суседам, праз вуліцу жыў, што заўтра раніцой разам пойдзем у сельсавет. Ладзілі той парою сход будучых калгаснікаў, угаворвалі нашых бедалагаў, расказвалі ім, якое цудоўнае жыццё чакае іх у калгасе. Павінен быў прыехаць і нейкі ўпаўнаважаны з раёна, дык яго таксама трэба было загадзя сустрэць.

Значыць, выходжу раніцай на вуліцу, свісну, як заўжды, свайму Сцяпану. Сцяпан — не паказваецца, не выходзіць. Я — у хату. Топіцца печ, каля печы ўвіхаецца, пячэ бліны Сцяпанава Мар'я. Пытаюся: а дзе Сцяпан? Дамовіліся разам на сход ісці. Мар'я падазрона маўчыць і нават у мой бок не глядзіць. Затое я адразу ўбачыў вялікія Сцяпанавы дзяравяннікі, яшчэ іх у нас "трэпамі" звалі, — вытачаныя з дрэва калодкі. Чамусьці яны кінуты перад падпечкам, стаяць у Мар'і пад нагамі.

І тут Сцяпанаў малы, гадкоў сямі, падыходзіць і пытаецца ў мяне:

— Вам тата патрэбен? Дык ён там! — і паказвае пальцам на падпечак.

Мар'я не вытрымала, бягом з хаты, а я чую з падпечча здаўлены Сцяпанаў голас:

— Акыш, каб на вас! Толькі адчыні хату, пішчом лезеце!

Сцяпан выпаўзае з падпечча задам, на жываце. Твар чырвоны, але смяецца.

— А дзе ж курыца? — пытаюся.

— Не было там ніякай курыцы, ад цябе, калгаснага пеўня, хаваўся!..

Каб сход калгаснікаў лічыўся агульным і можна было прымаць нейкія рашэнні, на яго павінна было сабрацца не менш чым дзесяць чалавек. Але і столькі сабраць не заўжды ўдавалася. Бо нават і тыя гаспадары, якія ўжо падалі заявы на ўступленне ў калгас, часта "давалі задні ход", наіўна мяркуючы: не пойдуць на сход, калі калгас будуць афармляць, дык усіх іх выключаць з калгаса. А галоўнае — не аказацца ў ліку першых. Спачатку няхай уступіць сусед, а я — за ім.

Дык вось, памятаю, праводзім у Альковічах такі агульны сход, на якім павінны аб'явіць аб стварэнні калгаса і выбраць старшыню, яго ўжо прывезлі з раёна, сядзіць у прэзідыуме, ну і, як заўжды, даць новаму калгасу назву. Час быў позні, а людзей усё няма. Нарэшце сабралася дзевяць чалавек, да кворуму не хапае аднаго. А ўжо і сцямнела, запалілі газавую лямпу і падвесілі на драцяным крюку да столі. Чакаем. Па нашых падліках, павінны прыйсці яшчэ тры-чатыры чалавекі. І тут я ўспомніў Толіка Галку, свайго сябра, яго заява на ўступленне ў калгас даўно ляжыць, дык чаму ж ён не прыйшоў на сход? Апошнім часам, праўда, нешта адварочваўся, не хацеў гаварыць. Пасылаю па яго Івана з наказам — любымі сродкамі даставіць на сход. Трэба сказаць, наш актывіст Іван вылучаўся з усіх. Высокі, ёмкі хлопец і сілу меў неймаверную. Дык і даставіў. Сядзім, чакаем, ад дыму самакруток у хаце цьмяна. Раптам з сенцаў чую нейкі прыдушаны голас Толіка: "Пусці, кажу, сам пайду!" І тут бачым — Іван пераступае цераз парог, а ў яго на спіне вісіць з заламанымі рукамі Толік і раве:

— Пусці, мядзведзь, пусці, а то абас...у. Пусці, кажу!..

**Міхаіл Фёдаравіч РЭДЗЬКА,**
**1916 года нараджэння, в. Антонаўка,**
**Навагрудскага раёна, былы старшыня**
**сельскага савета**

•

Спецыяльнасць у мяне муляр, і бацька мой быў муляр. Спачатку разам з бацькам рабілі печы, тынкоўку, выводзілі падмуркі, працавалі ў мястэчку і па вёсках. Зараблялі няблага і з той мулярскай работы жылі. Зямлі мелі гектара паўтара — агарод, саджалі бульбу, трымалі, праўда, каня і кароўку. Пры "першых саветах", у трыццаць дзевятым годзе, з калгасамі ў нас не паспелі разабрацца. Можа, таму, што ў мястэчку жылі ў асноўным яўрэі-рамеснікі, яны зямлі не мелі, хіба з іх калгаснікі?! Таму калгас у нас арганізавалі толькі пры "другіх саветах", у пяцідзесятым годзе.

Ох, як жа людзі не хацелі ўступаць у той калгас! Выкручваліся, як маглі, да апошняга. Як жа гэта — усё нажытае, зямлю, скаціну, будынкі аддаць задарма невядома каму! Прыязджалі розныя ўпаўнаважаныя, тлумачылі, угаворвалі, прыводзілі ў прыклад суседзяў-"васточнікаў", але мы іх "райскае жыццё" ведалі, пры паляках хадзілі за мяжу да іх. Дык людзі ў нас, за невялікім выключэннем, доўга не пісаліся ў калгас.

А пра мяне асабіста, багацея, пусцілі чуткі, што я не толькі сам не ўступаю ў калгас, але і агітую супраць калгасаў. Нарэшце прычапіліся. Неяк прыехаў да нас мой даўні знаёмы з Радашкавіч, нарыхтоўшчык. Прыняў я чалавека як трэба: пасядзелі, чарку зрабілі. Вядома ж, загаварыліся, і госць застаўся начаваць у нас. А раніцою прыходзіць сам старшыня сельсавета ў суправаджэнні міліцыянта, у якога за плячыма вінтоўка. Добра, той радашкаўскі чалавек паспеў з'ехаць. Старшыня сельсавета і гаворыць:

— Мікуцкі, нам стала вядома, што вы ўсю ноч сёння вялі антысавецкія, супраць калгасаў, размовы са сваім сябрам з Радашкавіч. Ён, бачым, уцёк, а вас мы вымушаны арыштаваць.

Павялі мяне на плошчу і пасадзілі пад замок у былую яўрэйскую крамку. Пратрымалі там тры дні, як сапраўднага злачынцу. Жонка перадачы насіла. Мы з ёй праз шчыліну перагаворваліся, яна ўсё пыталася, куды ісці жаліцца: не злодзей жа які, а яго, які сорам, у турме трымаюць! А куды пойдзеш, калі сам старшыня сельсавета пасадзіў? Яго перш паслухаюць. Будзем чакаць.

На чацвёрты дзень выпусцілі, завялі ў кантору і надумалі для мяне такую кару, лепш сказаць — здзек. Паставілі ўмову: калі не хачу, як вораг савецкай улады, паехаць у Сібір, то павінен прайсці па хатах тых ракаўцаў, што ўжо ўступілі ў калгас, мяне будзе суправаджаць упаўнаважаны, і з прабачэннем папрасіць кожнага, каб ён даў згоду на прыём у калгас і мяне. Дык суседзі, памятаю, не адразу і разумелі, што гэта я гавару, куды прашуся... Вось як, шэльмы, павярнулі! Нібы я сам прашуся ў той праклятын калгас, а яны яшчэ думаюць, прымаць мяне ці не...

Жывём, значыць, у калгасе, кожны дзень хаджу на нарад, а адтуль — куды пашлюць: на поле, на ферму... Нічым я, здаецца, не вылучаўся, больш неяк ужо па традыцыі лічылася, што муляры Мікуцкія заможныя гаспадары, а галоўнае — не п'юць. А месяцы праз два, як запісаўся ў калгас, выклікае мяне ў кантору старшыня і гаворыць, быццам праўленне выбрала мяне брыгадзірам. Дзіўлюся: няўжо забылі, як саджалі ў каталажку, а тут ужо ў брыгадзіры запрашаюць? Адмаўляюся, кажу, што непісьменны, маю ўсяго тры класы "паўшэхнай" і нават рускіх літар не ведаю. Ізноў тая самая песня: не падтрымліваю калгас, адракаюся ад адказнай пасады, трэба разабрацца, можа, з калгаса цябе трэба вывесці?

Вымушаны быў згадзіцца, што тут зробіш. А як жа нарады пісаць — па-польску? Дык далі мне хлапчука са старэйшага класа. Смешна атрымлівалася: прыходзіць той хлопец увечары, я расказваю яму, якія работы планую на заўтра, а ён па-руску, акуратна, добрым почыркам запісвае, я ж раніцай гэтую пісульку-нарад вывешваю на дзвярах канторы. Праўда, я сам стаў больш чытаць рускія газеты, перапісваць артыкулы з тых жа газет і даволі хутка авалодаў рускім алфавітам, пачаў сам пісаць нарады і ад сакратара адмовіўся.

Са старшынямі калгаса нам, трэба сказаць, неяк не шанцавала. Першым быў нядаўні партызан, з Жукоў, што недалёка ад Ракава. Распіўся хлопец — у канец. Зойдзе, бывала, да каго з раніцы ў хату і ўвесь дзень смокча там самагонку і ўжо абяцае і абяцае дапамагчы і сенам, і выпіша зерня. Нарэшце знялі п'янтоса, але ж не лепшага і паставілі, прывезлі з Валожына, райкомаўца. Дык гэты быў неймаверны злодзей. Спачатку дамы з калгаснага лесу паставіў у Валожыне сабе і сыну, потым неадночы лавілі, як адпраўляў у той жа Валожын то парасё, то цялё. Знялі, нарэшце, і таго хапугу, часова замяняў яго наш бухгалтар, малады зусім хлопец, год, як скончыў тут, каля нас, у Новым Полі бухгалтарскі тэхнікум. Які з яго, хлапчука, старшыня? І вось тут райком зноў узяўся за мяне — станьце хаця б часова, пакуль падшукаем чалавека, за старшыню, брыгада ў вас лепшая ў калгасе, народ вас ведае і паважае, справа павінна пайсці, а мы дапаможам. І праз паўгода прымем у партыю. Акрамя таго, першага ж агранома, якога прышлюць на раён, назначым да вас, адукаваны малады чалавек — неблагая дапамога.

Я, вядома, ні ў якую, старшынёй — не! На такую пасаду і адукацыі сапраўды не хапае, а галоўнае — жывы страх за жыццё. Мы ж чулі, што робіцца. Недалёка ад Івянца старшыню зялёныя вылавілі і ў лесе павесілі, другога, у Ярэмічах праводзіў вечарам сход, бандыты застрэлілі праз акно.

Нарэшце, выклікаюць у Радашкавічы ў райком партыі на канчатковую размову. Трэба ехаць, дзе ж дзенешся, але загадзя цвёрда вырашыў: буду адмаўляцца. Запрог свайго выязнога і раніцай, толькі ўзышло сонца, да тых Радашкавіч ад нас трыццаць вёрст, паехаў.

Ведаў, што дзе знаходзіцца, і адразу ў райком. Памятаю, кабінет на другім паверсе. Заходжу. У кабінеце, акрамя сакратара, яшчэ два нейкія начальнікі, можа, з вобласці.

Усе павіталіся са мною за руку. Сакратар прапанаваў сесці і пачаў знаёмую мне песню. Вось Мікуцкі, аб якім я вам, таварышы, расказваў, як кажуць, наш самародак, гаспадар ад зямлі, працуе ў складаных абставінах, у мястэчку. Ракаў — гэта не якаянебудзь вёсачка, але кіруе добра брыгадай, трымае ўсе першыя месцы па калгасе, вось мы яго і рэкамендуем, хаця б часова, у старшыні. Усё гэта я ветліва выслухаў, а пасля сказаў, што мне гэтая прапанова, вядома, вялікі гонар і я рады быў бы ўзначаліць калгас, але я — хворы і сур'ёзна, мне хадзіць цяжка, верхам у сядле ездзіць таксама не магу. Карацей — трэба і ўжо даўно класціся на аперацыю. А мы аб вашай хваробе нічога не чулі, адказвае сакратар. Ды хвароба, кажу, такая, што пра яе неяк і сорамна гаварыць... Дык што ў вас, не саромцеся, тут жа ўсе мужчыны, можна казаць, сказаў той, што, відаць, з вобласці.

І я тут, хоць і адчуваю, што кроў у твар дала, напрамкі гавару: прабачце, таварышы, грыжа ў мяне, па-простаму — кіла! А ты ж, Мікуцкі, ніколі аб сваёй хваробе не гаварыў, кажа сакратар. Так, мала хто ведае, было б чым, таварышы, пахваляцца, але факт, — маю гэтую "ляльку". А калі не верыце, дык я зараз пакажу. Устаў з крэсла і пачаў штаны расшпільваць. Тут начальнікі і замахалі на мяне рукамі: а не, не, Мікуцкі, не трэба, верым!..

І ўсё, болей размовы аб маім старшынёўстве не было, адпусцілі. Так я і не стаў старшынёй у сваім Ракаве.

**Станіслаў Браніслававіч МІКУЦКІ,**
**1907 года нараджэння, в. Ракаў**
**Валожынскага раёна**

*(Працяг на стар. 14)*

## ЛіМ ЧАСАПІС

## У кватэры, як у музеі



**Кватэра віцябляніна Фёдара Лазаравіча Максімава нагадвае музейнае сховішча, а адзін з пакояў цалкам застаўлены скульптурамі, выразанымі з дрэва, рога, мармуру. У свае 84 гады Фёдар Лазаравіч стварае цудоўныя вырабы. Ён — лаўрэат Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, у мінулым годзе яго работы экспанаваліся на выставе ў Славеніі.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Рэха праз гады

**90 гадоў назад, 12 чэрвеня 1908 года, выйшаў першы нумар штодзённай грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты "Минское эхо" (выдавалася да 3 кастрычніка 1909 года). Выступаючы за буржуазна-дэмакратычныя рэформы, газета па-свойму разумела пытанні дзяржаўнасці народаў, якія насялялі Расію. Яна агітавала за абмежаванае культурна-нацыянальнае самавызначэнне іх. Рэгулярна публікаваліся агляды тагачаснага друку, пераклады з твораў Г. Сянкевіча, Шолам-Алейхема, а таксама мясцовых аўтараў А. Зіміёнка (пазней стане беларускім паэтам-сатырыкам і гумарыстам Анатолем Дзеркачом), А. Мікульчыка і іншых. Не абыходзіла "Минское эхо" і пытанні тэатральнага жыцця, пісала пра музычныя падзеі ў горадзе, асвятляла дзейнасць Літаратурна-артыстычнага таварыства. На старонках "Минского эха" адбылася дыскусія паміж прыхільнікамі мадэрнізму і класічнага рэалізму, у якой рэдакцыя заняла кампрамісную пазіцыю. З рэцэнзіяй на кнігу Янкі Купалы (нумар за 9 ліпеня 1908 года) выступіў Ядвігін Ш.**

## Са Старэва, што на Случчыне

**Акурат адтуль родам крытык, літаратуразнавец Сцяпан Майхровіч, з дня нараджэння якога 21 чэрвеня спаўняецца 90 гадоў (памёр Сцяпан Казіміравіч 2 ліпеня 1981-га). З маленства працаваў на гуце, а з 1929-га па 1930 год быў інструктарам Бабруйскага акруговага камітэта камсамола. У 1941 годзе С. Майхровіч завочна скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага. У розны час працаваў рэдактарам колішняй Камарынскай раённай газеты, загадчыкам сектара Беларускага дзяржаўнага выдавецтва, рэдагаваў газеты "Орка" і "Штандар вальносці" (на польскай мове). У час Вялікай Айчыннай вайны з'яўляўся інструктарам палітаддзела арміі, галоўным рэдактарам Цэнтральна-беларускага радыёвяшчання ў Маскве. У 1942 годзе па асабістай просьбе накіраваны ў тыл, да партызан, дзе рэдагаваў газету "Белостокская правда". З 1944 года быў дырэктарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, потым — журналістам, галоўным рэдактарам Вучэбна-педагагічнага выдавецтва БССР. У 1957 годзе скончыў аспірантуру пры Мінскім педінстытуце і з 1959-га па 1970 год быў навуковым супрацоўнікам Інстытута мастацтвазнаўства, этнагафіі і фальклору Акадэміі навук БССР.**

**Літаратурна-крытычнай працай пачаў займацца ў 1930 годзе. С. Майхровіч — аўтар шэрагу манаграфічных прац і нарысаў, сярод якіх "Янка Лучына. Жыццё і творчасць" (1952), "В. І. Дунін-Марцінкевіч" (1955), "Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя" (1957), "Максім Багдановіч. Жыццё і творчасць" (1958), "Жизнь и творчество Ф. Богушевича" (1961), "Георгій Скарына" (1966), "Слова аб палку Ігаравым" (1968), "Нарыс гісторыі старажытнай беларускай літаратуры XIV—XVIII стст." (1980). У полі зроку С. Майхровіча знаходзілася і сучасная беларуская літаратура, аб чым сведчаць яго публікацыі ў перыёдыцы і кнігі "Янка Брыль. Жыццё і творчасць" (1961), "Іван Шамякін. Нарыс жыцця і творчасці" (1978).**

# "Другія саветы"

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

●

Цяжка пераходзілі ў нас да савецкага ладу, да калгасаў. Можа, таму, што народ у большасці быў граматны, развіты, людзі жылі няблага, потым — гарады побач: Маладзечна, Вілейка, мястэчкі — Радашкавічы, Гарадок, Ракаў. Тут і чыгунка, кароткая сувязь з Вільняй.

А я, такі ўжо мой лёс, хоць і мясцовыя, карэнная, адразу пасля сорак чацвёртага аказалася на баку савецкай улады. І запар дваццаць гадоў была дэпутатам якога-небудзь бліжэйшага сельсавета, а то і раённага — Радашкаўскага.

Ну, а ўсяму прычынай быў Тарасенка Іван Іванавіч — мой муж, украінец, баявы партызан. Ён быў якраз з ліку тых, каго пасля вызвалення не ўзялі на фронт, а спецыяльна пакінулі для ўстанаўлення савецкай улады ў Заходняй Беларусі.

Мой Іван асеў у Радашкаўскім раёне. Розныя займаў пасады. Мы з ім пазнаёміліся і ажаніліся, калі Іван Іванавіч стаў старшынёй Уланаўскага сельскага савета — гэта недалёка, за два кіламетры ад нас. Праз год, хоць на руках ужо была маленькая дачушка, і мяне выбралі дэпутатам таго ж самага Уланаўскага сельсавета. Так і пачалося маё "савецкае" жыццё — кар'ера.

Класавыя ворагі, якіх патрэбна было высылаць, саджаць у турму, былі акрэслены адразу — гэта асаднікі, а таксама іншыя ацалелыя паны і падпанкі, потым пачалі вылучаць кулакоў. Асаднікі неяк і не спрабавалі схавацца ці з'ехаць, іх за месяцы два і павысылалі разам з сем'ямі ў Сібір. З панамі і падпанкамі пачалі разбірацца яшчэ "першыя саветы", праўда, некаторыя з іх паспелі збегчы ў Вільню і аб'явіцца зноў у акупацыю.

Але адразу пасля вайны, у першую хвалю высылак, пра бандытаў, "зялёных" братоў, нават не было і чуваць. Відаць, таму, што вывозілі не сваіх вяскоўцаў, а ўсё ж такі паноў і наехаўшых з кароннай Польшчы асаднікаў, а яны заставаліся чужынцамі.

З'явіліся так званыя бандыты тады, калі пачалі агітаваць за калгасы. Ды каб жа агітаваць! Прымушалі ўступаць! Тых жа, хто супраціўляўся ці, не дай бог, выступаў супраць калгасаў, далучалі да кулакоў і вывозілі. За антысавецкую агітацыю, здаралася, прышыюць "дзела" і пасадзяць чалавека ў турму. Крута дзейнічалі саветы! Вось тады некаторыя маладыя мужчыны і пайшлі ў бандыты. Нават былі вядомы выпадкі, калі хлопец прыйшоў з партызанаў, пакінулі яго, напрыклад, як і майго Івана, умацоўваць савецкую ўладу, а тут бацьку кулаком зрабілі, дык ён — зноў у лес, тым больш — зброя была, толькі цяпер пайшоў да "зялёных". Трэба сказаць, што ў лесе ім не так і цяжка было, людзі іх падтрымлівалі. Не памятаю выпадку, каб людзі злавілі і выдалі міліцыянерам так званага бандыта. Часта чалавек толькі на ноч сыходзіў у банду, у лес, а ўдзень — нармальны хлопец, як усе, працуе па гаспадарцы.

Ну а мы, старшыня сельсавета, дэпутаты, розныя ўпаўнаважаныя ды агенты, рабілі сваю працу, даводзілі людзям абавязковыя хлебапастаўкі, нормы па вывазе лесу, хто меў каня — па дваццаць пяць кубаметраў на гаспадара, распаўсюджвалі пазыкі, што, дарэчы, якраз і было часткай маёй работы ў сельсавеце. І, безумоўна, мы з'яўляліся арганізатарамі калгасаў, таму перш за ўсё супраць нас і выступалі, ваявалі "зялёныя". А фактычна ішла скрытая вайна сваіх людзей супраць сваіх — грамадзянская, супраць тых, хто не згаджаўся з новымі савецкімі парадкамі. Праўда, ні на бясконцых у тую пару сходах, ні ў газетах аб гэтай унутранай вайне ніхто не гаварыў — баяліся.

Добра памятаю першыя начныя стрэлы — сутычку радашкаўскіх міліцыянтаў на суседнім хутары. Гасцявалі яны там, а наляцелі бандыты, аднаго міліцыянера забілі, былі і параненыя. Потым запіскі майму мужу: "Помні, Іван, я ўцякаў нагамі ад вас, а ты за гэтае заплаціш галавой"; ці: "Хахол, выбірайся ад нас па-добраму, а то вынесуць з сельсавета".

Увесь час ішлі страшэнныя чуткі: у Гарадку, гэта недалёка ад нас, сярод белага дня з усіх чатырох вуглоў загарэўся дом старшыні сельсавета, жонка з дзецьмі ледзь павыскоквалі праз вокны. Памятаю жудасную падзею у Сямерніках, гэта зусім побач: старшыню мясцовага сельсавета прывязалі лейцамі да каня і ганялі таго каня па крузе да той пары, пакуль старшыня не разбіўся насмерць і не сканаў.

Мы з Іванам жылі на Уланаўшчыне, у тым жа асадніцкім доме, дзе размяшчаўся сельсавет, займалі другую палову дома. Мой Тарасенка днём рэдка сутыкаўся дома, усё то нейкі сход у райцэнтры, то сходы па вёсках, а я за яго сядзела ў сельсавеце і гаспадарыла па хаце. Здаралася, і нанач не прыедзе. Памятаю, ноччу пачую стрэл, дык хапаю дзіця і хаваюся ці на гарышчы, ці ў склепе, куды паспею. Сяджу і калачуся, здаецца, бандыты пачулі ўжо і зараз прыйдуць па нас.

Супрацьстаяць бандытам, тым больш ноччу, мы не маглі. Ды колькі нас і было? Астатнія дэпутаты жылі далёка. Праўда, была адна вінтоўка, ды толку з яе, калі я і страляць не ўмею. Днём хоць можна было патэлефанаваць у Радашкавічы і выклікаць дапамогу. Баяліся мы сваёй хаты. Я з малой часта хадзіла начаваць да маці ў Казлы, а Іван начаваў дзе-небудзь у надзейнага чалавека, у каго — я іншы раз і не ведала.

У сорак восьмым і сорак дзевятым гадах "зялёныя" разышліся так, што пад Маладзечнам іх выкурвалі з лясоў, вылоўлівалі з дапамогаю воінскіх часцей. Сяды-тады сутычка пераходзіла ў сапраўдны бой. У нашых мясцінах банду ўзначальваў нехта Глінка, няўлоўны і бязлітасны. Праўда, у саміх Радашкавічах Глінку зналі, бо нейкі час ён працаваў там, быў, дарэчы, другім ці трэцім сакратаром райкома камсамола. Што здарылася, як гэта сам сакратар райкома пайшоў у "зялёныя", ніхто не ведаў. Можа, ён бандытам і быў, проста на нейкі час улез у давер. Карацей кажучы, для нас, уланаўскіх, Глінка і стаў самым страхам, яго налёту мы больш за ўсё баяліся.

Грошай на сельсавет, як і нам на зарплату, выдавалася тады капейкі, ды мы неяк адносіліся да гэтага спакойна. Але затое мелі ў сельсавеце свой транспарт — каня з брычкай. Было ў Івана і сядло. Каня кармілі і глядзелі самі, накошвалі за лета сена. А вось аўса наш канёк амаль і не бачыў. Неяк жа Пятровіч, прозвішча не буду называць, адзін з нашых дэпутатаў, гаворыць Івану: прыязджайце да мяне, насыплю каню аўса. Жыў той Пятровіч пад Гірдамі, гаспадаром лічыўся заможным.

І вось неяк у нядзелю выправіў мяне Іван у Гірды па авёс. Запрэгла ў брычку каня, паехала. Дзянёк харошы, сонца свеціць, цёпла. Стаяў Пятровічаў хутар пад лесам. Пад'язджаю, дарога ідзе праз сад. Бачу, пад яблыняй у цяньку на пасцілцы ляжыць малады мужчына ў белай сарочцы, у руках кніга, чытае. Паглядзеў на мяне, прывітаўся. Заехала ў двор, паставіла каня. На ганку Пятровіч сустрэў, у хату запрасіў: зараз перакусім, пагаворым, пазнаёмлю вас з госцем з Маладзечна, прыемным чалавекам, культурным.

Неўзабаве селі за стол. Паставілі маленькія, зграбненькія кілішкі, графінчык з чырвонай настойкай, закускі, кожнаму талерачку, відэльцы. У хаце было чыста, перад вокнамі ў кадках стаялі вялікія вазоны.

Пасля Пятровіч вынес старадаўні грамафон, зняў з шафы і паставіў пласцінку. Загучала музыка. У пакой зайшоў малады чалавек, які чытаў у садзе кнігу. "Вінцук, студэнт", — назваў яго Пятровіч. Нас пасадзілі побач. Вінцук больш маўчаў, разглядаў мяне, быццам хацеў успомніць, дзе бачыў, адкуль знае мяне. Нечакана запрасіў мяне танцаваць. Танцаваў ён добра, вёў беражліва, мякка. Зноў селі за стол, выпілі. Зноў пайшлі танцаваць. Мне Вінцук падабаўся — ветлівы, не распытвае, хто я, адкуль, зусім быў непадобны на нашых хлопцаў. Ісці ад Пятровіча не хацелася. Але ж — апомнілася, заспяшалася дадому. Усе выйшлі ў двор. Вінцук падвёў каня да ганка, у брычцы ўжо ляжаў прыкрыты пасцілкай мех аўса. Вінцук далікатна падсадзіў мяне ў брычку, на развітанне пацалаваў руку.

Прайшло з паўгода. Неяк мы раптам пачулі, што банда Глінкі акружана недзе пад Гарадком у лесе і знішчана — частка "зялёных" загінула пры сутычцы, некаторых узялі ў палон. Сам Глінка не даўся міліцыянтам, застрэліўся. Памятаю, званяць з Радашкавіч і просяць майго Івана прыехаць на апазнанне Глінкі, бо Іван добра ведаў яго, пэўны час разам працавалі ў райкоме камсамола. Іван не хацеў, але і я з ім паехала.

У бальнічным двары быў доўгі мураваны склеп, які і выкарыстоўваўся як трупярня. Пайшлі разам з начальнікам міліцыі. На саломе ля сцяны ляжаў мужчына ў шэрай гімнасцёрцы і такім жа шэрым галіфэ, гімнасцёрка перацягнутая рамянямі партупеі.

— Так, гэта Глінка, — ціха сказаў Іван, а больш я нічога не чула, галава закружылася, і ўжо непрытомнаю аб'ехала на зямлю. На саломе ляжаў, выцягнуўшыся ва ўвесь рост, Вінцук.

Потым Іван мяне папракаў:

— Казаў жа, не хадзі, не бабская гэта справа — па трупярнях лазіць, а яшчэ цяжарная...

Івану свайму я так і не расказала, што ведала Глінку, пазнаёмілася з ім у Пятровіча.

Потым, калі "зялёных" ужо не было, пачула, што Пятровіч працаваў на два франты: быццам падтрымліваў "зялёных", а на самай справе толькі дзякуючы яму і ўзялі атрад Глінкі.

**Надзея Цімафееўна ТАРАСЕНКА, 1926 года нараджэння, в. Казлы Маладзечанскага раёна.**

# Асаблівасці нацыянальнай адукацыі

*(Працяг. Пачатак на стар. 4)*

18 мая склалі і занеслі афіцыйны ліст, адрасаваны Стражаву (у канцылярыі міністэрства зарэгістраваны пад нумарам 32К424). Адказу ўсё няма (матэрыял гэты пішу 11 чэрвеня. — **Я. Р.**). Дылян кажа, што ўсё разумее, але... Мы проста вымушаны былі стварыць грамадскі камітэт па абароне нашага ліцэя. Але ёсць падазрэнне, што саўмінаўскі праект усё ж падпішуць за нашымі спінамі. Абяцалі высокія чыноўнікі летась (пасля замахаў на будынак), што ніхто нас чапаць больш не будзе! Аднак сёлета зноў не да спакою і адпачынку! Чаго толькі ні пачуеш ад адказных асоб: маўляў, вам як лепей робяць, а вы! Маўляў, невукі ды непрафесіяналы ў ліцэі выкладаюць, у палітыку дзяцей уцягнулі. Поўнае неразуменне сітуацыі альбо нежаданне гэтага разумення. Хочуць стварыць у новым ліцэі так званы савет дырэктараў, надліцэйскую структуру. Ну дык, калі ласка, стварайце яе ў старым ліцэі з тымі ж выкладчыкамі, тымі ж вучэбнымі праграмамі, тым жа дырэктарам і ранейшай колькасцю дзяцей. Дапамагайце камп'ютэрамі, рамонтам, бытавым добраўпарадкаваннем... Аднак, па ўсім відаць, савет гэты патрэбен толькі для таго, каб вызначаць з пільнасцю, хто будзе вучыць дзяцей і чаму. Абсурд... Таму і адстойваем свае законныя правы. Лісты з подпісамі бацькоў адасланы ў місію ОБСЕ, Беразоўскаму, прадстаўнікам Хельсінкскага камітэта, у канвенцыю праваабарончых арганізацый... Першага чэрвеня падалі заяўку на пікетаванне... Але ўсё ж настроена я памяркоўна. Веру ў добрае. Паўтараю, у нашых патрабаваннях няма ніякіх супрацьзаконных замахаў...

І яшчэ адзін пункт гледжання. Пісьменніка і выкладчыка гуманітарнага ліцэя Лявона Баршчэўскага:

— За два гады ліцэйскую адукацыю даць проста немагчыма. Двухгадовы курс — гэта калектыўнае рэпетытарства. Дамагаемся вынікаў за ўдвая большы тэрмін. Менавіта такая мадэль навучання, адпрацаваная нашым навукова-творчым калектывам, і з'яўляецца на сёння самай дзейснай і выніковай. Зліццё нашага ліцэя з ліцэем БДУ — праект чыноўніцкі, далёкі ад жыцця і проста нерэальны. Мабыць, сапраўды, кагосьці палохае беларуская мова, цяга дзяцей да нацыянальнага... Калі б давалі мы слабыя веды, думаю, нас і не чапалі б з году ў год...

Пішу гэтыя радкі не для таго, каб прыцягнуць увагу лімаўскага чытача смажанінай грамадска-палітычнай правакацыі. Не. Усё прасцей і банальней. Беларускае, сапраўды, гіне. У чарговы раз. І ў чарговы раз грамадства наша вымушана не рушыць наперад, нават не таптацца на месцы, а адсоўвацца ў дзень пазаўчарашні. Прыкра. А між тым у сапраўды вольнай дзяржаве вольны чалавек вольны выбіраць сам, дзе і на якой мове спасцігаць яму жыццёвыя ісціны... І думаць не хочацца, што гуманітарны ліцэй (адзіны беларускамоўны ў рэспубліцы!) хоць на час, але прыпыніць сваю дзейнасць. Ды Бог, які, як вядома, жыве на Беларусі, проста не дазволіць! Будзе ліцэй, і будзе вучыцца ў ім улюбёны ў свой край і мову "сапраўдны нацыяналіст" Андрэй. Хаця б для таго, каб жыла надзея...

**Яўген РАГІН**

**P.S.** 16 чэрвеня навучэнцы ліцэя і іх бацькі з дазволу гарвыканкама ладзілі пікет. Сабрана было каля 1000 подпісаў за захаванне ліцэя. У першай палове наступнага дня бацькі ліцэістаў сустрэліся з віцэ-прэм'ерам У. Замяталіным. Ён паабяцаў, што праект зліцця дзвюх навучальных устаноў пакуль будзе прыпынены.

**Я. Р.**

АДГАЛОСКІ

# Мужнае слова "абараню"

6 чэрвеня ў памяшканні гуманітарнага ліцэя адбылося пасяджэнне рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы. На працягу амаль пяці гадзін абмяркоўваўся сучасны стан беларускамоўнага навучання ў ВНУ краіны. Выступалі актывісты ТБМ: эканамісты, медыкі, матэматыкі. Падчас абмеркавання ўзнікалі спрэчкі па розных пытаннях, гучала крытыка ўлады, адказных асобаў, што стаяць на чале ВНУ, і нават сродкаў масавай інфармацыі.

У той дзень мала гучала статыстычных дадзеных, але некаторыя лічбы, натуральна, былі названыя. Так, паводле слоў прафесара А. Саламонава, на сённяшні дзень у сталіцы Беларусі не існуе ніводнай цалкам беларускамоўнай школы. Толькі 7,3 працэнта першакласнікаў маюць магчымасць вучыцца на роднай мове. Што датычыць адзінаццацікласнікаў, то іх — 33 працэнты. І гэта ў двухмільённым Мінску! Ёсць нават звесткі, што будзе знята вывучэнне мовы на першых курсах ВНУ. Такім чынам, не толькі ў школе падлетак не атрымлівае належнай беларускай адукацыі, але і ў інстытуце такая магчымасць усяляк абмяжоўваецца. Напрыклад, колькасць гадзін для выкладання роднай мовы скарацілася з 90 да шасцідзесяці. Прафесар звярнуў увагу на той факт, што міністр В. Стражаў, выступаючы на канферэнцыі, прысвечанай праблемам навучання ва ўмовах інтэграцыі, выказаўся за скіраванасць адукацыі на збліжэнне Беларусі і Расіі. Як каментар да сказанага і ілюстрацыя становішча мовы карэннага насельніцтва краіны прагучалі з вуснаў кіраўніка мінскай рады ТБМ словы Ларысы Геніюш:

***Сёння на пласе родная мова —***<br>
***Вырваць жывую належыць з агню.***<br>
***Слова "кахаю" тут слабае слова,***<br>
***Мужнае слова "абараню".***

З мэтай атрымання дакладных звестак аб стане беларускамоўнага навучання ў вышэйшых навучальных установах таварыствам быў разасланы ліст з анкетай, якая ўтрымлівала 12 пытанняў. Гэта ініцыятыва, паводле слоў арганізатараў, патрэбна яшчэ і з прычыны неабходнасці ўсведамлення рэктарамі розных ВНУ таго, што іх дзейнасць знаходзіцца пад пільным паглядам грамадскасці. Вынікі апытання заслугоўваюць таго, каб быць апублікаванымі. Табліца, змешчаная ўсяго на двух аркушах паперы, сведчыць як пра адносіны асобных чыноўнікаў, так і пра пэўную дзяржаўную палітыку. Як падкрэслівалася, большасць апытаных не валодае інфармацыяй і дае неканкрэтныя адказы, што з'яўляецца, на думку прысутных, досыць красамоўным фактам.

Так, напрыклад, некаторым рэктарам невядома дакладная лічба абароненых па-беларуску дысертацый. Гэта значыць, што падобная статыстыка ў ВНУ не вядзецца, а, напрыклад, кіраўніку Акадэміі музыкі нічога не застаецца, як адказаць, што "абароны на бел. мове адбываюцца". Што ж, ужо добра, што "адбываюцца". Тым больш, што, гледзячы на адказы іншых рэктараў, разумееш: названая ўстанова вылучаецца сярод астатніх. Таксама як вылучаецца з агульнай масы недакладнасцяў і абыякавасці Беларускі дзяржаўны тэхналагічны універсітэт. Яго рэктар І. Жарскі не толькі ведае колькасць беларускамоўных выкладчыкаў, але і можа пералічыць, якія прадметы выкладаюць гэтыя людзі. Некаторыя, прачытаўшы апошнія радкі, здзівяцца: навошта звяртаць увагу на такія дробязі? Ці варта выдаваць за нейкія дасягненні тое, што павінна быць натуральным для нацыянальнай адукацыі? А гэта як паглядзець... Напрыклад, кіраўніцтва Акадэміі кіравання ў адказ на канкрэтныя пытанні шле ў ТБМ ліст з кампліментамі на адрас беларускай мовы, выкарыстоўваючы пры гэтым адзіную (!) лічбу. Краіна павінна ведаць сваіх "герояў". А таму проста неабходна, лічу, узгадаць рэктара Белдзяржуніверсітэта транспарту В. Ярашэвіча. На пытанне, ці карыстаецца ён асабіста беларускай мовай, чыноўнік адказвае: "Владею свободно и широко использую". Хто паверыць у сказанае? Ад чалавека жадаюць даведацца, што, на яго думку, стрымлівае развіццё беларускамоўнага навучання. І ён піша: "ничто,... кроме внутренних законов эволюции". Што ж гэта за "внутренние законы эволюции", якія перашкаджаюць беларусам беларусамі быць, а не толькі звацца?! Дайшло да таго, што ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце беларуская мова выкладаецца як замежная. Паказальна, што пытанне аб прычынах стрымлівання развіцця роднай мовы многія кіраўнікі ВНУ пакінулі без адказаў. Можна толькі здагадвацца, што мог напісаць у адпаведнай графе чалавек, які "вольна валодае бел. мовай і карыстаецца ёю ў межах сённяшніх рэалій". Іншыя, напэўна, меўшы на ўвазе тыя ж рэаліі, сціпла пісалі: "неакрэсленая крызісная сітуацыя ў грамадстве", "скарачэнне беларускамоўных класаў і школ", "адсутнасць дзяржаўнай палітыкі". Большасць з прысутных на пасяджэнні не толькі разумелі, што дзяржаўная палітыка ў галіне нацыянальнай адукацыі ёсць, але і ведалі накірунак той палітыкі. Настаўніца матэматыкі Л. Майсеня скардзілася, што пасля рэферэндуму 95 года зніклі аргументы на карысць навучання па-беларуску. Яна больш не можа сказаць, што ведаць мову сваю карысна для кар'еры, паколькі дзяржаўны статус з мовы фактычна зняты. Як адзначалася, многія людзі блытаюць прычыны гаротнага стану беларускамоўнага навучання з вынікамі правядзення пэўнай палітыкі. Так, шмат хто з настаўнікаў спасылаецца на недахоп або адсутнасць літаратуры. Адзін з прамоўцаў у адказ на гэта прапанаваў выкладчыкам самім пісаць неабходныя падручнікі і дапаможнікі. "Каму яшчэ?" — спытаў ён. Але, як вы разумееце, справа гэта цяжкая і патрабуе немалых высілкаў і грошай. Апошнія трэба шукаць, як робіць гэта доктар медыцынскіх навук Астроўскі. Ён распавёў прысутным, як у сябе ў Гародні адшукаў беларускамоўных выкладчыкаў і з дапамогаю грантадаўцаў матэрыяльна падтрымлівае лепшых з іх. Ён жа прапанаваў наступную ідэю: ТБМ вылучае людзей, якія здольныя працаваць на карысць павелічэння колькасці вучэбнай літаратуры. Гэтыя людзі звязваюцца з падобнымі на ТБМ грамадскімі арганізацыямі Украіны і Расіі. І на глебе гэтага "славянскага братэрства" ствараюцца пераклады на нацыянальныя мовы лепшых твораў па дысцыплінах самай рознай скіраванасці (прыродазнаўчых, спецыяльных і г. д.). Пры гэтым аўтар перакладу становіцца сааўтарам кнігі, а самі падручнікі бясплатна перадаюцца ў бібліятэкі. Пад гэту ідэю, упэўнены медык, абавязкова знойдуцца грошы, і, магчыма, у гэтым ён мае рацыю. Звярталася на пасяджэнні ўвага і на якасць ужо існуючых перакладаў. Так, паводле Л. Майсені, падручнікі па матэматыцы ўтрымліваюць у сабе недарэчнасці, кшталту: "З Тамбова ў Разань поезд ідзе некалькі хвілін..." Быццам поезд не можа ехаць, напрыклад, з Мінска ў Брэст... Разглядаючы прычыны таго, што беларуская адукацыя знаходзіцца ў такім незайздросным стане, прамоўцы міжволі звярталіся да найноўшай гісторыі Беларусі, шукаючы памылкі з мэтай не дапускаць іх у далейшым. У прыватнасці, была выказана думка, што справу беларусізацыі трэба было пачынаць са школы, а не з ВНУ. Гэта сцвярджэнне не бясспрэчнае. Пашырэнне нацыянальнага павінна адбывацца аднachасова па ўсіх накірунках: ад дзіцячага садка да Акадэміі навук.

Прадстаўнік Беларускага хельсінкскага камітэта В. Костка ў сваёй прамове падкрэсліў: тое, што адбываецца з беларускай мовай і нацыянальнай адукацыяй у РБ, на мове юрыспрудэнцыі называецца парушэннем правоў грамадзян. А таму неабходна стварыць сумесную камісію ТБМ і БХК і, вырашаючы ўласныя праблемы, супрацоўнічаць з міжнароднымі праваабарончымі арганізацыямі.

Віцэ-прэзідэнт Таварыства беларускай школы А. Лозка распавёў пра намаганні ТБШ у змаганні за беларушчыну. Конкурсы сярод школьнікаў арганізоўваць варта і трэба, падкрэсліваў выступоўца, паколькі гэта дапамагае абуджэнню нацыянальнай свядомасці і раскрыццю здольнасцяў дзяцей. Конкурс "Не пакідайце ж мовы нашай...", які праводзіцца сярод вучняў 4—11 класаў, меў форму спаборніцтва маладых людзей у напісанні "Ліста да..." Як ні дзіўна, большасць сачыненняў атрымана з рэгіёнаў. "Адрасаты" ў іх самыя розныя: бацькі, парламентарыі, прэзідэнт. Колькасць работ сведчыць пра неабыякавасць моладзі да справы адраджэння беларускай мовы, культуры, гісторыі і пакідае надзею на лепшае заўтра роднай старонкі.

Спадар А. Белы ў сваім выступленні акцэнт зрабіў на ролі манументальнай прапаганды і падкрэсліў неабходнасць узвядзення помнікаў Роднаму слову і тысячагоддзю беларускай дзяржаўнасці.

Бадай, самымі цікавымі і карыснымі на пасяджэнні былі канкрэтныя парады і прапановы. Гучала іх даволі шмат, і прывесці іх зараз будзе складана. Тым больш, што пастанова рэспубліканскай рады ТБМ яшчэ дапрацоўваецца. Вось толькі некаторыя меры, якія неабходна прыняць з мэтай паляпшэння становішча з беларускамоўным навучаннем: звярнуцца ў Мінадукацыі з патрабаваннем пакінуць без змен колькасць гадзін на вывучэнне беларускай мовы. Спыніць яе цкаванне. Прызнаць беспадстаўнымі спасылкі на вынікі рэферэндумаў, паколькі ніколі наш народ не адказваў згодай на прапановы знішчыць нацыянальную спадчыну. Увесці для ўсіх студэнтаў і навучэнцаў абавязковы экзамен па беларускай мове. Аднавіць на дзяржаўным узроўні матэрыяльнае заахвочванне выкладчыкаў, якія працуюць на ніве адраджэння. Зняць са слова "нацыяналізм" ганебны сэнс. Усё справаводства весці на роднай мове. Працягнуць збор подпісаў за адкрыццё нацыянальнага універсітэта і распачаць адпаведную працу.

Дарэчы, пра нацыянальны універсітэт было сказана шмат. Выказваліся, напрыклад, меркаванні, што сёння гэта ідэя нерэальная і толькі адцягне ўвагу ад справы беларусізацыі ўжо існуючых навучальных устаноў. Алег Трусаў прысвяціў "універсітэцкай праблеме" ўсё сваё выступленне. На яго думку, стварыць гэту унікальную ўстанову магчыма і трэба ўжо восенню гэтага года. Першапачаткова на грамадскіх пачатках. Пры гэтым, падкрэсліў Трусаў, колькасць студэнтаў не мае значэння. Галоўнае — сам факт існавання такой ВНУ. А жадаючых вучыцца ў ёй, запэўніў прамоўца, з кожным годам будзе ўсё болей. Прыкладам таму гуманітарны ліцэй. Як вядома, у апошняга зноў узніклі праблемы ў сувязі з планамі вышэйшых колаў аб'яднаць яго з іншай навучальнай установай. З гэтым катэгарычна не пагадзіліся ўсе прысутныя, выказаўшы свой пратэст у адмысловай заяве. Такую ж заяву прапаноўвалася прыняць з нагоды вынясення трэцяга папярэджання газеце "Наша Ніва". Далейшае выкарыстанне дарэформеннага правапісу пагражае выданню закрыццём. Але пачуліся воклічы: "Гэта ўжо палітыка", "Закон ёсць закон" і г. д. Слухаючы крытыку "Народнай волі", "Навінаў", "Беларускай маладзёжнай" і "ЛіМа", асабіста я не пачуў пераканаўчых аргументаў. Камусьці не спадабалася крытыка журналістамі плануемых помнікаў, камусьці адмовілі ў публікацыі... Хіба гэта падстава заяўляць, што "сённяшняя дэмакратычная прэса выкарыстоўвае бальшавіцкія метады працы"?.. Вядома, названым выданням далёка да ідэальных, але зноў пытаць "на чый млын ваду льюць" — выбачайце.

**Вадзім ДОЎНАР**





**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Васілю ТКАЧОВУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

*Жуль РЭНАР*

# Жыццё кароткае

З "ДЗЁННІКА"

Недастаткова быць шчаслівым: трэба яшчэ, каб іншыя не былі імі.

Я ніколі нічога не абяцаю, бо маю дурную прывычку выконваць свае абяцанні.

Я станаўлюся ўсё больш сціплым, але і ўсё больш ганарлівым за сваю сціпласць.

Ах! Сярод нашых маленькіх святлявых слаў колькі агаркаў!

Я не жыву больш насампраўдзе. Я ствараю эфект адлюстравання чалавека ў вадзе.

Не хутка прызвычайваюцца да смерці іншых. Як доўга трэба будзе прызвычайвацца да ўласнае смерці!

Дрэнна падкормленыя, усе мае праекты памерлі з голаду.

Сонца ўстае раней за мяне, але я кладуся пасля яго: мы квітыя.

— Машына ўнізе.
— Няхай падымецца.

Калі грошы не прыносяць шчасця, аддайце іх!

Я люблю самоту, нават калі я самотны.

Жыццё кароткае, аднак мы нудзімся.

Голас такі, што адчуваеш гідкасць да сваіх вушэй.

Адсутныя заўсёды робяць памылку і прыходзяць.

Я цалкам згодны з тым, каб людзі біліся на дуэлі баронячы свой гонар, пры той умове, што ён у іх ёсць.

Зайздрошчу славе не быць вядомым.

Мне нават ані разу не пашанцавала спазніцца на цягнік, які трапіў у катастрофу.

Адно страх смерці ўтрымлівае іх у жыцці.

Гляджу на сонечны прамень у змрочным пакоі. Паўнютка пылу. Няма нічога больш бруднага за сонечны прамень.

Уявіце жыццё без смерці. Адчай, штодня спробы самазабойства.

Бываюць дні, калі я ўяўляю, што першы ўбачыў жыццё.

Вы ніколі не скажаце столькі кепскага пра мяне, колькі мог бы я пра вас падумаць, калі б я думаў пра вас.

Ідэал спакою — у кату, што сядзіць.

Калі мысляры не раскажуць мне, што такое жыццё і смерць, то пляваў я на іхняе мыслярства.

У сваім жыцці я страціў больш як тысячу гадоў.

У маёй філіжанцы кава адлюстроўвае адно мае чорныя думкі.

Праводзяць пахаванні па першым класе — усё роўна як можна трапіць у рай на чыгунцы.

Смерць была б сном, калі б, час ад часу, можна было адкрыць адно вока.

Я не ведаю, ці існуе ён, але было б лепш, дзеля ягонага ж шчасця, каб ён не існаваў.

— Смерць іншых дапамагае нам жыць.

Які спакой! Я чую ўсе свае думкі.

Будзьце спакойныя! Я ніколі не забудуся на паслугу, якую вам зрабіў.

Я збудаваў такія прыгожыя замкі, што мне дастаткова будзе і іхніх руінаў.

Я не шчыры, і не шчыры нават у той момант, калі кажу вам, што я не шчыры.

Я не хаджу на свецкія імпрэзы, бо баюся, што пачую там мала кампліментаў.

Я не пайду за вамі, нават калі вы пойдзеце на край свету.

Што мне не падабаецца, не падабаецца мне менш, чым тое, што мне падабаецца, мне не падабаецца.

Не хацеў бы быць чалавекам адной мары.

Я люблю чытаць, як п'е курыца — падымаючы часта галаву, каб сцякала вада.

Маладосць — гэта няведанне, і я ведаю лепш, як у дваццаць гадоў, што не ведаю нічога.

Асцярожліва можна рабіць любую неасцярожлівасць.

Калі твой сябра кульгае на правую нагу, кульгай на левую, каб вашае сяброўства заставалася ў гарманічнай раўнавазе.

Думаць недастаткова: трэба думаць пра што-небудзь.

Калі б збудавалі дом шчасця, найвялікшым пакоем была б чакальня.

Я добра, выразна бачу свой бюст у цэнтры старажытных могілак з такім надпісам: "Жулю Рэнару, яго абыякавыя нашчадкі".

Ён жыве анічым: маленькі боль займае ўсё яго жыццё.

Цывілізаваны чалавек, гэта той, што атрымае лепш удар кулаком, чым поўху.

Не будзіце гора, якое спіць.

Скарачаць сваё жыццё гэтаксама цікава, як яго расцягваць.

Сапраўднае шчасце — калі згадваеш цяперашні час.

Выходзь, ідзі! Прагульвайся! Страчанае добрае надвор'е не знаходзіцца зноў ніколі.

Сівыя валасы, пыл часу.

Сама лепш, гэта калі ворагу блага.

Самае праўдзівае, самае дакладнае слова, найбольш напоўненае зместам — гэта слова "нічога".

Талент, гэта як грошы: неабавязкова яго мець, каб гаварыць пра яго.

Я ведаю нарэшце, што адрознівае чалавека ад жывёл: гэта ягоны грашовы клопат.

Усё прыгожае. Трэба гаварыць пра парасё, як пра кветку.

Агульныя ідэі. Названыя так, бо ніхто іх не скарыстоўвае.

Камерсанты працуюць, нават думаюць пра нешта, але марыць за іх самых іхняя люлька.

Шукайце смешнае ва ўсім — вы яго знойдзеце.

Перавага кветкі над букетам.

Сціпласць можа быць своеасаблівым гонарам, які аддае перавагу патаемнай лесвіцы.

Лянота: звычка адпачываць да наступу стомы.

Гэта пытанне чысціні: трэба мяняць погляд як кашулю.

Ягоная душа ўжо з жыватом.

Іронія — цнатлівасць чалавецтва.

Калі гэтаму чалавеку з урада сказалі: "Ваша жонка мёртвая", — ён запытаўся:

— Гэта афіцыйна?

Мастак — гэта чалавек, які носіць берэт.

У яго нават у машыне выгляд такі, што ён ідзе пешкі.

Ён любіць падарожжы. Што яго натамляе, дык гэта перамена месцаў.

Колькі людзей хацелі пакончыць з сабою і задаволіліся тым, што парвалі сваю фатаграфію!

Калі жанчыне кажуць, што яна прыгожая, яна думае, што яна разумная.

Гэта самая верная з жанчын: яна не падманула аніводнага свайго каханка.

Калі б аднойчы жанчына змусіла мяне памерці, дык ад смеху.

Самая экстраардынарная жанчына, якую калісь сустракаюць, гэта тая, якую толькі што кінулі.

Бледная, усё роўна як снегам харчуецца.

Развод — легальны сродак для жанчыны застацца сумленнай, не пражыўшы жыццё з адным чалавекам.

— Аднойчы жанчына прызналася мне ў каханні, і я заснуў.
— О!
— У яе ў руках.

Жанчына такая святлявая, што не відаць яе твару ўдзень, усё роўна як негра ўначы.

Не кажыце ніколі жанчыне, што яна непрыгожая. Скажыце адно, што яна не падобная да іншых, і перад вамі адкрытыя ўсе шляхі.

Пра тоўстую жанчыну кажуць, што ў яе добра схаваныя косці.

Акт кахання яшчэ і вызваленне. Пасля яго ты ўсё ж такі крыху менш дурны.

У вас ёсць нервы, Мадам. У мяне нерв адзіны, але ён бычыны.

Празрыстасць — ветлівасць літаратара.

Людзі, у якіх знаходзяць талент і якіх ніколі не чытаюць.

Хіба сын Верлена падобны да Рэмбо?

Напісаная думка мёртвая. Яна жыла. Яна не жыве болей. Яна была кветкаю. Пісьмо зрабіла яе штучнай, гэта значыць непахіснай.

Перад добрымі кнігамі я аддаю перавагу добрай старонцы, а перад добрай старонкаю — добрай фразе.

Укладай у тое, што пішаш, крыху святла месяца.

Можна быць паэтам з кароткімі валасамі.
Можна быць паэтам і аплачваць сваё жытло.
Хоць ты і паэт, можна класціся спаць з жанчынаю.
Паэт, часам, можа пісаць па-французску.

Я падлічыў: літаратура можа пракарміць зябліка, вераб'я.

Баюся рыфмы, асабліва ў прозе.

Стыль — гэта забыццё на ўсе стылі.

Акадэмія, камуна бессмяротных.

Самыя прыгожыя старонкі пра вёску пішуцца ў бурлівым горадзе.

З усяго, што мы пішам, будучыня пакіне сама болей адну старонку. Я хацеў бы выбраць яе сам.

Ён піша з вышыні птушынага палёту.

Ах! Якія цяжкія становяцца кнігі.

Жуль Рэнар — гэта кішэнны Мапасан.

Маргарытка — чырвоны рот, у якога зубы з усіх бакоў.

Вербы ў вадзе па шыю.

Лісток, бедны сродзіч кветкі.

Дождж пакідае на зямлі зорныя люстэркі.

Аблокі, аблокі, куды вы бяжыце? Тут так хораша!

У ружаў кроў у галаве.

Ёсць дрэвы, у якіх злосны выгляд, быццам у іх выкручаныя душы.

Месяц — медаль на шыі ў начы.

Зоркі. У Бога ёсць святло.

Ёсць, можа быць, галіны, на якія ніколі не сядалі птушкі.

У дрэваў пад дажджом спіна робіцца больш цяжкая.

Зорка хаваецца. Яна прымае мяне за паэта. Яна баіцца, што я яе зарыфмую.

Гэтае ночы месяц вока не заплюшчыў.

Ластаўка, улюбёная цацка ветру.

Жаўранак падымаецца, падымаецца. Зараз ён сядзе на кончык пальца Бога.

Бусел нават на зямлі ўсё роўна як сядзіць на буслянцы.

Птушка ў клетцы не ведае, што яна не ўмее лётаць.

Рот, гэтае прыгожае гняздо голасу.

Званы жывуць у небе, усё роўна як птушкі.

Дым: сон агню.

Хто не бачыў Бога, той не бачыў нічога.

Хітрамудры, Бог адкрыў нам прастору, не даўшы крылаў.

Богу няблага ўдалася прырода, але з чалавекам ён пацярпеў няўдачу.

Я год баўлю кажучы сабе, што нельга губляць ні хвіліны.

Раю няма на зямлі, але ёсць ягоныя кавалкі. На зямлі — расколаты рай.

Адзін толькі час не губляе свайго часу.

Я нічога не разумею ў жыцці, але я не кажу, што гэта немагчыма, каб Бог хоць што ў ім разумеў.

**Пераклад з французскай Алеся АСТАШОНКА**




ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Мікола ГІЛЬ — *намеснік галоўнага рэдактара*
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Віктар ШНІП — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4282
Нумар падпісаны ў друк 18.6.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 3678/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12